ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

19 жніўня 1994 г. № 33 (3755) Кошт 250 руб.

## ХТО БУДЗЕ СТВАРАЦЬ ЗАКОНЫ?

***Яўген ЛУГІН: «За гады савецкай улады нас прывучылі да думкі, што ўсё залежыць ад першай асобы ў дзяржаве. Так яно і было. Але зараз іншы час. І калі мы, выбраўшы прэзідэнта, будзем толькі ад яго чакаць лепшага жыцця, то хутка наступіць глыбокае расчараванне».***

**5**

## ІМПЕРЫЯ СПЕЦСХОВУ

***Валерый ГЕРАСІМАЎ: «Заснаваная бальшавікамі 14 снежня 1921 года імперыя спецсхову (Галоўліта) — гэта апафеоз цэнзуры, абмежавання і ўціску кніжнай прадукцыі, якія існавалі да таго ў сусветнай практыцы. Спецсхоў стаў сапраўднай «ЧК выдавецкай і бібліяграфічнай справы», крывавым кніжным мясніком, пад сякерай якога аказаліся лепшыя дасягненні думкі беларускай нацыі».***

**6—7**



*Сярод дзеячаў беларускага замежжа, якія пастаянна жывуць беларускай ідэяй, рупяцца аб тым, каб не знікалі, развіваліся нацыянальныя мова, культура, літаратура, — адметная постаць вядомага пісьменніка, эсэіста Сакрата ЯНОВІЧА, што жыве і працуе ў Польшчы, на Беласточчыне, і творчасць якога сілкуецца любоўю да бацькоўскай зямлі і яе людзей...*

*Фота У. ПАНАДЫ*

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

Кожная падпісная кампанія падкідвае нам новыя і новыя выпрабаванні. Здаецца, на гэты раз мы прадугледзелі ўсё, аднак — не, зноў у падпісным каталозе пасля назвы нашага тыднёвіка пустыя клеткі. На гэты раз не пазначаны кошт падпіскі.

Паважаныя чытачы! Звярніце ўвагу на гэтыя лічбы — кошт падпіскі на «ЛіМ» складае:

**на 3 месяцы — 6000 рублёў,**
**на 2 месяцы — 4000 рублёў,**
**на 1 месяц — 2000 рублёў.**

Паведамляйце кошт падпіскі на «ЛіМ» сваім знаёмым і сябрам, а таксама ў аддзяленнях сувязі, дзе афармляецца падпіска.

Наш індэкс — 63856.

**Падпішыцеся на «ЛіМ» — ужо сёння!**
**Атрымлівайце «ЛіМ» — кожную пятніцу!**
**Чытайце «ЛіМ» — увесь тыдзень!**

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Тыя, хто галасаваў за Лукашэнку, чакалі ад яго крутых мер у барацьбе з мафіяй і крутога паляпшэння жыцця. Ідуць дні, тыдні, а прэзідэнт, які, аказваецца, не чакаў, што яму пасля Кебіча дастанецца гэтакая разбураная гаспадарка, усё яшчэ не сфарміраваў урад, які будзе выводзіць эканоміку краіны з крызісу. Больш таго, новы ўрад (прэм'ер-міністр, чатыры ягоныя намеснікі і немалы апарат Кабінета міністраў) дагэтуль не мае праграмы надзвычайных мер па выхадзе эканомікі нашае дзяржавы з дэпрэсіі. Праект гэтае праграмы павінен быць падрыхтаваны спецыяльнай зводнай групай пад кіраўніцтвам вядомага «рыначніка» С. Лінга да 25 жніўня. Потым ён будзе разгледжаны ўрадам, а пасля ўнясення ўдакладненняў і змяненняў — чарговай сесіяй Вярхоўнага Савета... На ўласным вопыце сп. Лукашэнка ўпэўніўся, што без каманды і праграмы стаць прэзідэнтам можна, а быць прэзідэнтам немагчыма. Вось і губляюцца першыя месяцы прэзідэнцтва на тое, без чаго прэтэндэнты не адважваюцца нават назвацца кандыдатамі... Але — мы толькі вучымся дэмакратыі. На жаль, не на чужых, а на сваіх памылках.***

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Барацьба пэўных колаў грамадства за правы рускай мовы ў краіне не павінна прывесці да фактычнай страты таго здабытку, аб якім марылі лепшыя людзі Айчыны некалькі стагоддзяў запар, — дзяржаўнасці беларускай мовы. Да якой, дарэчы, нягледзячы на канстытуцыйны статус, фактычна яшчэ так далёка...»

*(З выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі М. Грыба на нарадзе кіраўнікоў дыпламатычных і консульскіх устаноў Беларусі за мяжой).*

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Заўтра мы прачнёмся і будзем жыць па новых цэнах. Аднак нулёў стане менш не толькі на цэнніках у крамах, але і ў ведамасцях на атрыманне заробку... Урад Беларусі і Нацыянальны банк прынялі, нарэшце, абсалютна разумнае і справядлівае рашэнне аб правядзенні 20 жніўня дэнамінацыі беларускага рубля ў 10 разоў. Цяпер нашыя грошы ў сваім намінале па адносінах да долара амаль выраўняюцца з расійскімі рублямі. Выраўняюцца і цэны на хлеб, малако, гарэлку... Вось толькі нашыя заробкі і пенсіі адсталі ад расійскіх. Безнадзейна?

## ПАМЯРКОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

Пяты месяц на Беларусі ідзе чэкавая прыватызацыя. За гэты час толькі 2,6 працэнта грамадзян краіны атрымалі сертыфікаты чэкаў «Маёмасць». Тлумачыцца гэта, па-першае, тым, што працэс атрымання чэкаў занадта ўскладнены, па-другое, наш прэзідэнт некалі адмоўна паставіўся да гэтакай «прыхватызацыі» і шмат хто чакае, што ў рэшце рэшт ён яе адменіць. А калі так, то навошта некалькі месяцаў хадзіць па ЖЭСах, бухгалтэрыях, ашчадбанках...

## «НЕВЕРАГОДНАСЦЬ» ТЫДНЯ

Нельга прамінуць выпадак, пра які распавяла 16 жніўня «Звязда». На Беларусь у адведкі прыехаў наш суайчыннік, цяпер грамадзянін ЗША Януш Кута. Пабываў ён у роднай вёсцы на Пастаўшчыне, наведаў магілу маці, знайшоў у гарадскім парку бярозу, ля якой у часы вайны маці была расстраляна... І не вытрымала хваляванняў сэрца — інфаркт. Як толькі ў ЗША даведаліся пра хваробу амерыканскага грамадзяніна (дарэчы, цяпер пенсіянера, а да пенсіі Я. Кута працаваў токарам), з Англіі ў Мінск выляцеў спецыяльны медыцынскі самалёт з брыгадай медыкаў. Цяпер Я. Кута лечыцца ў шпіталі ў Чыкага. Здароўе ягонае папраўляецца... Нашых каментарыяў гэты ўражальны выпадак, пэўна ж, не патрабуе. Ці дажывём мы, альбо нашы ўнукі да таго дня, калі Беларусь пашле самалёт за акіян па свайго хворага пенсіянера, былога простага токара...

## «АПЕРАЦЫЯ» ТЫДНЯ

На мяжы з Расіяй, у Горацкім раёне, мытнікі правялі чатырохдзённую буйную аперацыю па выяўленні «кантрабандыстаў». Пры гэтым прымяняліся верталёты і іншыя сучасныя сродкі сувязі. У выніку не выяўлена ніводнага выпадку вывазу хлеба ці малочных прадуктаў. Затрыманы толькі «мяшэчнікі» з бульбай, агароднінай і дробнымі прамысловымі таварамі. Як паведаміў начальнік Магілёўскай мытні Леанід Досаў, прадухілены вываз прадукцыі на 10 з лішнім мільёнаў рублёў. Газета «Рэспубліка» дапаўняе гэтую інфармацыю невялікім удакладненнем: адна «лётная гадзіна» верталёта каштуе зараз больш за тры мільёны рублёў...

## БЕСКАНТРОЛЬНАСЦЬ ТЫДНЯ

На невясёлы роздум змушае інфармацыя пра тое, што ў адселеных пасля аварыі на ЧАЭС вёсках Брагінскага раёна сабраны ўвесь ураджай вішняў, маліны, садовых суніц... Што ж людзям рабіць, калі паліцы адзінай у Брагіне крамы «Садавіна-гародніна» — пустыя.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

24566 хлопцаў прызваны сёлета на вайсковую тэрміновую службу ва Узброеныя Сілы, памежныя, чыгуначныя, унутраныя войскі і КДБ Беларусі. Гэта складае 116,9 працэнта ад задання, якое было зацверджана Саветам Міністраў Рэспублікі. І тым не менш, па разліках спецыялістаў Міністэрства абароны, укамплектаванасць Узброеных Сіл краіны пасля гэтага прызыву і звальнення ў запас «дзядоў» складзе ў сярэднім каля 75 працэнтаў ад неабходнае па штаце. Рэальная лічба колькасці войск на Беларусі, як бачым, вымалёўваецца сама сабою (недзе каля 50 тысяч), але куды тады *падзець генералаў і вышэйшых афіцэраў?*

## НАМЕР ТЫДНЯ

Пачаліся перадпраектныя работы па будаўніцтву на Беларусі цэлюлозна-папяровага камбіната магутнасцю 80 тысяч тон паперы ў год. Мяркуемае месца размяшчэння камбіната — Віцебская вобласць. Паперы, што будзе вырабляцца тут, павінна хапіць на патрэбы беларускага друку. Нарэшце, на Беларусі пачалі нешта рабіць, каб зменшыць нашую залежнасць ад Расіі. У самой Расіі даўно ўжо вядуцца работы па выпуску трактароў, аналагічных нашым трактарам «Беларусь», а таксама аўтамашын, кормаўборачных камбайнаў, халадзільнікаў...

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка сустрэўся са сваімі землякамі ў... лазні горада Шклова, куды па даўняй звычцы прыехаў папарыцца. Як паведамляе тыднёвік «Свабода», раней бываў ён тут штотыдзень, але пасля выбрання прэзідэнтам давялося А. Лукашэнку на час «здрадзіць» сваёй звычцы. Парыўся прэзідэнт без аховы.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Міністрам аховы здароўя Беларусі стала народны дэпутат з Гомеля Інэса Драбышэўская, вядомая сваёй прынцыповай пазіцыяй у барацьбе з наменклатурнымі ўтойваннямі праўды аб выніках чарнобыльскай катастрофы.



З нагоды

# І МАЕМ, ШТО МАЕМ,

## АБО НЕПРЫЧАСАНЫЯ ДУМКІ З НАГОДЫ ЧАРГОВАГА ПАВЫШЭННЯ ЦЭН

Такім чынам, эксперымент над намі працягваецца. Я маю на ўвазе чарговы цэнатрус — элемент шокавай тэрапіі, з дапамогай якой шматпакутную нашу эканоміку вось ужо трэці год спрабуюць вывесці з каматознага стану.

Паводле тлумачальнага слоўніка, шок — гэта: «Агульнае расстройства функцый арганізму ў выніку псіхічнага ўзрушэння або фізічнага пашкоджання». Лічыцца, што ў псіхіятрыі шокавая тэрапія дае станоўчыя вынікі. На жыцейскай мове гэта азначае — клін выбіваюць клінам. Да вар'ята падключаюць, напрыклад, электрычны ток, каб яго як след страсянула (электрашок), пасля чаго, магчыма, «шарыкі» ў ягонай галаве пачнуць круціцца ў належным кірунку.

Прыхільнікі прымянення шокавай тэрапіі ў хворай эканоміцы лічаць, што шляхам вар'яцкага павышэння цэн можна ліквідаваць бюджэтны дэфіцыт, утаймаваць інфляцыю, словам, паставіць эканоміку на ногі. У нашай навейшай гісторыі такія прэцэдэнты мелі месца. Узяць тую ж пасляваенную Германію, посткамуністычную Польшчу, некаторыя іншыя краіны, дзе менавіта шокавая тэрапія дапамагла аздаравіць эканоміку, надаць ёй імпульс для паспяховага развіцця. Але, падкрэслім, пры шэрагу іншых спрыяючых умоў і акалічнасцей.

А ў нас? Ды спачатку задамо сабе пытанне, ці магла наша дзяржава пазбегнуць апошняга рэзкага павышэння цэн на самыя хадавыя прадукты харчавання: хлеб, мяса, малако і ўсё, што робяць з малака? Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка ў сваім тэлевыступленні напярэдадні гэтай акцыі з павышэннем цэн адназначна адзначыў — іншага выйсця няма: казна пустая, рознічныя цэны на прадукты харчавання не пакрываюць і дзесятай долі выдаткаў на іх вытворчасць, і трэба гэтыя цэны прыводзіць у адпаведнасць з выдаткамі. На практыцы гэта азначае, што дзяржава ўсе цэны «адпускае», спыняе іх датаванне.

Што тут можна сказаць? У тым, што цэнаўтварэнне ў былым СССР было пастаўлена з ног на галаву і з'яўлялася характэрнай рысай каманда-адміністрацыйнай сістэмы, дзвюх думак быць не можа. На жаль, на Беларусі, дзе да апошняга часу тая адміністрацыйна-камандная сістэма захавалася амаль без змен, падыходы да цэнаўтварэння заставаліся ранейшымі, савецкімі. І, вядома, шукаць выйсця з гэтага зачараванага кола неабходна. Але якім чынам? Прэзідэнт і яго каманда вырашылі зрабіць гэта шляхам яшчэ большага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва рэспублікі. Лічачы, відаць, што цярпенне яго яшчэ да канца не вычарпана. Сапраўды, не вычарпана. Можна і пацярпець. Але пры адной умове: народ не будзе ў чарговы раз падмануты ў сваіх чаканнях, сваіх надзеях. Што гэтае завінчванне, фігуральна кажучы, цэнавых гаек сапраўды будзе апошнім (а менавіта такія абяцанні раздаюць налева і направа сённяшнія ўлады).

У сувязі з усім гэтым у мяне асабіста ўзнікае шэраг пытанняў, якія я паспрабую папулярна выкласці.

Першае. Мяркуючы па апошніх выступленнях А. Лукашэнкі і членаў яго каманды, першачарговая задача, якую яны ставяць перад сабой — пажарным парадкам дапамагчы аграрнаму сектару, які з-за *парушанага парытэту цэн* нясе вялікія страты. Няма на што купляць тэхніку, машыннае паліва, будаўнічыя матэрыялы, няма чым аплачваць працу хлебаробаў. Бясспрэчна, усё на самай справе так. Пытанне ў іншым: ці дасць карысць, ці выправіць становішча чарговае (якое ўжо па ліку) фінансавае «ўліванне» ў нашу ў цэлым нерэнтабельную калгасна-саўгасную сельскую гаспадарку, з яе надзвычай нізкай прадукцыйнасцю працы, стратай адвечных сялянскіх традыцый, фактычнай люмпенізацыяй значнай часткі вясковага люду? І ўсё гэта ў спалучэнні з тым, што рынкавыя рэформы ў нашым аграрным сектары, у адрозненне ад той жа Расіі і некаторых іншых рэспублік былога Саюза, *амаль не пачыналіся.* У гэтым плане ў нас, як кажуць, тут яшчэ конь не валяўся.

Другое. Акцыю па павышэнні цэн суправаджаюць галасы суцяшэння, супакойвання, адрасаваныя маламаёмаснай катэгорыі грамадзян: пенсіянерам, шматдзетным сем'ям, інвалідам, студэнтам, якім быццам бы будзе гарантавана 100-працэнтная кампенсацыя ўсіх іх выдаткаў, звязаных з падаражаннем прадуктаў. Не ведаю, як каму, а мне ў гэта верыцца слаба. Хоць бы па той прычыне, што з уласнага вопыту мы ведаем: варта афіцыйна павысіць цану хоць на адзін нейкі тавар, як адразу ж пачынаецца ланцуговая рэакцыя — імгненна падскокваюць цэны на ўсё іншае — ад цвікоў да школьных абедаў.

Гэта што датычыць «бедных» грамадзян. А не «бедных»? Ці хто яны — нашы ўрачы, настаўнікі, журналісты, біблія-тэкары, іншыя бюджэтнікі, якім ніякая кампенсацыя ў сувязі з павышэннем цэн (і не толькі на прадукты харчавання, дадамо да гэтага павышэнне ў некалькі разоў кватэрнай платы, аплаты камунальных паслуг, праезда ў гарадскім і чыгуначным транспарце) не прадугледжана?

Яшчэ пра «бедных» і «багатых». Шчыра кажучы, я не вельмі разумею, для чаго патрэбна гэтае, нарастаючае апошнім часам, настойлівае педаліраванне прэзідэнцкай камандай думкі аб рэзкім маёмасным раздзяленні нашага грамадства, узнікненні класа багацеяў і эксплуататараў, якія, бачыш, нават хлеб куплялі па таннай цане ў 300 рублёў за бохан, аб'ядаючы гэтым бедных. Дык што, мо пачнём біць гэтых, кажучы маршакоўскім радком, «владельцев заводов, газет, пароходов»? Але ж краіна наша гэта ўжо праходзіла. І да чаго ўсё гэта прывяло, мы зведалі да слёз. Хай нашы багацеі (калі яны сапраўды ёсць) плацяць вялікія падаткі, хай улада сочыць, каб яны не парушалі законаў, а ва ўсім астатнім якія могуць быць да іх прэтэнзіі? Сусветны вопыт сведчыць — чым больш у краіне заможных людзей, тым заможней краіна.

І трэцяе. Пачну з цытаты. «Адміністрацыйнае рэгуляванне цэн бесперспектыўнае ў прынцыпе, а ў цяперашніх умовах смерці падобнае. Прафесійна некарэктна запэўніваць народ у тым, што, *павысіўшы цэны,* урад зможа іх кантраляваць і забяспечыць справядлівую кампенсацыю. Не ўлічваюцца ж пры гэтым рэальныя цэны ні ценявой эканомікі, ні свабоднага рынку. У гэтых сферах адразу адбудзецца цэнавы ўсплеск — як і чым яго кампенсаваць? Друкаваць новыя грошы, падганяць інфляцыю?»

Гэта вытрымка з аднаго з газетных выступленняў вядомага расійскага эканаміста, акадэміка С. Шаталіна. Напісана гэта было чатыры гады назад, а як, пагадзіцеся, гучыць сучасна. Прынамсі, для нас...

**М. ЗАМСКІ**

# У ГАСЦЯХ У «МАЛІНАВЫХ БЕРЭТАЎ»

Днямі часці ўнутраных войск МУС Мінскага гарнізона наведаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Разам з ім былі Дзяржсакратар Савета бяспекі рэспублікі В. Шэйман і міністр унутраных спраў генерал-маёр унутранай службы Ю. Захаранка. Прэзідэнт прадставіў асабоваму складу войск новага намесніка міністра ўнутраных спраў — камандуючага ўнутраных войск генерал-маёра В. Агальца.

Потым госці наведалі музей гісторыі ўнутраных войск Беларусі, баявы летапіс якіх вядзе свой адлік з 18 сакавіка 1918 года. Прэзідэнт усклаў жывыя кветкі да бюста яфрэйтара Мікалая Захарава, які загінуў у 1948 годзе ў час бою пад Ваўкавыскам з бандгрупай.

У кароткім выступленні А. Лукашэнка адзначыў, што прыярытэтнай задачай воінаў унутраных войск па-ранейшаму застаецца ахова грамадскага парадку і актывізацыя дапамогі міліцыі.

Асаблівае ўражанне выклікалі ў прэзідэнта паказальныя выступленні воінаў часці спецыяльнага прызначэння -- «малінавых берэтаў».

*Тэкст і фота А. МАЦЮША*



# ПУШКІН У ВІЦЕБСКУ

170 гадоў назад жнівеньскім днём дарога Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна пралягала праз Віцебск. І неаднойчы потым у ягонай творчасці знайшло сваё адлюстраванне: у паэме «Палтава», у рамане «Дуброўскі», у «Гісторыі Пятра І».

Гэта і прыгадвалася на шостым пушкінскім свяце, якое адбылося ў Віцебску.

*На здымках: выступае віцебскі паэт Уладзімір Папковіч; у час свята.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*





# АД БАЛТЫІ ДА ЧОРНАГА МОРА

**У канцы ліпеня г. г. у Кіеве адбылася міжнародная канферэнцыя дэмакратычных партый краін Міжмор'я. Прынялі ў ёй удзел і прадстаўнікі Беларускага народнага фронту і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. У прыватнасці, БНФ на канферэнцыі прадстаўляў пісьменнік Артур ВОЛЬСКІ. Карэспандэнт «ЛіМа» папрасіў яго расказаць аб яе рабоце, аб дакументах, якія ў час гэтай адметнай сустрэчы былі прыняты.**

— Мэта канферэнцыі, — сказаў Артур Вітальевіч, — афіцыйна была сфармулявана так: забеспячэнне палітычнай падтрымкі інтэграцыйным працэсам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Акрамя Украіны, сем партый якой з'явіліся ініцыятарамі склікання гэтай канферэнцыі, у ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі некаторых палітычных партый Беларусі, Балгарыі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Румыніі.

На канферэнцыі прагучала нямала цікавых дакладаў і паведамленняў, прысвечаных сучасным палітычным працэсам, што адбываюцца ў краінах Міжмор'я. Сярод іх я б адзначыў выступленне прадстаўніка Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Станіслава Гусака, старшыні Дэмакратычнага аб'яднання «Украіна» Дзмітро Паўлычкі, члена кіраўніцтва Канфедэрацыі незалежнай Польшчы Лешака Мачульскага і некаторых іншых.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі шэраг важных дакументаў. Гэта заява аб стварэнні Лігі партый краін Міжмор'я, якая з'явіцца добраахвотным аб'яднаннем палітычных партый, што маюць прастаўнікоў у парламентах сваіх краін.

Была абмеркавана і прынята праграма дзейнасці Лігі, якая ахапіла многія бакі палітычнага супрацоўніцтва партый, Палажэнне аб кансультатыўным Савеце Лігі і некаторыя іншыя дакументы.

Удзельнікі канферэнцыі былі азнаёмлены з праектам Балтыйска-Чарнаморскай тэлевізійнай садружнасці, якая будзе грунтавацца на прынцыпах роўнасці і партнёрства.

# ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН: ПАСТАВІМ КРОПКУ?

***Раз-пораз мы змяшчалі падборкі чытацкіх разважанняў пра тое, як ідзе конкурс на стварэнне новага Дзяржаўнага гімна Беларусі, якой мае быць першая песня краіны. На нейкі час плынь лістоў спынілася, мы палічылі, што абгаварэнне гэтай тэмы сябе вычарпала... І раптам, быццам згаварыўшыся, два нашы чытачы даслалі ў «ЛіМ» пісьмы. Яны, на жаль, не дапаўняюць адно аднае, але, тым не менш, мы змяшчаем іх побач.***

## МОЙ КРАЙ

Прапаную варыянт тэкста Дзяржаўнага гімна на музыку паланеза Міхала Клеафаса Агінскага «Развітанне з Радзімай».

**Край, мой любы,**
**родны Край,**
**Мілей за ўсё на свеце ты.**
**Квітней, руней, мой слаўны**
**дзіва-Край.**
**Для нас ты на зямлі святы.**

**Край, мой любы,**
**родны Край,**
**Не спі, народ, з калень уставай,**
**Каб кожны бачыў,**
**што ажыла зноў**
**Краіна — вечная любоў.**

**Край, «Пагоню» уздымі!**
**У заўтра спадчыну вазьмі!**
**З вольнасцю заўжды ты**
**будзеш жыць**
**А нам усім — свой край любіць!**

**Край, мой любы, родны Край,**
**Мілей за ўсё на свеце ты.**
**Квітней, руней,**
**мой слаўны дзіва-Край,**
**Для нас ты ная зямлі святы.**

**Мар'ян ВІЖ**

## НЯЎЖО ЗАБЯРУЦЬ І АПОШНЯЕ?..

Шмат што гаворыцца і пішацца пра Дзяржаўны гімн нашае краіны. Прыкра, што ён яшчэ не прыняты. Але страшна было слухаць стары падчас чэмпіянату Еўропы па гандболе. А ўжо восенню пачынаюцца кваліфікацыйныя гульні першынства кантынента па футболе. Няўжо зноў пачуем: «Мы, беларусы...»

Што датычыцца мяне, то, здаецца, беларусы, менавіта беларусы, а не рускамоўныя і не янычары, павінны мець права хоць сысці з твару зямлі пад мелодыю, якая адпавядае іх трагедыі. Я маю на ўвазе знакаміты паланез Міхала Агінскага. Гэтая настальгічная музыка — дакор, сум, развітанне — павінна стаць не толькі ўспамінам пра беларусаў, якія няўмольна адыходзяць, але й быць своеасабліваю перасцярогаю для іншых народаў, што яшчэ ў сілах замарудзіць ці ўвогуле прыпыніць жудасны збег акалічнасцей свайго лёсу.

У нас адабралі Радзіму, практычна знішчылі культуру, зрабілі жабракамі. Няўжо забяруць і апошняе, што засталося: права адысці ў небыццё не пад іх агідныя музыкі, а з велічным пачуццём развітання з тымі надзеямі, што не спраўдзіліся...

**Уладзімір П. ЛЮКЕВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**дацэнт**

*г. Берасце*

# Перадрук

# ПРА НАС І АМАЛЬ ПРА НАС

***Днямі мы атрымалі з Беластока нумар «Нівы» за 7 жніўня — нашы сябры і калегі з Польшчы, зважаючы на нашу сітуацыю, самі дасылаюць нам свой беларускі штотыднёвік. Мы звярнулі ўвагу на дзве публікацыі нумара. Першая — перадавы артыкул «Уяўная дыскрымінацыя» за подпісам сакратара рэдакцыі «Нівы» Віталя Лубы і нататкі Галены Анішэўскай «Падпольнае жыццё «Нівы» з кароценькай прыпіскай «Ад рэдакцыі».***

***У колішняй савецкай Беларусі тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніву» можна было выпісаць лёгка, у кожным паштовым аддзяленні. У сённяшняй незалежнай Беларусі зрабіць гэта немагчыма, ці, прынамсі, надзвычай цяжка. А між тым беларусам у метраполіі таксама хацелася б ведаць, як жывуць беларусы за межамі Бацькаўшчыны, у тым ліку на сваіх этнічных землях у Польшчы. Таму і вырашылі зрабіць перадрук гэтых дзвюх невялікіх публікацый з «Нівы». Тым больш, што адна з іх — пра нас, а другая — амаль пра нас.***

## УЯЎНАЯ ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

Збіраючыся глядзець трансляцыю сесіі Вярхоўнага Савета, на якой нававыбраны прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прысягаў на вернасць Канстытуцыі і беларускаму народу, я не прадбачваў ніякай палітычнай сенсацыі. Вядома, такая ўрачыстасць — гэта перш за ўсё цырымонія. І так у сапраўднасці было. Пасля прысягі паплылі прывітанні, віншаванні, пажаданні, заявы. Маё меркаванне поўнасцю апраўдалася б, калі б не апошні прамоўца, які ў моры гладкіх выступленняў вылучыўся канкрэтнасцю свайго пастулата. Рускамоўны народны дэпутат, даўшы прэзідэнту параду-ўказанне тыпу «ўсіх слухай, але свой розум май», запатрабаваў, каб той, па прыкладзе новага прэзідэнта Украіны, дэкрэтам вярнуў рускай мове статус дзяржаўнай і такім чынам зрабіў яе раўнапраўнай з беларускай мовай.

У гэты момант я жахнуўся. Аб якім раўнапраўі гаворыць гэты дэпутат? Хто тут пакрыўджаны? Ці ж гэты парламентарый не бачыць (дарэчы, ён дэпутат таварыства сляпых) і не чуе, што ў Рэспубліцы Беларусь паўсюдна царствуе руская мова? Ці ж народны абраннік, які павінен адстойваць суверэнітэт рэспублікі, не свядомы таго, што ў незалежнай дзяржавы можа быць свая мова і свая атрыбутыка? Ці ж яму не відна, што Вярхоўны Савет устанавіў беларускую мову дзяржаўнай дэ-юрэ, але дэ-факта такую ролю ў далейшым выконвае руская мова?

Не трэба ехаць у Беларусь, каб пераканацца, што беларускай мове далёка яшчэ да рангу дзяржаўнай. Досыць уключыць тэлевізар або радыёпрыёмнік ці пагартаць газеты і часопісы. Возьмем для прыкладу хаця б згаданую сесію Вярхоўнага Савета. Па-беларуску гаварылі на ёй спікер парламента, два дэпутаты ад апазіцыі, ну і сам прэзідэнт, але толькі тады, калі з карткі чытаў тэкст прысягі. Пераважная большасць народных дэпутатаў у далейшым аддае перавагу мове вялікага брата.

На дзяржаўным тэлебачанні і на такім жа радыё дзяржаўнай мовай у прынцыпе карыстаюцца дыктары і журналісты, але ўжо іх суразмоўцы, асабліва чыноўнікі розных рангаў і гаспадарчыя дзеячы, беспераШкодна і з гордасцю шпараць на «дыскрымінаванай» мове. Апошнім часам лексіка рускамоўнага насельніцтва Беларусі папоўнілася тэрмінам «мова», які выступае ў якасці сіноніма беларускай мовы. «Разговаривать на мове» — гэта не што іншае, як размаўляць па-беларуску, паколькі ўсе на штодзень «разговаривают на языке».

Падобная сітуацыя і ў беларускім, як ні дзіўна, друку. У большасці газет па-беларуску надрукаваны толькі загалоўкі, бо гэтага патрабуе закон аб рэгістрацыі перыядычных выданняў (памыляецца сп. Луба. — «ЛіМ»). Артыкулы ў іх найчасцей друкуюцца ўжо на рускай мове, а ў лепшым выпадку, для аздобы і перастрахоўкі, частка матэрыялаў даецца і на беларускай мове. Рэдактары такі стан рэчаў тлумачаць тым, што друкуюць матэрыялы на мове арыгінала.

Пастанова Вярхоўнага Савета аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай толькі што прыадкрыла шлях таму працэсу, які можа ўчыніць яе мовай усяго беларускага, у значнай ступені зрусіфікаванага, народа. Дэпутаты парламенту, як відаць, не садзейнічаюць ажыццяўленню прынятай самімі пастановы, але шукаюць розныя спосабы, каб адмяніць яе. Нават не пасаромеліся выкарыстаць дзеля гэтага ўрачыстасць інаўгурацыі першага прэзідэнта. Ці такія дэпутаты змогуць дзейсна абараняць інтарэсы беларускай дзяржавы?

**Віталь ЛУБА**

## ПАДПОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ «НІВЫ»

Ніяк не магу ўцяміць, чаму і хто спіхвае ў падполле зусім, здаецца, бязвінную беларускую прэсу. Кіёскі, у якіх прадаюцца дзесяткі, а мо і сотні розных выданняў, для беларускага друку недаступныя. Здаецца, што няма ніякай афіцыйнай забароны, каб якая-небудзь законная газета не магла прадавацца ў кіёсках «Руху» або іншых фірм, якія займаюцца продажам перыядычных выданняў.

Паспрабавала я купіць «Ніву» ў кіёску і вось што атрымалася:

Беласток, чэрвень г. г. Пытаю ў кіёску на вул. Гаёвай, адказваюць, што няма такой газеты. На вул. Берлінга паведамілі, што прыходзіць адзін экземпляр і забірае яго пастаянны чытач. А на вул. Антанюкоўскай такой газеты няма!

Гайнаўка, чэрвень г. г. Заглядаю праз шыбу ў кіёск на галоўнай вуліцы горада і «Нівы» не бачу. Маю надзею, што яна ляжыць схаваная дзесьці глыбока. Пытаюся і чую ў адказ: «Юж не ма». Значыць, у Гайнаўцы «Ніву» крыху чытаюць. У кіёску пры выездзе з горада ў напрамку Белавежскай пушчы, які змяшчаецца ў вялікім павільёне, прадавец кажа: «Зараз пабачу, здаецца, што нешта такое ёсць», — і, нагнуўшыся пад полку з парашкамі, выцягвае «Ніву». У Белавежы ў чацвер зранку «Ніву» купіць нельга, бо новай яшчэ не прывезлі, а старая «юж запакована до звроту».

У ліпені я вярнулася ў Варшаву і вырашыла даведацца, у якіх сталічных кіёсках прадаецца наш штотыднёвік (тыя 30 экземпляраў, якія паступаюць у Варшаву). У цэнтралі прадпрыемства «Рух» на вул. Таваровай не хацелі прыняць падпіскі на IV квартал, бо яшчэ зарана, а ў справе інфармацыі пра кіёскі адаслалі мяне ў размеркавальнае аддзяленне на вул. Кербедзя. Там доўга тэлефанавалі і ўрэшце накіравалі на камп'ютэры. Вядома, тэхніка памагла! Аднак усяго сказаць мне не хацелі, а толькі паінфармавалі, дзе найбліжэйшы да майго месца пражывання кіёск. Тлумачу ім, што жыву ў квартале Прага-Поўдзень, у ваколіцах Саскай Кэмпы, і тады даведваюся, што для ўсёй Прагі (400 тысяч насельніцтва) надзяляюць толькі тры экземпляры «Нівы» для кіёска на Усходнім вакзале.

Паспрабавала я дамаўляцца з кіяскёрамі ў маёй ваколіцы, каб хацелі трымаць для мяне 1—2 экземпляры нашага тыднёвіка. У адным кіёску, які наралі мне ў размеркавальным аддзяленні, проста аблаялі мяне, у іншым — спачатку сказалі, што дадуць адказ на другі дзень, а потым адмовіліся.

Хадзіла я і ў Клуб міжнароднага друку, што на вул. Маршалкоўскай, але прадаўшчыца здзіўлена адказала, што такой газеты ў іх няма.

У жніўні еду ў Белавежу. Там, хаця і з-пад прылаўка, але ўсё ж «Ніву» дастану. А на IV квартал падпіску зрабіць не паспею. Такая нявінная газета, а, мусіць, кагосьці кусае!

**Галена АНІШЭЎСКАЯ**

**Ад рэдакцыі: У Беластоку пастаяннай з'явай бывае такая сітуацыя, што ў кіёсках адказваюць, што «Нівы» няма, а пасля ў пратаколах пішуць, што не прадалі ніводнага экземпляра. У кожным амаль кіёску сядзяць, як відаць, талерантныя, добрасумленныя людзі, якія паважаюць беларусаў.**

# «АЎТАРА, АЎТАРА!»

## АМАЛЬ АНЕКДОТ

І яшчэ раз: «Аўтара!» — незадаволена патрабавалі чытачы, агораўшы публікацыю пра фестываль «Славянский базар» («ЛіМ» за 5.08.94 г., «Так нам і нада»?»). Прычынай незадаволенасці, пэўна, стаўся подпіс: «Незалежны назіральнік» — новае, так бы мовіць, імя на лімаўскіх старонках.

«Імя-то новае, а чалавек — усё той жа», — даўмеўся хтосьці з чытачоў, узрадаваны нечаканай здагадкай. Трэба ж: акурат следам, 6 жніўня, пра той самы «Славянский базар» у «Советской Белоруссии» распавяла музыказнаўца Н. Бунцэвіч — з той самай, як і ў лімаўскага «Н. Н.», пазіцыі тэлеглядача! Яе ж бліскучыя нататкі з нагоды ўласна «базарнага» конкурсу з'явіліся ў «Добрым вечары»...

І вось вам вынік чытацкай «здагадлівасці»! У жартоўным настроі, але з праўдзівай няўцямнасцю Надзея Бунцэвіч прызналася: маўляў, ужо не дае рады, як пераканаць некаторых чытачоў-знаёмцаў, што не яна пісала ў «ЛіМ» пра «Славянский базар»-94". Упэўненыя, быццам разгадалі псеўданім аўтара, тыя тэлефануюць, паведамляюць пра сваё «адкрыццё» і не прымаюць пярэчанняў ад спадарыні Надзеі.

То мусім патлумачыць зусім сур'ёзна: у час тэлерэпартажаў са «Славянскага базара» незалежнымі назіральнікамі рабіліся тысячы гледачоў, у тым ліку й мы з вамі. Значыць, узяцца за пяро маглі адначасова многія з іх, з вас, з нас. Паведамляем афіцыйна: незалежны назіральнік — гэта не Н. Бунцэвіч, яна не мае ніякага дачынення да нататкаў «Так нам і нада»?» Свае публікацыі ў «ЛіМе» яна падпісвае ўласным імем.

Ну, а калі ўжо нам удалося захаваць у сакрэце сапраўднае імя аўтара лімаўскай публікацыі, дык гэта наводзіць на вясёлую думку: ці не абвясціць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады самага здагадлівага чытача?

ЛіМ
ЧАСАПІС



## УРАЧЫСТА ДЫ НЕ БЕЗ КАРЫСЦІ



**Цяжка пераацаніць сукупную дабрачынную акцыю фірм «Лаймінга», «Пушэ», «Сантанас», камерцыйнага банка «Беларусь» ды Белдзяржстраха, прымеркаваную да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З дапамогаю бізнесменаў шмат хто з ветэранаў адзначыў угодкі вызвалення своеасабліва, урачыста да не без карысці, наведаўшы... спектаклі вялікай і малой сцэн Рускага тэатра Беларусі, якому якраз напярэдадні ўгодкаў была нададзена годнасць «акадэмічны». Гасцям быў прадстаўлены на выбар амаль увесь рэпертуар, буйную долю якога складаюць спектаклі камедыйнай афарбоўкі. Асабліва поспех якогасьці твора вылучыць цяжка: шчыра прымалі і «Амфітрыёна», і «Дзялка», і высвятленне асноўнага пытання ў дэтэктыве «Хто твой каханак, Жаззфа?»...**

*На здымку: Аксана Перавожкіна (Жаззфа) і Аляксандр Бруханкі (паліцэйскі Марыё) у спектаклі «Хто твой каханак,Жаззфа?»*

*Фота Аляксея* **МАЦЮША**

## ЗАХАПЛЯЕЦЦА ПАЭЗІЯЙ



**Алене Бандарык са Скідзеля — шаснаццаць гадоў, яна вучыцца ў сярэдняй школе. Захапляецца паэзіяй, сама піша вершы. Алена — удзельнік многіх конкурсаў чытальнікаў у горадзе і раёне, неаднаразова была пераможцам. Пасля школы марыць паступіць на факультэт журналістыкі універсітэта.**

Тэкст і фота І. БАРЫСАВА

## ПЕРШАЯ ІМША НУНЦЫЯ

**12 жніўня г. г. Кафедральны касцёл у Менску (што нядаўна, пасля доўгіх год адміністрацыйнага супрацьстаяння, вернуты вернікам) пераважыў урачыстую, першую ў сваёй гісторыі падзею такога кшталту: у ім адбылася імша ў гонар усіх пакутнікаў за веру хрысціянскую Мінска-Магілёўскай архіепархіі — імша з нагоды афіцыйнага зацвярджэння на пасаду папскага нунцыя ў Беларусі архібіскупа Агасціна Маркета. Пад яго дасташаноўным кіраўніцтвам літургічны чын і прахадзіў. Поруч з італійскім архібіскупам ля алтара знаходзіліся галоўныя каталіцкія святары на Беларусі — Казімір Свёнтак, Аляксандр Кашкевіч і іншыя — з мінскіх касцёлаў і іншых парафій. Варта прыгадаць, што на Беларусі вернікі ўжо прымалі часовага нунцыя Габрыэля Мантальва, які пасля падпісання дамовы між Беларуссю і Ватыканам аб узаемапрызнанні (ад лістапада 1992 г.) выконваў свае абавязкі да 18 траўня г. г. Затым Рымскім папам Янам Паўлам II быў канчаткова абраны нунцый з пастаяннай прапіскай на Беларусі. Яго Светласць Агасціна Маркета ўжо пабыў у Магілёве, Пінску, Гародні, дзе сустракаўся з вернікамі, але менавіта ў мінскай Кафедры,самай старэйшай і цэнтральнай, ён правёў сваю інаўгурацыйную імшу. У пасланні галоўнымі мэтамі сваёй дзейнасці на Беларусі папскі нунцый вызначыў спрыянне мацаванню хрысціянскай еднасці, міру і маральнасці.**

Ю. З.

Адгалоскі

# ПЕРАМЕНЫ, ЯКІХ МЫ ЧАКАЛІ...

Рыпнула, грукнула, тарганулася... і нарэшце скранулася з месца. Нехаця, цяжка пасунулася наперад заржавелая махіна нашага грамадскага жыцця. Хоць і сцвярджае прыказка, што з вялікага грому дажджу не бывае, але на гэты раз і гром грымеў, і дождж праліўся. «Дождж» у дадзеным выпадку — шматлікія ўказы прэзідэнта па рэарганізацыі кіраўнічых структур, вызваленні ад высокіх пасад, адмене некаторых пастаноў Савета Міністраў РБ, што тычацца незаконна прысвоеных воінскіх званняў, і да т. п. Правільна ставіцца пытанне і аб ільготах, якія раздавала адна шчодрая рука налева і направа. Адно скарачэнне аўтапарка Саўміна — відавочны ўчынак. Кадравае скарачэнне як бы падмацоўваецца тэхнічным. Прыемнае з карысным, як той казаў...

Што ж да «запрошаных» з крэслаў вялікіх начальнікаў, то пра аднаго з іх, міністра лясной гаспадаркі, я і раней чула, што вялікі прайдзісвет і шмат шкоды нарабіў народнай гаспадарцы. А ўспомніце адкрыты ліст пісьменнікаў да А. Сталярова наконт якасці літаратурных перадач радыё. Старшыня Дзяржтэлерадыё (кантора сто разоў перайменоўвалася) нават адказ у рэдакцыю не змог талкова напісаць, — падмахнуў чужую бяздарную пісаніну. Такую ж бяздарную, як большасць таго, што мы штодзень чуем з эфіру і бачым з экрана. Заштампаваная служба інфармацыі, адсутнасць журналісцкай моладзі і творчага пошуку, удушэнне дзвюх незалежных праграм, беспакаранасць супрацоўнікаў на ўсіх узроўнях — ад дэградаваўшага перапісчыка старых літаратуразнаўчых кніжак да самога старшыні, які ці не спажываў уласнай прадукцыі, ці ні халеры ў ёй не кеміў, ці ўвогуле пляваў на ўсіх нас — гледачоў ды слухачоў разам.

Як былы работнік тэлебачання, які ведае ўстанову знутры і за 10 мінуўшых год не ўгледзеў прыкметнага прагрэсу ў яе развіцці, я перш за ўсё дзякую прэзідэнту за гэты кадравы крок, важны для ўсяго культурнага жыцця Беларусі. І хоць новы старшыня — фігура для многіх таямнічая, а ўсё ж нейкі рух, нейкае варушэнне будзе.

Трошкі насцярожваюць частыя спасылкі прэзідэнта на МВД і КДБ — яны, маўляў, закруцяць гайкі, так што трымайцеся, парушальнікі ўсіх масцей! Ну, па-першае, там-то людзі тыя самыя, не вельмі зацікаўленыя, каб наводзіць парадкі (па розных прычынах), і дзе ты возьмеш іншых, чысценькіх? А па-другое, не так устроена Савецкая ўлада, каб дазволіць «чыстку» ўсіх яе звенняў. Вось вам свежанькі прыклад са «Звязды»: старшыню калгаса «Буцавічы» Мінскага раёна не змаглі аддаць пад суд як хабарніка (ён нажываўся на ўчастках пад катэджы), бо ён з'яўляецца дэпутатам сельскага Савета і ім абаронены. Вы падумайце, якая велічыня — дэпутат сельскага Савета! Які абсурдны, недарэчны закон, прызваны браць пад ахову, рабіць недатыкальнымі ўсіх мясцовых князькоў! Тая ўлада, што як быццам клапацілася пра людзей, перш пра сябе падумала, свае пазіцыі замацавала, і на тым стаіць па сёння.

Вярхоўнаму Савету, як органу заканадаўчаму, давядзецца падцягвацца. Ён выглядае груваcткім і бяздзейсным на фоне дынамічнай новай улады і можа стаць тормазам для новаўвядзенняў і рэформ.

...Пасля месяца суцэльнай спёкі, пасля нясцерпнай для ўсяго жывога засухі — першыя доўгачаканыя лівні. А што з грымотамі ды бліскавіцамі, дык гэта з'ява нармальная для прыроды. Жыццё не цярпіць змярцвеласці і зялёнай раскі. Перамены, якіх мы чакалі, прыйшлі. Пакуль што яны дабратворныя.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Пошта

# ЯШЧЭ ПРА «ФЭЛЬКУ З РУКШЭНІЦ»

Здарылася гэта пазалетась. Прачытаў я неяк артыкул Г.Кісялёва «Вакол загадкі «Фэлькі з Рукшэніц» у зборніку «Шляхам гадоў». Артыкул зацікавіў навізной. Але чамусьці паўсталі сумненні ў праўдзівасці гіпотэзы аўтара наконт знаходжання фальварка Будзішча — радзімы Фелікса Тапчэўскага ў Шумілінскім раёне.

Трэба ўважаць на гістарычную повязь жыхароў паселішчаў рэгіёна, каб не зрабіць памылкі. Рака, тым больш такая вялікая, як Дзвіна, заўсёды была перашкодаю на шляху людскіх зацікаўленняў. Раней паміж двума падзеламі Рэчы Паспалітай жыхары паўночнага і паўднёвага берагоў Дзвіны былі ў розных дзяржавах. Тыя, што жылі ля Глыбачкі, Вулы, не арыентаваліся на «замежныя» гарады Полацк і Віцебск. Жыхароў жа Шуміліна не цікавілі Ушачы й павятовы Лепель. Чаму ж тады браты Тапчэўскія навучаліся ў Лепелі, нягледзячы на тое, што пазначаныя вышэй зацікаўленні захоўваліся й надалей? Стала зразумелым, што прапанаванае Г.Кісялёвым Будзішча не ўкладваецца ў схему. Таму, каб развеяць сумненні, узяў карту і пачаў пільна ўглядацца. Нарэшце пашчасціла напаткаць другое Будзішча. На паасобных картах яно было пазначанае на 12 км у паўночны бок ад Краснага, дзе працаваў пісар брат Тапчэўскага Мікола, і за 6 км ад Глыбачкі, дзе пахаваны паэт. Адлегласць на мясцовасці, пэўна ж, раза ў паўтара большая. Не мог ездзіць Мікола Тапчэўскі кожны дзень на працу амаль за 50 кіламетраў, ды яшчэ праз Дзвіну.

Калі пазначыць месцы, звязаныя з дзейнасцю Ф.Тапчэўскага, дык усе яны разам з базамі паўстанцаў 1863 г. Антона Грабніцкага ў Янове й Бікульнічах укладваюцца ў кола з радыусам каля 10 км і цэнтрам у Глыбачцы. За межамі яго трохі далей застаецца Вула і зусім ужо не трапляе шумілінскае Будзішча.

Калі ж прыняць за родавы маёнтак «новае» Будзішча, дык тут ужо Адольф Камёнка — натуральна сусед Тапчэўскіх, бо яго Асінаўка ляжыць за 9 км ад Будзішча. Гэтае Будзішча, як і Вусвіца Сасноўскіх, належалі да Полацкага павета. Да таго ж, ні ў адным дакуменце не згадваецца паселішча за Дзвіной. Правільнасць высноў выразна адлюстроўвае прыкладзеная схема.




Высветліўшы для сябе месца знаходжання родавага маёнтка «Фэлькі з Рукшэніц», захацеў пабываць там. І вось адным летнім дзяньком 1992 г. выбраўся аўтобусам да Глыбачкі. Выйшаў у Прудку і рушыў у напрамку да Антунава праз Багародзіцкае. Нідзе не відно ні людзей, ні машын. Няма тут вялікіх шляхоў, бо з аднаго боку балоты, з другога — Дзвіна. Нават запытаць няма ў каго, каб не памыліцца, калі збочыць на Будзішча.

Урэшце знайшоў тую ростань і, збочыўшы, прайшоў каля двух кіламетраў. Напаткаў чалавека з Рыбакоў. Ён і растлумачыў, дзе знайсці фальварак. Дадаў, што людзей там ужо некалькі гадоў няма, пасля меліярацыі апошнія гаспадары з'ехалі ў бліжэйшую вёску Рыбакі. Выйшаў з лесу і ўбачыў сярод жытняга поля некалькі старых ліп. Ні хаты, ні нават падмуркаў. Вось табе й увесь напамін пра родны кут Тапчэўскіх. Зрабіў на ўспамін здымак, бо хутка й гэтая адзнака знікне.



Пра ўсё гэта напісаць падштурхнулі падзеі на канферэнцыі, прысвечанай Ластоўскаму ў Полацкім універсітэце. Паўстала пытанне аб месцы нараджэння Вацлава Юстынавіча. Спадары Я.Янушкевіч і В.Ермалёнак прыводзілі доказы на карысць кожны свайго пункту гледжання. Згоды падчас абмену думкамі дасягнуць не выпала, так і засталося не вырашаным пытанне аб месцы нараджэння прэм'ера БНР: ці то глыбоцкія, ці то мёрскія тыя Калеснікі. Падчас гэтых спрэчак і вырашыў, што трэба данесці да ўсяго зацікаўленага супольніцтва пра месца сапраўднае радзімы «Фэлькі з Рукшэніц», каб не замацаваліся ў гістарычнай навуцы памылковыя ўяўленні.

**Міхась БАЎТОВІЧ**

Анонс

# БАМ ТАКСАМА РЫХТУЕЦЦА...

БАМ — трэба прызвычайвацца! — гэта Беларуская акадэмія музыкі. А рыхтуецца яна да ўдзелу ў фестывалі кантарскай музыкі, які мае адбыцца ўвесну будучага года. У ім плануецца ўдзел калектываў Мінскага музычнага вучылішча — ансамбля скрыпачоў ды ансамбля цымбалістаў. (Паводле гістарычных крыніц, цымбалы — інструмент цара Давіда — з'явіліся на нашых землях дзякуючы яўрэям). Праз пасольства Ізраіля на Беларусі будзе наладжаны прыезд сусветна вядомых кантараў. Арганізатары і чынныя ўдзельнікі новага фестывалю — Фрунзенскі райвыканкам сталіцы, гасцёўня В. Дуніна-Марцінкевіча (прынамсі, вакальная студыя) на чале з яе рупліўцам, кіраўніком Цэнтра культуры Фрунзенскага раёна Анатолем Наліваевым. Імя гэтага энтузіяста культурнага адраджэння чытачы «ЛіМа» ведаюць: ён займаецца папулярызацыяй забытых, вернутых з нябыту беларускіх песень, цікавіцца гісторыяй яўрэйскай музычнай культуры як найстаражытным складнікам багатай культуры беларускай зямлі (нататкі А. Наліваева на гэтую тэму друкаваліся ў нашым тыднёвіку).

Уладальнік унікальнага збору запісаў яўрэйскай музыкі ды нот, ён падзяліўся нядаўна сваім скарбам з Акадэміяй музыкі: з пласцінак А. Наліваева тут зроблены копіі даваенных запісаў народных яўрэйскіх напеваў, кантарскай музыкі, зроблены й ксеракопіі нотнага матэрыялу. Гэта будзе належным грунтам для падрыхтоўкі маладых беларускіх выканаўцаў да фестывалю, а таксама й спажывай для музыказнаўцаў, якія да нядаўняга часу бадай што не распрацоўвалі гэты пласт, закладзены ў культуры нашага краю з часоў Вялікага княства Літоўскага дый раней. Сам А. Наліваеў шчыра задаволены, што яго калекцыя з прадмета асабістага хобі ператвараецца ў атрыбут сучаснага музычнага жыцця, між іншым паведаміў яшчэ адзін цікавы штрых. Дзед знанага савецкага кампазітара-песенніка Ісака Дунаеўскага, паходжаннем з Беларусі, быў сусветна вядомым кантарам, яго ныя запісы захаваліся й на пласцінках. А ў папулярных песнях Дунаеўскага, як сцвярджаюць знаўцы, прадаўжалі жыць, адаптаваныя адпаведна жанру й часу, дзедавы традыцыі...

**Н. К.**

Меркаванне

***Пераход ад таталітарнай сістэмы да прававой дэмакратычнай дзяржавы немагчымы без развітай шматпартыйнасці. Пра гэта сведчыць вопыт многіх краін, нашых блізкіх і далёкіх суседзяў.***

***Пры адсутнасці шматпартыйнасці, сцвярджаў славуты расійскі філосаф Бярдзяеў, у дзяржаве правіць тыранія.***

***Утварэнне і развіццё палітычных партый — першачарговая задача па выхадзе з палітычнага крызісу.***

# ХТО БУДЗЕ СТВАРАЦЬ ЗАКОНЫ?

Можна запярэчыць: ёсць і болей важныя задачы — рост вытворчасці, стабілізацыя валюты, зямельная рэформа, прыватызацыя.

Гэта так. Але ніводную з іх немагчыма ажыццявіць без змены ўлады, а ўладу памяняць можна толькі шляхам *выбараў*. Значыць, зноў-такі — *пры ўдзеле партый*. Без іх, моцных палітычна, улада сама арганізуе выбары. Сама сябе вылучыць, сама абярэ сваіх прадстаўнікоў, па-ранейшаму будзе кіраваць народам. Навязваць яму сваю канцэпцыю жыцця.

Ва ўмовах рыначных адносін кожны сацыяльны слой будзе абараняць свае інтарэсы ў парламенце. Для гэтага неабходна абраць у вышэйшы орган значную дэпутацкую фракцыю кожнай партыі, якая хоча па-сапраўднаму, а не проста дэкларатыўна абараняць інтарэсы акрэсленай групы ці слоя насельніцтва.

Пры распрацоўцы і прыняцці законаў, размеркаванні бюджэта, фармаванні падатковай сістэмы, зацвярджэнні крэдытных ставак кожная партыя ў парламенце (Вярхоўным Савеце) будзе адстойваць інтарэсы свайго выбаршчыка, саслоўя.

Беларускіх сялян усё жыццё рабавалі, бо неарганізаваныя, не мелі сваёй палітычнай партыі. Нарэшце, 23 лютага 1991 года, была ўтворана Беларуская сялянская партыя (БСП). Галоўная мэта партыі — вярнуць зямлі гаспадара, адрадзіць вёску і сялянства. Балазе, у гэтым зацікаўлена ўсё грамадства. Супраць выступаюць адно чыноўнікі, якія кормяцца ля калгасна-саўгаснай кармушкі.

Ажыццявіць зямельную рэформу — галоўная задача партыі. Шляхам рэформы селяніну неабходна вярнуць права ўласнасці на зямлю, права выбару форм гаспадарання і права распараджацца прадуктамі сваёй працы.

Хачу адразу падкрэсліць: *наша партыя не выступала і не выступае за неадкладнае разбурэнне калгасаў.* Разбурыць старое, не стварыўшы новага, было б вялікім глупствам. Але кожны калгаснік павінен мець акт на валоданне паем на зямлю і акцыю на долю маёмасці. Ён сам павінен і будзе вырашаць: заставацца яму ў калгасе, уступіць у кааператыў ці стаць самастойным фермерам.

Калгасы не адамруць, яны паступова будуць ператварацца ў асацыяцыі фермерскіх і кааператыўных гаспадарак альбо ў акцыянерныя таварыствы. Само такое не зробіцца. Каб паскорыць працэс зямельнай рэформы, БСП прапануе правесці агульнакалгасныя сходы і выбраць новае кіраўніцтва. Тайным галасаваннем. Няхай да кіраўніцтва калгасамі прыйдуць маладыя энергічныя спецыялісты з рынкавым мысленнем.

З дапамогаю БСП праведзена ўжо некалькі такіх сходаў. Ні адзін старшыня калгаса, варта падкрэсліць, пры тайным галасаванні не ўтрымаўся на пасадзе.

Замяніўшы кіраўніцтва калгасаў, можна паскорыць зямельную рэформу, прыпыніць раскраданне калгаснай маёмасці.

Дамагчыся тайных выбараў у калгасе не проста. Старшыні калгасаў выдатна ведаюць, чым гэта скончыцца. Яны, абапіраючыся на сваіх падхалімаў, навязваюць калгаснікам адкрытае галасаванне. Толькі там, дзе папярэдне былі ўтвораны арганізацыі Беларускай сялянскай партыі, сходы праводзіліся актыўна, крытычна, а выбары — тайна. Арганізаваны народ — сіла неадольная.

Выбары прэзідэнта — першы крок да дэмакратычнага грамадства.

За гады савецкай улады нас прывучылі да думкі, што ўсё залежыць ад першай асобы ў дзяржаве. Так яно і было. Але зараз іншы час. І калі мы, выбраўшы прэзідэнта, будзем толькі ад яго чакаць лепшага жыцця, то хутка наступіць глыбокае расчараванне. Матывы для вываду наступныя:

1. Дзяржаўныя інстытуты — прэзідэнт, Вярхоўны Савет, урад і мясцовыя органы ўлады — толькі ствараюць ўмовы для нармальнага жыцця. Яны ўсе разам і кожны паасобку не зробяць нас шчаслівымі. Свой дабрабыт кожны будзе сам будаваць. Як ва ўсім свеце. Галоўнае, каб улады не замінялі людзям жыць і працаваць на сябе. Утрыманскую псіхалогію, што нехта прыйдзе і зробіць усё за нас і для нас, пара выкінуць на сметнік.

2. Каго б мы ні выбралі на вышэйшую пасаду, ён у адзіночку нічога не зробіць. Яму патрэбна каманда выканаўцаў. Але, згодна Канстытуцыі, галоўныя асобы ўрада зацвярджаюцца Вярхоўным Саветам. Прэзідэнт абмежаваны ў сваіх магчымасцях. Ён можа падабраць каманду прафесіяналаў для правядзення эфектыўных рыначных рэформ, аднак яе зацвярджае і накіроўвае Вярхоўны Савет. Болей таго, Вярхоўны Савет у любы момант здольны адправіць урад у адстаўку.

Такім чынам, роля Вярхоўнага Савета — велізарная ў нашым жыцці. Трэба актыўна рыхтавацца да выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады.

Прэзідэнцкая выбарчая кампанія стварыла тры вельмі спрыяльныя ўмовы для выбараў дэмакратычных дэпутатаў у заканадаўчы орган. Першая. У свядомасці людзей адбыўся пералом. Раней панавала ў грамадстве поўная апатыя і песімізм. На вачах у людзей раскрадалася народнае дабро, тварылася беззаконне, а яны... маўчалі. Яны былі ўпэўнены: так было і будзе, ніхто гэтую ўладу змяніць не здольны. А выбары паказалі, што народ — вялікая сіла. Людзі прыйшлі на выбарчыя ўчасткі, выкраслілі з бюлетэняў В. Кебіча, і ён пайшоў у адстаўку. Разам з урадам. Такога на Беларусі яшчэ не было.

Другая ўмова. Цяперашнія ўладнікі дэскрыдытавалі сябе безагляднаю падтрымкаю В. Кебіча на месцах і ў Вярхоўным Савеце. Дзе гэта бачна, каб большасць Вярхоўнага Савета, 236 дэпутатаў, падпісаліся за старшыню неаўтарытэтнага ўрада! Якое ж у іх мысленне, дзе дальнабачнасць?..

Мясцовыя ўлады ў рабочы час на казённых машынах разгарнулі за Кебіча нечуваную агітацыю. Людзі ўсё бачылі. Зараз правесці ў Вярхоўны Савет дэпутатаў з уладнага асяроддзя будзе вельмі складана. Як кажуць, яны засвяціліся.

Трэцяя ўмова. Першы прэзідэнт не мае сваёй палітычнай партыі і не зможа істотна ўплываць на выбарчы працэс. Ды й не захоча здраджваць дэмакратычным абяцанням. Якія б пазіцыі ні займаў прэзідэнт, ён мусіць казаць народу праўду пра становішча ў краіне. А аб'ектыўная інфармацыя будзе агітаваць і працаваць супраць былой наменклатуры.

Трэба адзначыць, што новыя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета і мясцовых саветаў будуць значна адрозніваца ад прэзідэнцкай кампаніі. Там выбіралі аднаго чалавека. Тут патрэбна спачатку падабраць адпаведных людзей, вылучыць іх, зарэгістраваць, распрацаваць выбарчую праграму і давесці яе да шырокіх мас выбаршчыкаў, забяспечыць сумленныя і справядлівыя выбары. Такая вялікая справа пад сілу толькі палітычнай партыі. Беларуская сялянская партыя ўжо прыступіла да гэтай работы.

Хто будзе ствараць законы? Якімі якасцямі павінен валодаць дэпутат прафесійнага парламента? Вядома, трэба шчырыя і сумленныя людзі. Але толькі гэтага мала. На наш погляд, будучы дэпутат павінен мець пэўную прафесійную падрыхтоўку, адукацыю (эканаміст, юрыст, аграном, палітолаг, журналіст і інш.), значны жыццёвы вопыт, дэмакратычныя перакананні і рынкавае мысленне. Ён абавязаны ведаць законы.

Мы шукаем такіх людзей не толькі сярод членаў БСП, але і сярод любых слаёў грамадства. Пажадана, каб людзі, здатныя працаваць у парламенце, самі шукалі нас. Без падтрымкі палітычнай партыі іх патэнцыяльныя магчымасці застануцца нерэалізаванымі.

Дык — звяртайцеся ў БСП. І, калі ласка, загадзя. Бо потым, у спешцы і мітусні, можна нарабіць памылак і выбраць не тых, каго трэба.

Калісьці ў некаторых газетах была такая рубрыка: «Калі б я быў дырэктарам». Чытачы друкавалі цікавыя прапановы. Ёсць сэнс трохі змяніць яе і назваць: «Калі б я быў дэпутатам».

Запрашаю свядомых грамадзян Беларусі свае думкі, погляды і прапановы на гэтую тэму дасылаць на адрас: г. Мінск, 220108, а/с 333, БСП. Тэлефануйце: 34-38-35, 77-19-05, 66-15-05.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі**

Пошта

# І РАДАСЦЬ, І СМУТАК ПАПАЛАМ...

Мы, беларусы блізкага і далёкага замежжа, пільна сачылі за ходам прэзідэнцкіх выбараў на Бацькаўшчыне. Безумоўна, кожны з нас жадаў поспехаў таму ці іншаму кандыдату ў прэзідэнты краіны. Асабіста я аддаў бы свой голас за Зянона Пазняка, чалавека інтэлігентнага, разумнага, патрыёта сваёй Радзімы, пад кіраўніцтвам якога, без сумневу, Беларусь стала б сапраўды незалежнай, суверэннай і квітнеючай краінай у даволі кароткі тэрмін.

Спадзяюся, што спадар Лукашэнка, абраны на пасаду прэзідэнта Беларусі, не пакрыўдзіцца на мяне за маю шчырасць, таму што ён чалавек адкрыты і зразумее іншых людзей, якія прывыклі гаварыць праўду ў вочы. Супраць ягонага выбрання на пасаду прэзідэнта краіны ў мяне нічога няма, як кажуць у дадзеным выпадку — памагай яму Бог як мага хутчэй навесці ў краіне парадак. Думаю, што сёння сапраўды народу Беларусі патрэбна кансалідацыя ўсіх палітычных плыняў, што дасць магчымасць спадару прэзідэнту скіраваць сваю ўвагу на эканамічныя праблемы краіны.

Безумоўна, хочацца сказаць некалькі слоў пра пачуцці, якія асабіста ў мяне выклікала інаўгурацыя спадара Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце 20 ліпеня, якую я слухаў па радыёпрыёмніку з Мінска і якую я мог параўнаць з інаўгурацыяй прэзідэнта Украіны, якая адбылася ў Кіеве надоечы, 19 ліпеня. І радасць, і смутак папалам — так коратка можна было б ахарактарызаваць стан маёй душы, калі трансляцыя была раптоўна абарвана пасля выступу спадара Трусава з заявай. Думаецца мне, што ў гэты святочны, я б сказаў, гістарычны для Беларусі дзень трансляцыя з Вярхоўнага Савета магла б і павінна была трансляваца поўнасцю!

Пазней я даведаўся з беларускамоўнай перадачы радыё «Свабода», што ж было далей у зале Вярхоўнага Савета. А было, мякка кажучы, рознае. Дайшло зноў да нападу на дзяржаўную мову, калі адзін дэпутат,ківаючы на прэзідэнта Украіны Кучму, запатрабаваў надаць рускай мове статус другой дзяржаўнай мовы краіны. Як кажуць, «чуў звон, ды не ведае, дзе ён!» Калі ўжо так хочацца ведаць, што ж на самай справе сказаў у сваёй прамове спадар Кучма пасля прыняцця прысягі ў адносінах да рускай мовы, то калі ласка: дзяржаўнай мовай Украіны застаецца ўкраінская мова, а руская мова набудзе статус афіцыйнай мовы краіны. Дык навошта ж скажаць словы прэзідэнта Украіны? А што тычыцца рускай мовы ў Беларусі, то за ёй замацаваны статус афіцыйнай мовы краіны ў Канстытуцыі. Дык дакуль жа будуць нядобразычліўцы беларускай мовы зноў і зноў ушчыняць лямант вакол яе дзяржаўнасці?!

А гаварыць ёсць пра што. Хоць бы пра той самы дзяржаўны гімн. Пасля прысягі прагучаў у зале гімн БССР, хаця спадар Лукашэнка абраны Прэзідэнтам не БССР, а Рэспублікі Беларусь. Атрымліваецца нейкі парадокс.

Тое ж самае і з паштовымі штэмпелямі, якія я бачу на паштовых канвертах, якія прыходзяць з Бацькаўшчыны. Мінскія паштавікі «прыдумалі», як са старых бэсэсэраўскіх зрабіць «новыя»: аказваецца, усё вельмі проста — здзерлі надпіс СССР угары, а ўсё астатняе пакінулі: МІНСК ПЖДП. Вось так! Як быццам гэта не сталіца незалежнай і суверэннай дзяржавы, а абласны цэнтр Расіі. Але ж яшчэ, дзякаваць Богу, Мінск — сталіца Рэспублікі Беларусь! Няўжо ж у сталічных сувязістаў няма гонару за сваю дзяржаву, за сваю сталіцу? А пра паштовыя штэмпелі з іншых месц Беларусі няма чаго і сказаць: яны надалей... савецкія! Дык хто ж, нарэшце, дасць каманду памяняць штэмпелі, дзе на беларускай мове будзе напісана БЕЛАРУСЬ і назва паштовага аддзялення сувязі (горад, пасёлак, вёска)? Ці чакалі, што скажа спадар Лукашэнка на сваёй інаўгурацыі? А сказаў ён, што Беларусь застаецца самастойнай і незалежнай дзяржавай!

Хачу ад сябе асабіста і знаёмых беларусаў нашага горада і раёна пажадаць спадару Лукашэнку поспехаў на пасадзе першага прэзідэнта дзяржавы, пажадаць яму моцнага здароўя, асабістага і сямейнага шчасця. А беларускаму народу набрацца цярпення, бо адразу нічога змяніцца не можа. Паволі павінна ўсё наладзіцца да лепшага. Мы тут жывём не лепей за вас, паверце на слова, але не губляем надзей, што спадар Кучма выведзе краіну з эканамічнага крызісу...

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг**

*г. Ізяслаў, Украіна*

## ГІСТОРЫЯ СЁННЯ Ў ПАШАНЕ...

**А таму, распачынаючы гаворку пра кнігі, якія збіраецца выпусціць у 1995 годзе выдавецтва «Навука і тэхніка», найперш запынім увагу ў тэматычным плане на раздзеле «Гісторыя. Археалогія». Ён — змястоўны. Пра арганізацыю і дзейнасць Наваградскай беларускай гімназіі, пра Барыса Кіта, Льва Гарошку, Алу Орсу і іншых знакамітых дзеячаў навукі і культуры, якія выйшлі з яе сцен, расказвае ў кнізе «Наваградская гімназія» А. Анішчык. «Міфы знікаюць паволі» В. Грыцкевіча — імкненне аўтара адысці ад стэрэатыпаў у гісторыі Беларусі, даць аб'ектыўнае асэнсаванне нашай багатай мінуўшчыны. Калектыўная кніга «Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка» (аўтары Н. Здановіч, А. Краўцэвіч, А. Трусаў) — яшчэ адна мажлівасць далучыцца да таго кутка Бацькаўшчыны, дзе і на самай справе ўсё дыхае даўнінай. Думаецца, не пройдзе незаўважаным і калектыўная праца «Места Менск у святле археалагічных даследаванняў» (аўтары — Н. Здановіч, П. Русаў, В. Собаль). Яны падводзяць вынікі дваццацігадоваму вывучэнню нашай сталіцы. Асобны раздзел прысвечаны помнікам архітэктуры, многія з якіх не захаваліся. А вось Г. Кнацько асэнсоўвае падзеі мінулай вайны — «Мінск у гады акупацыі: чэрвень 1941 — ліпень 1944». Выкарыстаны шматлікія дакументы, мемуары, іншыя гістарычныя крыніцы, многія з якіх упершыню ўводзяцца ў шырокі ўжытак. В. Шаблюк («Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння: XIV—XVIII стст.» распавядае пра матэрыяльную культуру нашых папярэднікаў. У якасці аргументацыі ўласных разваг выкарыстоўвае як археалагічныя матэрыялы, так і архіўныя дакументы. Падарункам прыхільнікам нацыянальнага Адраджэння стане кніга А. Станкевіча «Хрысціянства і беларускі народ». У ёй сабраны творы вядомага беларускага ксяндза-адраджэнца, чыя дзейнасць не адно дзесяцігоддзе замоўчвалася. Акрамя аднайменнай працы, у зборнік увайшлі такія творы А. Станкевіча, як «Родная мова ў святынях», «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення», «Справа каталіцкага касцёла ў Беларусі» і іншыя. У якасці дадатку прапануюцца дакументы пра арышт і смерць А. Станкевіча. Выдаецца і «Хроніка Быхаўца» — яна, як вядома, асвятляе гісторыю Вялікага княства Літоўскага ад легендарных часоў да пачатку XVI стагоддзя. Выходзяць калектыўныя працы «Археалогія Беларусі. Ч. 1. Каменны і бронзавы вякі» (усяго будзе тры часткі), «Беларусь у гады другой сусветнай вайны», першы выпуск гістарычна-культуралагічнага зборніка «З глыбіні вякоў».**

**А цяпер пра іншыя выданні, што несумненна прыцягнуць ўвагу лімаўскага чытача. Пабачаць свет чарговыя (чацвёртая і пятая) кнігі зборніка «Беларусіка». У першай з іх змешчаны матэрыялы навуковых канферэнцый «Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч беларускага Адраджэння», «Яўрэйская культура Беларусі і яе ўздзеянне на беларускую і іншыя культуры», «Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне канца XIX — пачатку XX ст.», а таксама традыцыйны раздзел «Скарыназнаўства». Пятая ж кніга будзе цалкам прысвечана беларуска-амерыканскім грамадска-культурным узаемадачыненням. Аўтары артыкулаў як беларускія даследчыкі, так і з ЗША, Канады, Польшчы, Расіі, іншых краін. Плануецца трэці выпуск зборніка «Культура беларускага замежжа». Гэтым разам прапануюцца нарысы пра спевака М. Забэйду-Суміцкага, кампазітара М. Равенскага, пісьменнікаў Ю. Віцьбіча, М. Гайдука і іншых, разглядаюцца дзейнасць культурна-асветных асяродкаў, асобныя выданні беларускага замежжа.**

**Па раздзеле «Літаратуразнаўства і крытыка» мяркуецца выдаць даследаванні Л. Гараніна «Праблема канфлікту ў сучаснай беларускай прозе», В. Козіч «Чалавек і прырода ў сучаснай беларускай прозе», У. Мархеля «Двухадзінства. Беларуская польскамоўная паэзія першай паловы XIX ст.», Г. Сіненкі «Насуперак канону. Да праблемы станаўлення творчай індывідуальнасці ў абставінах таталітарызму», В. Чамярыцкага «Вытокі беларускай белетрыстыкі. Станаўленне гістарычнай прозы Беларусі XI — пач. XVI ст.», І. Чароты «Пошук спрадвечнай ісціны. Нацыянальныя вобразы ў беларускай літаратуры XX ст.», В. Шынкарэнкі «Пад ветразем дабра і прыгажосці. Жанрава-стылёвыя пошукі У. Караткевіча», А. Яскевіча «Творы Ф. Скарыны. Структура, экзагез, вобразнасць». Выйдзе заключная, чацвёртая кніга «Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей», кніга М. Жыгоцкага «Побач з Коласам» (пра сустрэчы народнага песняра з Я. Купалам, М. Горкім, А. Фадзеевым, А. Твардоўскім і іншымі, блізкіх яму людзей, радавод Я. Коласа).**

**Працягваецца выпуск навукова-папулярнай літаратуры. Прынамсі, запланаваны зборнік гістарычных партрэтаў «Ад Рагвалода да Станіслава», другое выданне кнігі Э. Ляўкова «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны» (пра беларускія валуны), «Ілюстраваная гісторыя Беларусі. Ад Міндоўга да Сцяпана Батуры» М. Чарняўскага і іншыя выданні.**

Крытыка

# ІМПЕРЫЯ СПЕЦСХОВУ

Валерый Герасімаў

«НЕ АДНЫ пахучыя кветкі растуць на нашым беларускім шляху», — пісаў некалі выдатны дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння Кастусь Езавітаў. Калючым дурманам спецсховаў была заглушана кніжная ніва Беларусі ў гады ўлады Саветаў. Грунтуючыся на камуністычных ідэалагічных канонах, дзяржава ўсяляк абмяжоўвала карыстанне той ці іншай літаратурай. Крэмзаючы гісторыю народа, крэмзалі і мастацкае ды навуковае слова, якое яе адлюстроўвала. Ды і само слова «спецсхоў» нельга было казаць услых. Апошнім часам, напрыканцы 80-х, прамільгнула ў друку некалькі агульных інфармацый пра «тайны Галоўлітаўскага двара». Выйшлі яны пераважна з-пад пяра афіцыйных чыноўных асоб і выкрывалі, лічыце, «сакрэты палішынеля». Як той казаў, спецсхоў не распавёў пра «все свои возможности».

Тыя, што і сёння хочуць апраўдаць мэтазгоднасць існавання фондаў літаратуры спецыяльнага захоўвання, звычайна спасылаюцца на тое, што існавалі яны ці не ад пачатку свету. Так, ведаем мы і пра халіфа Амара, які галоўным крытэрыем каштоўнасці кніг лічыў іх адпаведнасць Карану і па загадзе якога былі спалены кнігі і пергаменты знакамітай Александрыйскай бібліятэкі.

Ведаем пра ўказ 1763 года Екацярыны II, скіраваны на абавязковую рэестрызацыю літаратуры кнігарняў і канфіскацыю кніг, «которыя против закона, доброго нрава, нас самих и российской нации». (Пазней нават наклад шэкспіраўскага «Юлія Цэзара» ў перакладзе Карамзіна быў спалены згодна з яе загадам). Ведаем пра расійскія міністэрскія каталогі і выдаваемыя з 1881 года спіскі кніг, забароненых да карыстання ў агульнадаступных бібліятэках. Ведаем пра Багушэвічаву «Дудку беларускую» і іншую беларускую літаратуру, якая тайна друкавалася і даста́ўлялася на Беларусь з-зя мяжы ў канцы XIX стагоддзя.

Так, усё гэта было. Але ж бясспрэчна і тое, што заснаваная бальшавікамі 14 снежня 1921 года імперыя спецсхову (Галоўліта) — гэта апафеоз цэнзуры, абмежавання і ўціску кніжнай прадукцыі, якія існавалі да таго ў сусветнай практыцы. Спецсхоў стаў сапраўднай «ЧК выдавецкай і бібліятэчнай справы», крывавым кніжным мясніком, пад сякерай якога аказаліся лепшыя дасягненні думкі беларускай нацыі.

«Пільнасць і дбайнасць» ідэалагічных цэнзараў, якія прыкрываліся фальшывым лозунгам «нацыянальнай па форме і інтэрнацыянальнай па змесце» культуры, пераўзыходзіла часам межы здаровай чалавечай логікі і сягала некуды ў краіну абсурду. Прыкладам, у тым жа 1921 годзе былі адпраўлены ў Шклоў на папяровую фабрыку «для пераробкі» багацейшыя архівы Канцылярыі менскага губернатара і губернскага праўлення. Маўляў, нашто нам крыніцы царскай гісторы. Толькі выпадкова частка іх была выратавана ад знішчэння і вернута ў Менск.

Колькі спецсховаў было на Беларусі? Якімі інструкцыямі — тайнымі і яўнымі — рэгламентавалася іх праца? Колькі ўсяго кніжак-вязняў хавалася ў іх. Хто складаў, зацвярджаў і падпісваў «галоўлітаўскія» праскрыпцыйныя спісы? Хто ажыццяўляў экспертную ацэнку «ідэалагічнай вартасці» выданняў? Ці назаўсёды канулі спецсховы ў нябыт? Не на ўсе гэтыя пытанні нават сёння можна даць дакладны і вычарпальны адказ.

Не ведаю, як з архівамі і музеямі, а сярод буйных бібліятэк мелі спецсховы чатыры — Дзяржаўная (зараз Нацыянальная), ЦНБ АН БССР, Фундаментальная БДУ і Урадавая. Такім чынам, зараз існуе сітуацыя, пры якой у абласцях, на перыферыі, фактычна няма літаратуры нацыянальна-дэмакратычнага накірунку мінулых гадоў выдання. Не сказаць, каб гэта спрыяла працэсам нацыянальнага адраджэння. Трэба штосьці думаць і рабіць.

Вось, згодна з паведамленнямі супрацоўнікаў былога беларускага Галоўліта /зараз — іспекцыя па ахове дзяржаўных тайн у сродках масавай інфармацыі Міністэрства культуры і інфармацыі/, у спецсховах было каля 400 рэспубліканскіх выданняў. А як сведчыць Барыс Сачанка, у адным «Зводным кантрольным спісе выданняў ДВБ, якія спісаны ў макулатуру (Мн., 1935), значылася 1778 назваў кніг і часопісаў, якія падлягалі тэрміноваму знішчэнню. І такія спісы складаліся штогод, а то і па некалькі разоў на год («ЛіМ», 1992, 18.09).

Урэшце, добра было б узнавіць у адкрытым друку ўсе тыя праскрыпцыйныя спісы літаратуры («Приказ N... Главлита СССР», «Алфавитный список лиц БССР» і да т.п.), па якіх вялося зацятае паляванне на друкаванае слова. Карыснымі яны прыдадуцца і навукоўцу, і гісторыку літаратуры, і бібліёграфу, і масаваму чытачу.

Дарэчы, пра экспертаў. Найбольш адыёзны з іх, безумоўна, Абэцэдарскі, слаўны, між іншым, тым, што на нарысы па гісторыі Усевалада Ігнатоўскага даваў нязменную рэцэнзію — у сэнсе, каб яны пабылі яшчэ ў спецсхове. Але, мусіць жа, быў не адзін Абэцэдарскі, які зараз стаў своеасаблівым «казлом адпушчэння». Такіх казлоў пасвіўся на камуністычным гародзе не адзін статак. І ў розныя часы. Бо старыя рагачы, як вялося, загадзя рыхтавалі сабе змену з маладзенькіх козлікаў. А сякія-такія сляды яны пасля сябе ўсё ж пакінулі. Так, у некаторых кніжках з былога спецфонду Урадавай бібліятэкі захаваліся карткі-рэцэнзіі з асабістымі подпісамі экспертаў. Прыкладам, кніжка Пшыбыльскага «Польская вайна: 1918—1921» (Варшава, 1930), характарызуецца наступным чынам: «Буржуазно-националистические банды Петлюры и Балаховича, пользовавшиеся помощью и поддержкой белополяков, автор подает как национальные войска. Из-за своего контрреволюционного, антисоветского содержания книга должна быть в спецфонде. 26 янв. 1956 г. (Подпіс)». Дабавіць нечага, усё ў духу свайго часу.

Першы раз некаторая літаратура са спецсховаў пачала передавацца ў сярэдзіне 60-х гадоў. Але ідэалагічная адліга хутка скончылася. І толькі напрыканцы 80-х у кожнай бібліятэцы-спецсховаўтрымальніцы былі ўтвораны часовыя камісіі, якія пакрыху вярнулі на адкрытае захоўванне былую забароненую літаратуру. Зараз як быццам спецсховы наогул зліквідаваны. Ці значыць гэта, што болей ні адна — падкрэсліваю, ні адна — друкаваная адзінка не забаронена да вольнага чытання і распаўсюджвання?

АЛЕ ХОПІЦЬ, вернемся лепш да самой літаратуры з пакутным і гаротным лёсам. За што пападалі кніжкі, часопісы і газеты ў спецсхоў? За тое, што адлюстроўвалі сапраўдную гісторыю і культуру Беларусі, за тое, што належалі пяру або выйшлі пад рэдактарствам ці ў перакладах «ворагаў народа», і нават проста за тое, што згадвалі іх імёны. Задачы ж ставіліся ясныя і простыя: «давесці колькасць сельскагаспадарчай літаратуры да колькасці літаратуры мастацкай». (Гэта цытата з разгромнага літаратуразнаўчага артыкула ў нумары за 1 мая 1928 года газеты «Савецкая Беларусь»). Здаецца, нічога благога. Але далей, напрыклад, даводзіцца, што ў Менскім педтэхнікуме 40 паэтаў, якія «пэўне, напамяць ведаюць палову вершаў Багдановіча, але ніводзін з іх не зможа растлумачыць селяніну, як арганізаваць калектыў, малочную арцель ці садова-гароднае таварыства».

Такія падыходы да ацэнкі каштоўнасці літаратуры выклікаюць сёння адно горкі смех. А беларуская інтэлігенцыя за межамі Савецкай Беларусі смяялася ўжо і тады. Так, калі ў 30-х гадах было згорнута выданне БелСЭ, віленскі часопіс «Шлях моладзі» саркастычна пісаў: «...Вольная, незалежная і квітнеючая Савецкая ордэнаносная Беларусь не можа здабыцца на энцыклапедыю ў беларускай мове... Для «Сталінскай нацыянальнай палітыкі» «хопіць» выдаць па-беларуску пару нязда́рных брашурак, перакладзеных з маскоўскай мовы, прамоў Сталіна, Кагановіча і іншых».

Які характар насіла беларуская літаратура, кінутая ў савецкія спецсховы? У асноўным яна за аўтарствам дзеячаў БНР і беларускага нацыянальнага руху ў краінах Балтыі і Заходняй Беларусі, а таксама ўрадаўцаў, дзеячаў навукі, культуры і мастацтва БССР, якія ў 20—30-я гады бралі актыўны ўдзел у працэсах беларусізацыі: Ф.Акінчыца, Я.Варонкі, К.Дуж-Душэўскага, К.Езавітава, Ц.Гартнага, У.Ігнатоўскага, В.Ластоўскага, А. і Я.Лёсікаў, А. і Г.Луцкевічаў, М.Краўцова, А.Цвікевіча і іншых. Адпаведнай была і тэматыка, прыкладам: «Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции» (1919) Язэпа Варонкі, «Белорусы и поляки: документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах» (1919) Кастуся Езавітава, «Правакацыя беларускага народа» (1933) Ф.Акінчыца.

Па мэтавым прызначэнні гэта пераважна выданні афіцыйныя, масава-палітычныя, навукова-папулярныя, вучэбныя, даведачныя і літаратурна-мастацкія.

Гісторыю розных беларускіх грамадска-палітычных і культурна-асветных рухаў, партый, згуртаванняў і суполак можна дакладна прасачыць па афіцыйных першакрыніцах, якія ўяўляюць сабой выданні праграмных дакументаў, статутаў, інструкцый і да т.п. «Устаў Аддзела Беларускага Культурна-Прасветнага Т-ва «Бацькаўшчына» (Коўна, Б.г.), «З роднага краю. Памятка беларускім палонным» (Берлін, 1919), «Статут Таварыства Беларускай Школы» (Вільня, 1926), «Інструкцыя, як тварыць арганізацыі Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай партыі на месцах» (Вільня, 1929) — прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Слоўнікі, лемантары, чытанкі, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, календары складаюць астатнія віды літаратуры. Прыкладам: Луцкевіч А. — «Як правільна пісаць па беларуску» (1917), Некрашэвіч С. — «Беларускі лемантар» (1922), Шатэрнік М. — «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» (1929). Знаходзіліся ў спецсхове «Беларускія календары» амаль за тры дзесяцігоддзі, што па традыцыі ад часоў «Нашай Нівы» выдаваліся ў Вільні. Рэпрэсавалася і мастацкая літаратура: Лёсік А. — «Не ўсе ж разам, ягомосьці!» (1914), Аляхновіч Ф. — «Каліся» (1919), «Першы крок: Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі» (1926) і г.д.

Цалкам хавалася ад чытачоў перыёдыка нацыянальна-дэмакратычнага накірунку: «Авадзень» (Вільня), «Беларуская школа ў Латвіі» (Рыга), «Беларускі сцяг» (Коўна), «Заранка» (Вільня), «Калоссе» (Вільня), «Покліч» (Наваградак), «Саха» (Вільня), «Шлях моладзі» (Вільня) і іншыя. (Толькі ва Урадавай бібліятэцы ў спецсхове было больш за 40 іх назваў).

А вось чаму трапіў у гэтую «паважную кампанню» шосты нумар «Полымя» за 1946 год; стаіць жа на вокладцы асобніка Урадавай бібліятэкі надпіс: «Да выхаду ў свет, 10000 экз. П.Броўка. 30.VIII.46 г.» (П.Броўка быў тады адказным рэдактарам часопіса). Відаць, таму толькі, што ў аўтабіяграфічных матэрыялах Я.Купалы згадваліся крамольныя імёны братоў Луцкевічаў, якія запрасілі паэта на працу ў рэдакцыю «Нашай Нівы» і ў бібліятэку «Знание» Даніловіча.

Калі за краты нельга было кінуць усё выданне цалкам, дык секвестраваліся раздзел, абзац, сказ. А часам і адзінае толькі слова, як з аповесці М.Гарэцкага «У чым яго крыўда?» У асобным яе выданні (Мн., 1926) гучыць, напрыклад: «Тое лепшае, чалавецка-беларускае, што ўзгадавала ўва мне сям'я (і то не ўся наша сям'я), тое доўгі час выкараняла ўва мне расійская школа». Амаль паўстагоддзя аповесць не перадрукоўвалася. А змешчаная ўрэшце ў зборы твораў 1984—1986 гадоў выдання, яна замест слова «расійская» ўтрымлівае шматкроп'е.

ПАРАДОКС — у спецсховах знаходзілася і процьма выданняў, у якіх вышэйпамянёныя прозвішчы нацыянальных дзеячаў паліваліся брудам. За што ж і кніжкі-даносы потым напаткаў аналагічны канец? За тое, што забыліся іх аўтары на народную мудрасць — не капай другому ямы, сам увалішся ў яе. У выкрывальніцкім імпэце яны вельмі ўжо багата цытавалі нацдэмаў. Вось і збаяліся ідэолагі, каб дасведчаны чытач і па абрыўках праўды не дапяў.

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ЛАСТАЎКА ПРЫЛЯЦЕЛА ЗІМОЮ

Яшчэ напрыканцы 50-х на Берасцейшчыне была зроблена спроба выдання ўласнага абласнога грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага альманаха. Аднак з прычыны многіх абставін выйшаў толькі адзін яго нумар.

Апошнім часам на розных узроўнях вялася гаворка пра неабходнасць узнаўлення гэтага выдання з крыху іншымі якасцямі, якія б адпавядалі запатрабаванням часу, бо вобласць багатая сваімі гістарычнымі і літаратурнымі традыцыямі. Тым больш, што ёсць і ўласная прыстойная паліграфічная база.

Нарэшце ў канцы мінулага года выйшаў з густам аформлены гісторыка-краязнаўчы і літаратурны зборнік «Берасцейскія карані».

Напачатку падаецца крыху статыстычных звестак пра вобласць (на жаль, не заўжды аптымістычных). Так, натуральны прырост насельніцтва за апошнія 40 гадоў знізіўся на 80%, на 46% зменшылася нараджальнасць. Трывожная тэндэнцыя, што і казаць. Пра сённяшні дзень і перспектывы развіцця эканомікі разважаюць прамыслоўцы, аграрнікі, журналісты.

«Памяткі нашай мінуўшчыны» ў храналагічнай паслядоўнасці прасочваюць асноўныя вехі гістарычнага і культурнага жыцця Берасцейшчыны ад X да пачатку XX века.

Багаты край і на самабытных мастакоў. Зборнік прадстаўляе двух з іх — жывапісца Лявона Доўбуша, схільнага пераважна да мяккіх акварэляў, і фотамайстра Уладзіміра Якавенку, якога найбольш прываблівоюць рамантычныя пейзажы і псіхалагічныя партрэты.

Мовазнаўцы В. Емельяновіч і У. Барысюк знаёмяць з паходжаннем асобных назваў, каларытнымі прыказкамі і прымаўкамі, што бытуюць на Палессі.

Асобны, найбольш багаты раздзел, — літаратурны. І гэта натуральна. Пра актыўнасць творчага жыцця на Берасцейшчыне сведчыць хоць бы той факт, што толькі за апошнія тры гады колькасць членаў абласной філіі Саюза пісьменнікаў Беларусі амаль падвоілася.

Аб мастацкіх традыцыях, нялёгкіх шляхах нашага духоўнага і культурнага нацыянальнага адраджэння разважае Уладзімір Калеснік у гутарцы з літаратуразнаўцам Г. Праневічам.

Шырока прадстаўлены ў зборніку паэзія, проза, драматургія. Пры гэтым укладальнікі (галоўны рэдактар Алесь Каско) імкнуліся ўключыць творы, найбольш характэрныя для творчых індывідуальнасцей аўтараў.

Розныя імёны прадстаўлены ў кнізе, розныя індывідуальнасці. Сабраныя разам, яны сведчаць аб багацці берасцейскай зямлі на таленты, якія арганічна ўліваюцца ў беларускую літаратуру, надаючы ёй шматграннасць і непаўторнасць.

Праўда, не абышлося без пэўных выдаткаў, імкнення ісці за звычным стэрэатыпам. Так, сённяшні ўзровень развіцця прамысловасці вобласці параўноўваецца з 1940-м годам, калі Берасцейшчына ўвайшла ў склад БССР (памятаецца, у часы СССР усе дасягненні параўноўвалі з 1913-м). Думаецца, празмерна ружовымі фарбамі малююцца дасягненні вобласці ў розных галінах вытворчасці, бо якія яны сёння — бачна, пэўна, усім.

Мяркуецца, што «Берасцейскія карані» і надалей будуць радаваць змястоўнасцю і рэгулярнасцю выданняў. А для гэтага кіраўніцтва вобласці разам з філіяй Саюза пісьменнікаў усур'ёз падумваюць аб стварэнні ўласнага выдавецтва.

І. КАЛЯНКОВІЧ
г. Брэст

# ГАВАРЫЛА ЗБАЛЕЛАЕ СЭРЦА...

«Гэта вельмі таленавітыя людзі, і для мяне гэтыя выступленні «афганцаў» сталіся вялікім урокам, я быў узрушаны іхнімі спевамі», — сказаў на гала-канцэрце пераможцаў Міжнароднага конкурсу-фестывалю песні «Афганістан баліць у маім сэрцы» кампазітар А.Елісеенкаў. Тут выступалі і старшыня журы кампазітар І.Лучанок, і пісьменнік-«афганец» М.Чаргінец, і міністр культуры і друку А.Бутэвіч, удзельнічалі «зоркі» беларускай эстрады і інш. Да гэтага канцэрта прайшло тры конкурсныя туры, у якіх вызначыліся лепшыя выканаўцы. Гран-пры атрымаў Вадзім Дарашэнка з Брэста, лаўрэатамі сталі спевакі з Магілёва, Наваполацка, Клецка, Мінска, некаторых вайсковых гарнізонаў рэспублікі. Фестывальны гала-канцэрт закончыўся прэм'ерай песні І.Лучанка на верш М.Ясеня «Калі не будзе грамадзянскай вайны».

П.ГАРДЗІЕНКА

Паэзія

*Гэта добра, што купалінка ды вяснянка, баладны казацкі спеў просяцца ў класічны санет. І паэтычнай воляй, памкненнем спалучыць дзве стыхіі шукаюцца новыя сцяжынкі да актывізацыі вобраза, да мелодыка-рытмічнага ўзрушэння і абнаўлення радка.*

*Вусная народная творчасць, назапасіўшы праз стагоддзі неацэнныя скарбы духоўнай энергіі, была, ёсць і будзе крыніцай, адкуль не замоўлена ды і спадчынна, небам наканавана чэрпаць прафесійнаму мастаку. Тут і вызначэнне арыенціраў душы, тут і школа мудрасці і майстэрства. Звычайна паэтычнае слова, зарыентаванае да прастаты выказвання, чамусьці адразу спалучаюць з фальклорнай традыцыяй. А ўспомнім хітраспляценні асацыяцый у народных загадках, — ды тут жа яны дадуць фору самым выкшталцоным вышукам паэтычных мадэрністаў!..*

*Усім — і кожнаму — ёсць падставы пашукаць апірышча ў тым, што створана геніем народа.*

*Добрай удачы і гэтым старонкам Валянціны Аколавай, шчырага чытацкага суперажывання і разумення!*

*Васіль ЗУЁНАК*

Валянціна АКОЛАВА



# СЛУЧАНСКІЯ САНЕТЫ

## ВОСЕНЬ ЖОЎТАЯ ДА НІТКІ ТЧЭ ВЯКІ НА ГРУДЗЕ

Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі
на грудзе.
Толькі раз адзіны, людзы,
можна жытку жыці.
Мець случанскую радзіну і ў свята
і ў будзень.
Не на тое свеціць сонца —
цені каб цяніці.

Не на тое цвітуць ружы —
росы каб расіці.
Для любові мяне маці гадавала ў людзі.
Не на тое словы ў песні —
вусны каб вусніці.
Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі
на грудзе.

Для любові мяне маці гадавала ў людзі.
Толькі раз адзіны, людзы,
можна жытку жыці.
Мець случанскую радзіну і ў свята,
і ў будзень.
Не на тое спее жыгга —
каб зямлю зямліці.

Для любові мяне маці гадавала ў людзі.
Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі
на грудзе.

## ПРЫЛАСКАЛІ ХЛОПЦА З ЧУЖОЙ СТАРАНЫ

Далёка радзіма. Роду не відаць.
Прыласкалі хлопца з чужой стараны.
Будзе край дунайскі ваяра чакаць, —
Вось з якой навіны дзень той навіны.

Нізка ў травах сонца. Блізка —
ночі сны.
Будзе ўплач матуля сына ўспамінаць.
Краем стэпу, краем цвітуць палыны.
Будзе да галубкі голуб прылятаць.

Будзе галубіца — голуба кахаць.
Прыласкалі хлопца з чужой стараны.
За далёкай даллю мора не відаць, —
Казак і радзімы на ўвесь свет адны.

Ад капыт да грывы — масцю:
конь з вясны.
Вось з якой навіны дзень той навіны.

## СУМ ПА ЗДРАДНІЦЫ, КРАСНАЙ ДЗЕВІЦЫ...

Сум па здрадніцы, краснай дзевіцы,
Не гукай, святло, ружай на далонь.
Сонца схіліцца к ценям дзе-вя-ці...
Пераскача грак праз вясны агонь.

Не гукай любоў, памяць не палонь...
— Як расінаю мора мераці,
Ланцугом каваць неба ў абалонь,
Як без кораня садзіць дзе-раў-цы,

Перасохлае зерне: се-я-ці,
Раз-званіць званы ў царскі перазвон,
Як ад зор адняць зоры Вечнасці,
Ссаладзіць палын, разбасіць гармонь,

Песняй кланяцца жалям дзевяці, —
Сум па здрадніцы, краснай дзе-ві-цы...

## І НЕ ЕЎ БЫ, І НЕ ПІЎ БЫ, КАБ ЛЮБІЎ...

За ўвесь грэшны свет й вялікі —
не судзі...
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.
Чорны бровы — не ў размовы, як адзін.
Май у стэпе: палыны ўсе разбудзіў.

Я ніводнай з тваёй ласкі не забыў.
Звугалелыя боль-крыўды: астудзіў.
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.
Чорны бровы не ў размовы — як адзін.

За ўвесь грэшны свет й вялікі —
не судзі...
Я ніводнай з тваёй ласкі не забыў.
Звугалелыя боль-крыўды: астудзіў.
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.

Чорны бровы не ў размовы — як адзін.
За ўвесь грэшны свет й вялікі —
не судзі.

## КАРЧМАРУ СТАРОМУ ВЕК ЗМАЛОДЗІЎ СЭРЦА...

Карчмару старому век змалодзіў сэрца.
Не да сну ў каляды, кожнай дзеўцы —
рады.
Смеху — многа спеху, жартам —
мала перца.
Што ж цяпер казаці? Што ж цяпер —
парады?
Вось такое дзіва, вось такія — праўды.
Карчмару старому — ноч каротка ў
сенцах.
Пацвяляцца спрытам халасцяцкім рады.
Грыміць громам сэрца, дрыжыкі
ў каленцах:

Як пусціла корань сохлае паленца.
Як зімой хто поле ледзяныя грады.
Як рассыпаў зоркі маладзік з акенца, —
Вось такое дзіва, вось такія — праўды.

Куды вецер вее — туды голле гнецца.
Карчмару старому век змалодзіў сэрца.

## ЗОРКАМІ ПРАЗ ЦЕНЬ ВОБЛІК ТВОЙ РАСЦЕ

Зоркамі праз цень воблік твой расце.
Між якіх людзей, дзе ты сёння, дзе?
Век — пакарацеў, мудрасці схацеў.
Зімна зноў вадзе, а цябе — нідзе.

Боль адсірацеў, памяць сум прадзе.
Смех чуваць гасцей. Час —
як грамацей.
На слязы судзе: сведак — анідзе.
Лебядой густой маладосць цвіце.

Век пакарацеў. Мудрасці схацеў.
Боль адхаладзеў. А цябе — нідзе.
Зоркамі праз цень воблік твой расце.
Між якіх людзей, дзе ты сёння, дзе?

Час — як грамацей. Смех чуваць
гасцей.
Зоркамі праз цень — воблік твой расце.

## ЦЕНЯМІ Ў ЦЕНІ — НОЧ ПА СЦЯНЕ

Ценямі ў цені — ноч па сцяне.
Лягу як спаці — цяжка ўздыхаю.
На тваё — выйшла, на маё — не.
Тую, што ўведаў — болей не знаю.

Тую, што ўкняжыў — не адгукаю.
Радасць адыдзе. Боль адміне.
Голас каханкі ў хоры шукаю.
Плача, як каня, раніца ў сне.

Ценямі ў цені — ноч па сцяне.
Тую, што ўведаў — болей не знаю.
Радасць адыдзе. Боль адміне.
Тую, што ўгневіў, не адгукаю.

На тваё — выйшла, на маё — не.
Ценямі ў цені — ноч па сцяне.

## САМ БОГ ТОЕ ЗНАЕ, КАГО ХТО КАХАЕ...

Сам бог тое знае, каго — хто вяртае.
— Будзь, мілы, здаровы. Такія знай
словы.
Каго хто кахае, сам бог тое знае.
Стары сум адвеку, нярадасна — новы.

Насечаны дровы. Счарнелыя бровы.
Пра лёс кожны дбае, ля воч май трымае.
Дарогі — разлогі. Трывогі — абновы.
Сам бог тое знае, каго — хто кахае.

Сам бог тое знае: хто й як забывае.
— Будзь, мілы, здаровы! Такія знай
словы.
Сам бог тое знае: каго — хто вяртае.
Счарнелыя бровы. Трывогі — абновы.

Сам бог тое знае: чый боль прамінае.
Зязюля кувае: Сто вёснаў гукае...

## СІНІЯ ВАЛОШКІ АДСІНЕЛІ Ў ЖЫЦЕ

Сінія валошкі адсінелі ў жыце.
— Позна, любы, позна. Зоркі
свецяць — розна.
Богам не бажыце. Грэхам не грашыце.
Напаслед каханню не глядзіце слёзна.

На душы — парожна. І ў крыві —
марозна.
Судом не судзіце. Смехам
не смяшыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.
На калінах спелых восень не тушыце.

Пра бяду чужую кляты не кажыце.
Зоркі свецяць — розна. Позна, любы,
позна.
Сінія валошкі адсінелі ў жыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.

— Позна, любы, позна. Зоркі
свецяць — розна.
На душы — парожна. І ў крыві —
марозна.

## СМЕХ ЧУЖЫ, ЯК ДЫМ, ЗВЕЕЦЦА Ў ПЯСОК...

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок...
Сем раз не сядзі не ў сваім сядле.
Звонкі галасок. Вечар праз лясок.
А ў малойца, знаць, бедна на стале.

Што з чужых кішэнь дастае талер.
Белы каўнярок. Жоўты паясок.
А ў малойца, знаць, памяць —
на вузле,
Што глядзіць сем раз непраўдзіва
ўбок.

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок.
А ў малойца, знаць, коней — не стае.
Што пайшоў з вачэй босым праз лясок,
І згубіў любоў, раздарыў талер.

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок.
Знік казак з вачэй праз густы лясок.

## АД ВАРОТАЎ — ПРАЗ МОСЦІЧАК...

Ад варотаў — праз мосцічак:
Ад лазы да арэшыны:
Адыходзіў мой госцічак,
Малады, непагрэшаны.

Сам сабою насмешаны,
Казачок, з кіпець — росцічак.
Зоркі ўсе з ім — разгледжаны,
Вішні ўсе з ім — без костачак.

Ад варотаў — праз мосцічак,
Добрым словам ўсцешаны,
Адыходзіў мой госцічак,
Сам сабою насмешаны:

Казачок, з кіпець — росцічак.
Сямікнязем — той госцічак!

## ЗА ЯРЫЦАЙ, ЗА ПШАНІЦАЙ

За ярыцай, за пшаніцай —
Случы матчынай выток,
Там — вясной не наталіцца,
Там — азёрны капыток.

Жыта спеліць васілёк,
Звонка цінькае сініца,
Зоры зорaць вугалёк.
Там — гара стаіць гарыцай;

Там хацеў казак жаніцца,
Заснаваць сямейны ўток,
Шчасця ўдосталь наталіцца,
Збудаваць хаціну ў толк.

Там хацеў казак жаніцца —
За ярыцай, за пшаніцай.

## ВЕЧАР ВОСЕНІ — ДАЎГІ...

Месяц звострыць два рагі...
Расчужэлы да мілосці.
Вечар восені — даўгі.
Жаль, шкада той маладосці,

Што згасціла ў воўчы госці,
Мой нядродна-дарагі,
Раздалёкі да былосці, —
Судзяць грэшнікаў багі.

Боль — сцяжэлы ад тугі,
Разгарчэлы да гаркосці,
Мой нядродна-дарагі,
Раздалёкі да былосці.

Вечар восені — даўгі.
Месяц звострыць два рагі.

## А ШТО ГЭТА ЗА СЛУЧАНКА — ЛЮБЛЮ І ЛЮБІЎ?

А што гэта за саколе,
што без крыл ляціць?
А што гэтакі за месяц —
зоркі запаліў?
А што гэта за квет вішні —
як званы: звініць?
А што гэта за случанка —
люблю і любіў?

А што гэта за лёд першы —
сам сябе разбіў?
А што гэта за каліна —
чырванню гарыць?
А што гэта за случанка —
забыць не забыў?
А што гэта за саколе,
што без крыл ляціць?

А што гэткая за памяць —
ранаю шчыміць?
А што гэта за случанка —
люблю і любіў?
А што гэта за саколе,
што без крыл ляціць?
А што гэта за лёд першы —
сам сябе разбіў?

А што гэтакі за Слуцак —
праз вякі
глядзіць?
А што гэткае за жыццё —
не ў мілосці жыць?

## ЦІ КАНЯ НЕ МЕЎ, ЦІ ДАРОГ НЕ ЗНАЎ?

Ці каня не меў, ці дарог не знаў,
Што зара — не ўстала?
Ці без воч глядзеў, ці не так кахаў,
Што любоў — прапала?

Ці вады не піў, ці слёз не сушыў,
Што адрокся бога?
Ці ў падман сабе, ці ў разлад душы,
Што любоў — астрогам?

Ці сяброў не меў, ці ў пустыні жыў,
Што ад долі — бегам?
Ці святло ўчарніў, ці ноч адбяліў,
Што любоў — астрогам?

Што на цень — слязьмі?
Што на дол — грудзьмі?
Што з бядот — сямі.

Проза

# Мікола КАПЫЛОВІЧ

# АБРАЗКІ



## РОДНАЯ ХАТА

Пра гэта я некалькі разоў збіраўся напісаць, але не мог падабраць слоў. Яны крыўдай запякліся на сэрцы і не хацелі класціся на паперу.

Хату, дзе я вырас, прыгадваю тут, у горадзе, часта, як самае дарагое, што засталося ў маім жыцці.

Маленькая, гарбаценькая, як матчына доля, яна стаіць у маёй роднай Астражанцы і старымі, сляпымі вокнамі ўзіраецца ў шлях, нібы чакае, што вось-вось на ім пакажацца з касою на плячы сам гаспадар, мой бацька. Прыйдзе з пакосу, павесіць пад страху касу, ступіць на ганак, зачэрпне карцом з вядра вады, вып'е, каб наталіць смагу, і прысядзе на прызбу адпачыць, прыхінуўшыся спінаю да сцяны роднай хаты.

Яна, здаецца мне, і цяпер глядзіць сваімі замурзанымі акенцамі ў канец вуліцы, калі, выгнаўшы да сонца ў чаргу карову, маці вернецца на парог, пачне тупаць каля печы, варыць нам, дзецям, сняданне.

Яна ж, пэўна, памятае, як некалі мы — Лёня, Роза, я, Міша, браты і сёстры — на досвітку спяшаліся ў лес па грыбы. І да снядання вярталіся ў двор радасныя, што на нашых грыбовішчах ніхто не пахадзіў, не пабраў баравікі. І вось цяпер яны ўсе ляжаць у кашалях, маладыя і цупкія. А бацька, схіліўшыся над кашалямі, выкладае іх на шырокую лаву і ўсё прыгаворвае:

— От жа ладных параслявікаў налыгалі!.. Тугія, маладаватыя... І смуглявыя, нібы цыганяты.

— Старайцеся, дзеткі, пакуль растуць, — казала маці. — Грошай заробіце, каб купіць кніжкі і сшыткі.

Пасля вайны, калі жылі нішчымна і галадна, адна была ў нас надзея на баравікі. Высушаных у печы і нанізаных на ніткі іх можна было здаць у лаўку, купіць хлеба. Або за выручаныя грошы агораць чуні ці ватоўку, каб было ў чым зімою выйсці на вуліцу. Бо хадзілі мы тады ў лапцях і латунах.

Зімою родная хата неахвотна выпускала мяне, малога, з цяпла на люты мароз, калі я на саматужках вёз ажно ў Петрыкаў — за пятнаццаць кіламетраў — прадаваць на кірмаш саламяныя кулі, каб потым за выгандляваныя капейкі купіць солі. А позна ўвечары цьмяным мігценнем святла, што паблісквала ў вокнах, радасна сустракала мяне, змучанага і адубелага на марозе, абдымала пяшчотным цяплом, калі я перакульваўся цераз парог, і доўга адагравала на печы... А я, прытуліўшыся тварам да цёплага коміна, плакаў ад радасці, што не замёрз і не заблудзіўся ў лесе, што зноў у роднай хаце...

Часта ў зімовую сцюжу хата не грэла, рабілася халоднай — на дрывотні не было ні паленца дроў. І я з меншым братам, Міхасём, запрагаліся ў саматужкі і каціліся па снезе ў лес секчы дровы, каб не змерзнуць у хаце. І аднойчы нас злавіў у лесе аднавокі ляснік Шляга, вывернуў насечаныя паленцы ў снег, патрушчыў саматужкі... У тую зіму мы ледзь не акалелі ў сваёй хаце. Давялося, каб сагрэцца, разбіраць на дровы плот.

Пасля хата пабольшала, перагарадзілася на дзве палавіны — бацька, вярнуўшыся з Поўначы, прыляпіў да яе трохсценак, каб нам, дзецям, было вальней. А мы з братам Міхасём у гэты час садзілі за глухою сцяною сад. Выкопвалі ў лесе дзічкі, прышчэплівалі іх, даглядалі. І не заўважылі, як праз гады з нашых яблынь, ігруш і сліў кожную восень пачало звешвацца, нібы пляцёнкі цыбулі, галлё з садавінай.

Асабліва нецярпліва чакала мяне на канікулы родная хата, калі стаў студэнтам. На спатканне са мною яна ўлетку прыхарошвалася кветкамі ў гародчыку, новымі фіранкамі ў вокнах.

І перш чым ступіць на родны парог, я нізка схіляў перад ёй галаву, заходзіў у дзверы і доўга кружыў па падлозе, прагна ўзіраўся ва ўсё роднае, да драбніц знаёмае і блізкае з дзяцінства: лаву паўз сцяну, скрыню ў куце, картачкі на сцяне, прысадзістую і ўтульную печ, на якой мы некалі грэліся ўсёй вялікай сям'ёй. Хадзіў і дакранаўся да ўсяго гэтага рукою, нібы не верыў, што зноў я дома.

Нібы маці роднага сына, клікала мяне да сябе родная хата і потым, калі я пачаў пісаць творы. І не адзін з іх быў задуманы і нарадзіўся тут, на сваім селішчы. Пісаў пра тое, як фашысты палілі нашую Астражанку, стралялі ў людзей, што ўцякалі ў лес, пісаў пра пасляваенныя галодныя гады, пра нішчымніцу, слёзы і пот, якімі тут змочаны кожная градка агароду, кожны загон сотак і лапік поплаву ў канцы іх. Пісаў, каб хоць на паперы пакінуць памяць аб роднай зямлі і хаце, дзе нарадзіўся і вырас. І, каб набрацца натхнення, я зноў і зноў вяртаўся на родны парог.

І раптам памерлі бацька і маці, брат Міхась. Хата асірацела, засталася адна. Яна, пакінутая назаўсёды гаспадарамі, яшчэ больш стулілася, пастарэла, абамшэла. І зусім аслепла ад гора. Але цьмянымі шыбамі, нібы бельмамі, усё яшчэ ўзіралася ў белы свет, і, здавалася мне, штодня чакала мяне. І я не вытрымліваў, кожнае лета ездзіў на спатканне з роднай хатай.

Так было і летась. Прыехаў і ўзрадаваўся, калі ў сельсавеце, не заходзячы ў хату, даведаўся, што вярнулася з горада мая пляменніца Зіна, прывезла адтуль з сабою нейкага Алега. І маладая сям'я пачала жыць у нашай пакінутай асірацелай хаце. У трохсценку. Некалі я дапамог пляменніцы паступіць у інстытут. І вось цяпер, ужо ў замужжы, яна перавялася на завочны факультэт, прыехала дамоў, каб у роднай школе вучыць дзетак.

Узрадаваўся, што ўсё ж не абязлюдзела нашая родная хата, папоўнілася роднымі галасамі. Ажыла і ачнулася ад самоты і сіратлівага здранцвення, нібы выратавалася ад смерці.

І вось я на парозе хаты. З хваляваннем і шчымлівым смуткам гляджу на стол, два табурэты, скрыню і два ложкі. Горыччу апякло маё сэрца — гэта было ўсё тое багацце, якое бацька і маці нажылі за ўсе гады свайго гарапашнага жыцця, працуючы ў калгасе і саўгасе. Але, падумалася мне, усё ж яны былі багатымі людзьмі. Багатымі на шчырыя сэрцы і добрыя спагадлівыя душы. І гэтае багацце не забралі з сабою ў магілу, а пакінулі ў спадчыну нам, сваім дзецям, якіх жыццё параскідала па белым свеце.

У хаце было цёмна і сыра. І холадна ў гэты дажджлівы і хмарны дзень. Трэба, зразумеў я, каб хоць трохі павеяла жывым цёплым духам, запаліць у грубцы, якую некалі склаў з бацькам. Выйшаў на двор, наклаў на руку бярэмак бацькавых дроў, вярнуўся ў хату, укінуў у грубку некалькі паленцаў. Потым пад іх падсунуў сухіх трэсак і запаліў агонь. Загуло полымя. Я сеў на табурэт, пачаў глядзець, як абкручваў, абдымаў дровы агонь, весела трапятаўся, выгінаўся, лізаў у грубцы цэглу. І не знаходзячы там у цеснаце сабе ўжо месца, чырвонымі струменямі пачаў ліцца ў комін. На сэрцы ў мяне адтала, палагаднела — нібы бачыў перад сабою нешта свойскае і роднае з дзяцінства.

І раптам нехта ззаду, за маёю спінаю, адчыніў дзверы. Я азірнуўся — на парозе стаяў малады вузкалобы чалавек і касавурыста глядзеў на мяне.

Падняўся з табурэта і хацеў падаць яму руку, каб пазнаёміцца, але хлопец апярэдзіў мяне:

— Алег я... Жыву цераз сенцы... Ты здесь, когда прыехал, не наводзі свае парадкі, — пачаў адразу ён з парога. — Відзіш, ужэ і грубку запаліл... Кірпіч расколется... твою маць! І дрова маі жжош... Січас я цебя з дома выброшу, хрэн моржовый!

Пачуўшы такое, спярша я не паверыў сваім вушам, а потым, калі дайшло, анямеў і змярцвеў, быццам нехта схапіў мяне рукою за сэрца і пачаў моцна сціскаць яго ў пальцах. У грудзях стала млосна. І столь, і вокны, і сенцы хіснуліся, пачалі некуды сплываць у цемень. Замест іх перад вачыма пачалі мітусіцца і разыходзіцца хвалямі жоўтыя кругі. Перахапіла дыханне, падагнуліся ногі і я, каб не зваліцца на падлогу, прыхінуўся плячом да грубкі.

— Я... я... нічога... Мне... нічога не трэба... — ледзь памятаючы сябе, са стогнам прамармытаў я. — Я ж не супраць... Жывіце на здароўе. Я нават рады гэтаму.

Па маім збялелым твары хлопец зразумеў, што мне стала кепска, і, каб даканаць мяне, яшчэ раз паўтарыў:

— Чтобы знал, хрэн старой, что я здесь хозяин!

— А пераначаваць у роднай хаце можна? — няўцямна вырвалася ў мяне.

— Одну только ноч. Заўтра чтобы укатился отсюда х... мацеры!

Усю ноч я не заплюшчыў вачэй, варочаўся з боку на бок на бацькавым ложку. А раніцай, калі назаўсёды пакідаў родную хату, з дзвярэй трохсценкі чуў моцны, з прысвістам, храп.

Гэта спаў вузкалобы Алег.

## ПАРАСЯТКА

Жыве Матруна ў канцы мястэчка. Яна — суседка майго сябра. Жыве адна. Хатка маленькая, прысадзістая, з замшэлым дахам. І гарбатая, як і сама гаспадыня. Яе адразу пасля вайны сыны, тады яшчэ хлапчукі, з тонкіх бярвенцаў скідалі. Плот гнілы, пахілены, вароты раструшчаны. На двары замест дроў — галлё, якое старая нацягала на сабе з лесу.

Сыноў у яе трое. Усе ў горадзе жывуць. Пісьмы не пішуць, адведваць Матруну не адведваюць. Раней, калі яна была пры здароўі, трымала карову, свіней і курэй, прыязджалі да маці, а цяпер — не. Так і жыве адна. Пенсія невялічкая, перабіваецца з хлеба на квас.

Матруна апошні год не распускала свае «зайчыкі», збірала іх, каб купіць на кірмашы парася.

Паехала ў Маладзечна і, нарэшце, купіла. І нібы адразу паздаравела — не магла ад радасці знайсці сабе месца ні ў хаце ні на двары.

Прыбегла суседка Прося.

— Прывезла? — яшчэ з варот пацікавілася яна.

— А як жа! Ужо ў хляве чмыша... Такое маленькае, пацешнае! Ну як малое дзіця. І рахманенькае!

Матруна ўсміхнулася. На маршчыністым сухенькім твары заблішчэлі блакітныя вочкі. І нават яе падраная куртачка, якая засталася ад малодшага сына, нібы зрабілася навейшай.

— А паглядзець можна? — шэптам, нібы баялася патрывожыць жывую істоту, спытала яна. — Не бойся, не сурочу.

— А я і не баюся. Ведаю, што ў цябе вочы добрыя, — таксама ціха азвалася Матруна.

І яны крадком, на дыбачках, каб не напалохаць парася, пайшлі да хлеўчука, адчынілі варотцы.

Маленькі ружовы вепручок, нібы дзіця, якое толькі што адарвалі ад матчыных грудзей, стаяў на беленькіх капыціках і, убачыўшы ў варотцах святло, радасна віскнуў. Ён паспрабаваў было ступіць насустрач Матруне і Просе, але заблытаўся ў саломе і паваліўся набок.

— Які прыгажунчык! — не магла надзівіцца Прося на парася. — Чысценькі, дагледжаны. Ну, як лялька! І гладзенькі. І як ты такога выбрала на кірмашы?

— Доўга там тупала, але выбрала, — пахвалілася старая. — Бачу, дзед сядзіць у капелюшы... А каля яго ног ляжыць і варушыцца, нібы жывы, мех. «Мо парасятак прадаяце?» — пытаюся. «Усе ўжо прадаў, — адказвае. — Толькі адно засталося». І разгарнуў мяшок. Зірнула я на парасятка, пацанавалася — дорага просіць. Дай, думаю, яшчэ па кірмашы паблытаюся, можа таннейшага парсючка надыбаю. І, верыш, толькі ступіла крок ад таго дзеда — парсючок як завішчыць, хоць вушы затыкай. Гэта ён так плакаў, мяне да сябе клікаў... Спынілася, яшчэ раз на свінчо паглядзела: і ножкі роўныя, і вушкі тырчком стаяць, і галоўнае — хвосцік кручочкам. Ну, думаю, гэта мой. І не цанавалася ўжо з дзедам. Купіла...

— Пашанцавала табе, Моця. Добранькае купіла парася, — пахваліла суседку Прося. — А есці просіць?

— Яшчэ як! Верашчыць з раніцы. Я яго пойлам цёпленькім адпойваю. Мучным. З соскі. — Яна выняла з кішэні і паказала суседцы бутэльку. — Вось гэтым.

Нагнулася і тыцнула соску ў лычык парасяці. Яно прагна схапілася за соску, пачало яе смактаць са смакам, павільваць ад асалоды хвосцікам — вужачкай.

— Год буду яго карміць і даглядаць, каб вялікі і гладкі вырас парсюк. Каб багата сала і мяса на ім нарасло. А потым напішу сынам: прыязджайце калоць. Ці прыедуць? Як ты думаеш?

— О-го! — выгукнула Прося. — На крыллях прыляцяць! І ўсё мяса і сала ў сумкі ўтопчуць. Табе толькі застануцца вушкі ды ножкі. І хвосцік у прыдатак...

— Ну і няхай. Няхай!.. А я зноў парасятка куплю. І буду гадаваць, каб зноў сыноў на сала прыманіць... Бачыць каля сябе іх вельмі ж хочацца...

## АКНО Ў НАЛЕДЗІ

Памятаю, бацька і маці пайшлі да суседзяў. У іх памерла дачка. Хата гэтых людзей пазірала цераз вуліцу на наш двор слепаватым, нібы зацягнутым бяльмом, акенцам. Я, малы, залез тады з нагамі на лаву, узіраўся ў цемень, намацваў позіркам тое ваконца і доўга не зводзіў вачэй з жаўтлявай плямы святла, што ледзь працэджвалася праз зашэрхлыя ад наледзі шыбы. З маёй дзіцячай душы ніяк не выходзіла, што ў хаце праз вуліцу ляжыць мёртвая дзяўчынка. Гэтае акенца прыцягвала і не адпускала мяне, нібы хацела сказаць пра нейкую неспазнаную тайну. Смерць для мяне тады нічога не азначала, была звычайным словам.

У гэткі ж марозны дзень, гадоў пяць пасля, настаўніца паведаміла нам, вучням, што ў бальніцы памёр наш аднакласнік і мы ўсім класам павінны пайсці з ім развітацца. Мы купкаю ўціснуліся ў хату, дзе паўз сцяну сядзелі ў чорным бабулі, а на стале стаяла труна, абцярушаная папяровымі кветкамі і апавітая дзеразою. Я глядзеў на нябожчыка, як на жывога свайго сябра, і не даваў веры, што ён памёр. Галашэнне яго маці не зварухнула ў маёй душы ні спачування, ні спагады: гора гэтай ачарнелай ад бяды жанчыны аніяк не кранула мяне. «Крывіначка мая, сэрцайка маё, сынок мой даражэнькі! — ўбівалася маці. Калі потым ступаў за труною, нічога не адчуваў, акрамя цьмянай журбы і нуды. І нават тады, калі

(Працяг на стар. 10)

# ТУТ АЖЫЛА МІНУЎШЧЫНА



*Замкавы комплекс патанае ў ценю стогадовых дрэў.*

**Закончылася рэканструкцыя унікальнага паркава-замкавага комплексу ў Нясвіжы. Гэтыя работы расцягнуліся на дзесяць гадоў. І вось цяпер знакаміты замак Радзівілаў з яго цудоўным паркам, векавымі дрэвамі, найчыстымі сажалкамі, лужкамі, чыгунным ліццём агароджы, алеямі, скульптурамі і помнікамі паўстаў у поўнай красе такім, як сто гадоў назад. Зазіхацеўшы прыгажосцю, ажыла даўніна.**

**Нясвіж з яго старажытнымі помнікамі — касцёлам, гарадской ратушай, замкам Радзівілаў і паркам — гордасць, гістарычная рэліквія беларусаў. Тут у 1562 годзе Сымон Будны надрукаваў на беларускай мове свой «Катэхізіс», тут вучыліся вялікія паэты Уладзіслаў Сыракомля і Якуб Колас, пісьменнік Кузьма Чорны.**



*Адзін з куткоў старадаўняга парку Радзівілаў.*

**Шануюць, ашчаджаюць гісторыю і прыгажосць Нясвіжа сучаснікі. Сведчанне таму — карпатлівая праца энтузіястаў і спецыялістаў, якія год за годам, у гэты цяжкі час, паслядоўна працавалі над аднаўленнем гістарычнага паркава-замкавага комплексу на радасць нам і будучым пакаленням.**

**Раман КАБЯК,**
**БЕЛІНФАРМ**



*Помнік паэту Уладзіславу Сыракомлі, устаноўлены ў парку.*

*Фота аўтара*

# МАГІЛЁЎ. НЕ ПАРЫЖ...

## ВЫГЛЯД З ВАКНА ГАЛОЎНАГА МАСТАКА

***Трэці год пасярод Магілёва на вуліцы Першамайскай стаяць руіны абласнога драматычнага тэатра. Вокны ў вокны — будынак Дома палітасветы, дзе цяпер месціцца й працуе магілёўская трупа. З трэцяга паверху, з кабінета галоўнага мастака тэатра Марка Волахава, раскурочаная часам ды будаўнікамі архітэктурная каштоўнасць выглядае не дужа вабна. Можна сказаць — жудліва...***

— А ўсярэдзіне! — Марк Мікалаевіч, апярэджваючы ўсе пытанні, распавядае сам. — Першае, што зрабілі будаўнікі-рэстаўратары — разрабавалі тэатр. Усё, што можна было ўкрасці, акрамя столі (столь бетонная, ёй рады не дасі), — пакралі... Свой святы абавязак — зберагчы старое — яны не выканалі. Цудоўныя каваныя кратаванні з балконаў зняў я сам. І схаваў. Час ад часу заходжу ды правяраю, ці ўсё на месцы. А рэстаўратары яшчэ летась раскідалі дах і не прыкрылі будынак — паркет, вядома, неўзабаве загінуў. Сцены набрынялі. Будынак жа мог ... проста паваліцца! Я сам і на дах лазіў, дапамагаў дзіркі забіваць... Дах, дарэчы, будзем рабіць бляшаны, бляха ўжо назапашана. Але сапраўдных спецыялістаў, каб хоць яе хораша прыладзіць, бракуе. Як і спецыялістаў зрабіць усё іншае. Дамовіліся калісьці з Масквою, з Сафіяй — не выстачыла грошай. Калі б жа тры мільёны шэсцьсот тысячаў па колішніх перабудовачных цэнах знайшліся, дык балгары нам ужо даўно ўсё б зрабілі, — за тыя ж грошы мы б яшчэ разжыліся на італьянскае ды венгерскае сцэнічнае абсталяванне! Год таму ўжо ўсё б здалі пад ключ, — сам кошт раўняўся... васьмістам цыстэрнам з мазутам!.. А цяпер будоўля-рэстаўрацыя падыходзіць да мільярда, а тэатр у якім стане? Скупы, як вядома, плаціць двойчы. Самае ж непрыемнае — гэта наведваць планёркі будаўнікоў (імі кіруе трэст N 17 «Лаўсанбуда»), якія разбягаюцца з аб'екта навыперадкі з пацукамі. Варта было сказаць пра гэта па мясцовым Магілёўскім тэлебачанні, і яны на мяне моцна пакрыўдзіліся. Яны крыўдзяцца й дагэтуль, а будоўля ледзь ліпіць, цягнецца, як сырое гарыць, дый сапраўднага гаспадара ў яе, як высвятляецца, няма! З пастаянных ды зацікаўленых — толькі назіральнікі, я ды архітэктар Наташа, жонка магілёўскага архітэктара Кузняцова, — хлопец, не вытрымаўшы блуканняў па пакутах з праектамі рэстаўрацыі тэатра, атрымаў інфаркт, хлопца не стала ў трыццаць шэсць гадоў... А рэстаўратары па-ранейшаму збіраюцца на свае планёркі, і такога «тэатра», я вас запэўніваю, нідзе больш не ўбачыце. Планёрку вядзе кіраўнік трэста. Дае вымовы, угаворвае, запалохвае, просіць, звяртаецца да сумлення. Падначаленыя адпаведна рэагуюць і даюць самыя моцныя словы, што вось ужо да наступнае планёркі!.. Наступная планёрка — яшчэ адна рэпетыцыя...

З рэстаўратарамі бяда. Я мяркую, што нашым, не вельмі дасведчаным, не дужа спрактыкаваным, даручаць далікатную справу з тэатрам ніяк няможна было. Між тым ім аддадзена ўся глядацкая частка, дзе перадусім вымагаюць пільнай увагі акустычныя вокны. У мяне некалькі разоў спыталіся ўжо, маўляў, навошта ў зале гэткая незразумелая аздоба, замінае! І я сабе зацеміў: людзі сярод рэстаўратараў тэатра, па бальшыні сваёй, выпадковыя. Яны ж у свой час рэстаўравалі сучасны Палац культуры (а гэта не тое, што архітэктурную каштоўнасць — стары тэатр!), — я ўбачыў, як не ўмеюць замацаваць капітэль; як вучацца, працуючы. Тое, што яны робяць у тэатры, часам нагадвае дзеянні варвараў. Ад няўмення. Ад неразумнасці...

Колішні міністр культуры, спадар Міхневіч, сказаў неяк, што Магілёў — не Парыж, і Магілёўскі тэатр трэба ладзіць... як працей. Архітэктар Кузняцоў прыдумаў тады, як лацвей: усе службы тэатра разам з брудным дваром, загрувашчаным дэкарацыямі, пойдуць пад зямлю. Цяпер за тэатрам — катлаван. Пад гэты самы праект. На чатыры метры ў глыбіню зямлі залезем, а ўгару — таксама на чатыры метры падымемся. Праўда, давядзецца гораду ахвяраваць маленькім тэатральным паркам, — менавіта на ягоным месцы стане чатырохпавярховы адміністрацыйны будынак. Адмыслова пераменіцца і сцэна, — сцэна, якая мае адметны, адзіны ў сваім родзе партал, — з авалам наверсе. Рэч у тым, што раней усю вышыню сцэны ніяк няможна было скарыстаць і таму я аддаваў перавагу афармленню, якое б адкрывала сцэнічную глыбіню. Цяпер мы, арыентуючыся на законы сцэны,.. падымем яе вышэй, каласнікі — да васемнаццаці метраў, а з рабочых пакойчыкаў паабапал сцэны зробім, нарэшце, сапраўдныя сцэнічныя кішэні...

Заўсёды мы жылі і цяжка, і небяспечна. Дастаткова згадаць наступствы ад таго, што тэатр быў складзены з няякаснай цэглы: падчас сезоннай непагадзі сценкі набрыньвалі вільгаццю і электраправодка пагражала пажарам. Пры гэтым архітэктар Пётр Камбураў сто гадоў таму цудоўна ведаў сваю справу: тэатр пабудаваны быў вельмі хораша! І... не вельмі. Фундамент пад сцэнаю праз сто гадоў асеў на паўметра. Сама сцэна ўжо вісела ў паветры: як своечасова тэатр зачыніўся на рэстаўрацыю! Дадам, што ўсе земляныя работы ўжо зроблены. Фундамент сцэны замацаваны выдатным хітрамудрым бетонам (ён здатны сам па сабе пашырацца, займаючы пусткі). Цяпер даводзіцца да ладу тое, што месціцца над фундаментам...

А сам тэатр пакуль — у Доме палітасветы. Усе падкрэслена спачуваюць. Адзіны, хто ставіцца да нас памяркоўна і дзелавіта — старшыня аблвыканкама спадар Грынёў. Вядома ж: каб атрымаць наш сённяшні будынак, мы мусілі ладзіць цэлую дэманстрацыю, абышлі ўвесь стары горад! А цяпер і вакол старога тэатральнага будынка, і вакол Дома палітасветы ўсё круцяцца ціхмяныя спраўныя людзі, калі не сказаць прасцей — дзялкі. І я ўжо вельмі баюся, што падчас рэстаўрацыі наш стары будынак упаў ім у вока: як бы там не зафундавалі казіно са стрыптызам... Цяпер і не заўважыш, як апынешся збоку прыпёку...

Коратка — пра новы будынак, дзе мусім часова атайбавацца. Сцэна ў ім, вядома, рабілася не для акцёраў. Глыбіня — шэсць метраў, вышыня — сем, пад'ёмнікаў няма, штанкеты, я б сказаў, для сімвалічнага карыстання... Ну як тут рабіць структуру або атмасферу спектакля? Балазе, я чалавек абазнаны. Але, да прыкладу, не магу рады даць асвятленню, яго трэба хоць бы наблізіць да тэатральнага, а гэта — выдаткі. Ды яны, відаць, неабходныя. Як і невялікая дапамога архітэктараў, бо, як на мой багаты жыццёвы досвед, у нетэатральныя выгоды (або — у тэатральныя невыгоды, як трапней) мы ўлезлі надоўга. І — сталічнага б удзелу ў нашых справах. Сталічных бы спецыялістаў... Магілёў жа. Не Парыж...

**Запісала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*г. Магілёў*

# АБРАЗКІ

*(Пачатак на стар.9)*

мёрзлыя глыжы зямлі пасыпаліся на вечка труны і жудасна зноў загаласіла маці нябожчыка, я застаўся спакойным. Мароз запінаў дыханне, наскрозь праймаў холад, і я з палёгкай уздыхнуў, калі труну засыпалі зямлёй і настаў час разыходзіцца па хатах. Маленькі грудок зямлі зажаўцеў сярод блакітных сумётаў снегу; на вечаровым небе чорным похмаркам насіліся і дзерлі горлы сваім хрыплівым карканнем вароны, патрывожаныя людскім гуртам.

Калі я вярнуўся дамоў, у хаце нікога не было. Я доўга кружыў па падлозе, адчуваючы ў сабе незразумелую самоту. Праз вокны ў хату напоўз вечаровы змрок, але я не запальваў лямпы, усё хадзіў і хадзіў па хаце. І раптам, быццам у сліпучым святле, у маіх вачах уваскрэсла, узнікла тое даўняе, маўклівае і цьмянае акно ў наледзі. Глыбокі падсвядомы страх варухнуўся ў маёй душы, сціснуў сэрца і ўсяго мяне ахапіла нейкае здранцвела-пранізлівае шкадаванне самога сябе. Дагэтуль не ўсведамляючы сваім дзіцячым розумам, што некалі таксама памру, цяпер я адчуў гэта ўсёй сваёй сутнасцю і пачаў перажываць тую даўнюю смерць дзяўчынкі як сваю. Мяне працяў халодны жах, душу ахапіла адчуванне сваёй бездапаможнасці і безабароннасці перад смерцю. Нават думкі пра тое, што памру я толькі тады, калі буду стары і нікому непатрэбны, не маглі суняць ува мне страх. І я зусім разгубіўся. Душа мая яшчэ ўпарцілася, не хацела прызнаваць смерць, але з яе дна ўжо падымаўся няўцешны і нязгойны смутак: я памру. На мяне напусціўся нейкі чад. Думка пра смерць ні на хвіліну не пакідала мяне ні днём, ні ноччу, гняла і мучыла. Для ўсіх я быццам не змяніўся, заставаўся такім, якім і быў: выседжваў у школе ўрокі, вяртаўся дамоў, зноў браўся за падручнікі. Рабіў гэта нібы ў сне. І не звяртаў цяпер увагі на бацькоў і настаўнікаў, жыў сам-насам са сваім смуткам і горам. Узіраўся і ўслухоўваўся ў людзей і ніяк не мог зразумець, чаму яны жартуюць, спяваюць і смяюцца, ведаючы, што памруць. Асабліва жахліва і страшна мне было ноччу. Я ляжаў з расплюшчанымі вачыма і мяне зноў і зноў апаноўвалі неадступныя думкі пра смерць і вечны змрок. Усё навокал для мяне перастала існаваць, я згубіўся ў нейкім густым тумане і не мог ніяк з яго выблытацца. І раптам я ўбачыў сябе вачыма свайго сябра, які нядаўна памёр, і паступова пачаў ачуньваць ад жахлівага страху. Ён з кожным днём некуды сплываў з душы, пакінуўшы тугу...

Я даўно ўжо дарослы, нават стары чалавек. Бачыў на сваім вяку не адну смерць — бацькоў, сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей. Непазбежнасць смерці больш не ўзрушвае, не палохае мяне. Усяму павінен быць канец. Жыццю — таксама. Але акно ў наледзі ўсё яшчэ свеціць мне з дзяцінства зашэрхла-жаўтлявай плямай, а часам успыхвае пранізлівым сліпучым бляскам, і я заціхаю сярод звыклых будзённых клопатаў, быццам спыняюся на парозе вялікай тайны.

## НАСТАЎНІК

Калі я прыехаў у сваю вёску і выйшаў з аўтобуса, першым чалавекам, якога я ўбачыў на прыпынку, быў мой былы настаўнік Антон Пятровіч. Ён стаяў каля плота з кульбаю у руцэ і не зводзіў вачэй з вокан аўтобуса: некага чакаў. І калі аўтобус рушыў далей, Пятровіч ступіў да мяне і працягнуў сваю кволую і вузенькую, нібы дзіцячую, далонь:

— Надоўга, Фаміч?

— На цэлы месяц, — павітаўся і адказаў я. — Уволю пахаджу па родных сцежках.

— Добра, што Бацькаўшчыну не забываеш. Птушкі вунь з выраю на родныя гнёзды ляцяць, а чалавеку дык і подаўна сваё селішча трэба адведваць.

— Чакалі каго?

— Жонку.

— Адкуль?

— З Мінска. Дачка пасля інстытута выйшла ў Мінску замуж за банкіра. Ён сабе катэдж там пад горадам адбухаў. У тры паверхі. І забраў маю жонку. Цешчу, значыцца... Каб той палац даглядала. На наймічку, бач, грошай пашкадаваў.

— Дык няхай бы і вас...

— О-го, хіба ён дурны — калеку да сябе браць?! Памру там, а зяцю — клопат. Вялікія грошы на хаўтуры выкладвай. Лепш я лягу вунь там... — І паказаў кульбаю на ўзгорак, дзе шапацелі над крыжамі асіны і бярозы. — Сельсавет, думаю, пару дошак на труну адшкадуе...

У нашую школу адразу пасля вайны ён прыехаў у шынялі і з мяшком за плячыма, у якім, акрамя салдацкай коўдры і падручніка па гісторыі старажытнага свету, нічога не было. У клас, памятаю, ён увайшоў, праціснуўся неяк бокам, і ўсе мы адразу пачулі парыпванне пратэза, убачылі каліўцы рудой шчэці на твары: правая рука ў яго не гнулася, а леваю, зразумелі мы, гісторык не налаўчыўся галіцца. Цяпер, калі мінула столькі гадоў, ужо цяжка сказаць, чым ён нам адразу спадабаўся. Ці не сваёй добразычлівасцю, вясёлымі вачыма і справядлівай патрабавальнасцю. Відаць, і гэтым. Але ўсё ж — нейкай раскаванасцю і свабодай. Ён не заўсёды прытрымліваўся тэмы ўрокаў, расказваў нам шмат цікавага і невядомага з гісторыі старажытных народаў, якога не вычытаеш у падручніках: пра арбалеты, стрэлы, войны. Гэтак жа цікава і радасна было нам, калі Антон Пятровіч прыходзіў у клас з картамі, паказваў на іх, дзе існавалі таямнічыя старажытныя дзяржавы, апавядаў пра рымскіх імператараў і алімпійскіх багоў.

І вось цяпер ссохлы, нібы струк, зусім ужо стары ён пазірквае на мяне з-пад саламянага капелюша і нешта яшчэ хоча сказаць.

І, нарэшце, абзываецца:

— Можа, Фаміч, зазірнеш да мяне? Паглядзіш, як я жыву.

Грэх было адмаўляцца ад запрашэння настаўніка, перад якім я адчуваў нейкую віну і ранейшую, яшчэ вучнёўскую ніякаватасць. І мы падаліся ў бок яго хаты. Кульгаючы, прыпадаючы на пратэз, ён марудна ступаў па вуліцы, часта спыняўся, аддыхваўся, нібы рабіў нейкую цяжкую работу.

У хаце было бедна і пуста: голыя сцены, на якіх віселі пучкі засушаных зёлак, ложак, стол, картачкі на прасценку між вокан, скасабочаная шафа з кнігамі.

— Тэлевізар і халадзільнік жонка з дачкою забралі ў Мінск, — сарамліва азваўся ён, заўважыўшы ў маіх вачах здзіўленне. — Дываны таксама. Бо дома я амаль не жыву... Больш у бальніцах.

Я выняў з сакваяжа пляшку і паставіў на стол.

— Гарэлку я даўно ўжо не п'ю. П'ю вунь тое, — паказаў ён на падаконнік, дзе стаялі і ляжалі аптэчныя бутэлечкі і таблеткі. — Усю пенсію забіраюць гэтыя лекі. Імі і кармлюся і лячуся. Прасіўся быў, каб мяне забралі ў інтэрнат інвалідаў вайны, але не дапрасіўся. Месца, кажуць, няма. Вось і чакаю дома смерць. Сваё я аджыў. А калі падумаю, дык і не жыў як чалавек. Толькі мучыўся. То ў акопах, то ў шпіталях. Ды і пасля вайны было не соладка. Расказваў вам, вучням, пра старажытны рабаўласніцкі лад, пра прыгон, а ён быў на вачах, за акном школы. У нашым калгасе. А цяпер наступіў ужо новы лад... Рабаўніцкі. Рабуюць усіх: і малых, і старых...

Я слухаў тужлівы голас настаўніка і ўсё пазіркваў на пажоўклую ад часу картачку, што вісела на сцяне. На ёй Антон Пятровіч быў маладым, у ваенным адзенні.

— Гэта пасля шпіталя зняўся. Пад Масквою мяне параніла і кантузіла. Кінуўся было з гранатаю на нямецкі танк... Выбухам тады мяне аглушыла і ўбок адкінула. Цэлых пяць месяцаў нічога не чуў...

— Ну, а цяпер кінуліся б пад гусеніцы нямецкага танка? — вырвалася ў мяне.

— Кінуўся б, — хрыпла адказаў настаўнік. — Толькі, гэтым разам, без супрацьтанкавай гранаты...

Я зірнуў у твар Антона Пятровіча — у ягоных вачах стаялі слёзы.

Прэм'еры

# ТРАГЕДЫЯ БЛАЗНА? ЦІ — ВЫКРЫЦЦЁ ПАЧВАРНАГА ДУХУ?

## ПЫТАННІ ДЫЛЕТАНТА З ГЛЯДЗЕЛЬНАЙ ЗАЛЫ

Дазволю сабе нагадаць чытачу (і — тэатру) адну даволі збітую фармулёўку накont таго, што ж робіць з рэчаіснасцю, узнаўляючы яе, мастацтва. У прыватнасці, сцэна. Дык вось, здавён-даўна лічылася, што яно раскрывае і паказвае нам недасягальныя для нас у звычайных буднях крыніцы чалавечага задавальнення. Задавальнення высокага пачуцця і ганебнай пажадлівасці. Якраз мастацтва, дарэчы, і вызначае тое «ганебнае», бо «ніводны вінаваты ў чым-небудзь перад самім сабою і перад людзьмі чалавек не бывае апраўданым вердыктам свайго ўласнага сэрца». Сказаўшы так, славуты Дэцым Юній Ювенал дадае: «І ў гэтым — найпершая кара для яго», бо вышэйшы маральны закон не прымае пад увагу нават вельмі вынаходлівае самаапраўданне асобай уласных учынкаў, паводзін і наогул — сябе.

Даруйце за доўгі ўступ да таго першага пытання, якое хочацца задаць тэатру, які сёння ставіць на сваіх падмостках знакамітую оперу Д. Вердзі «Рыгалета». Пытанне такое: а ці адчувае гэты пакрыўджаны прыродай (ён гарбун з маленства) і лёсам (яму выпадае быць блазнам пры двары герцага) чалавек задавальненне ад сваіх учынкаў? Яму ж даводзіцца пацяшаць свайго суверэна і ягоных гасцей кпінамі і крыўднымі жартамі з прыніжаных і падманутых, абдураных і пакараных. Каб герцагу Мантуанскаму было весялей забаўляцца, спакушаючы прыгожанькіх ды маладых, якіх выкрадаюць для яго з-пад апекі нават досыць шляхетных бацькоў.

Зразумела, я пачынаю пераказваць усім добра вядомы сюжэт. Сапраўды, Рыгалета насміхаецца і жартуе з графа Мантэронэ, здзекуецца з бацькі згвалтаванай герцагам дзяўчыны...

Прыслухоўваешся да музыкі і вакальных рулад Рыгалета ў гэты момант, адчуваеш, што кампазітар не спяшаецца разам з графам асуджаць блазна. Праклён у ягоны адрас з боку Мантэронэ нібы «не зусім» падзяляецца Д. Вердзі.

Чаму? Ёсць у гэтага прыдворнага блазна свая тайна. І ён ганарыцца ёю, бо яна робіць яго вышэйшым за гэтых вяльможаў, якія падлашчваюцца да герцага і займаюцца ў хаўрусе з ім раздуранай распустай, пакуль самі не трапляюць у пастку. Тая «пастка» для Рыгалета — смешная. Вось ён і забаўляе герцага, смеючыся... Бо сам надзейна хавае і аберагае ад небяспекі сваю родную дачку Джыльду. (У драме В. Гюго «Кароль бавіцца...» блазан Трыбуле кажа: «У дзікага ваўка і то нараджаецца ваўчанё, і ў мяне магла дачушка нарадзіцца...»). Якое гэта вялікае задавальненне: ведаць і адчуваць, быццам з табою таго, што здарылася з графам Мантэронэ, ніколі не здарыцца. У цябе ёсць цнатлівая і прыгожая дачка, як дарунак Бога! Хай ты гарбун і блазан, хай твая прафесія, тваё рамяство — пацяшаць гэтых багатых гуляк ды гультаёў, адно толькі ўсведамленне свайго годнага бацькоўства надае табе гонар Чалавека.

Пра гэта перш-наперш спявае і гэта апявае Д. Вердзі.

Ягоную музыку выпраўляе ў залу Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі музычны кіраўнік пастаноўкі і дырыжор А. Анісімаў. І чароўныя арыі, і ансамблі зноў і зноў захапляюць і нават п'яняць удзячных слухачоў.

Слухачоў... А гледачоў? Тых, хто не толькі слухае оперу, а і ўспрымае спектакль як самастойны твор сцэнічнага мастацтва?

Рэжысура Ю. Аляксандрава дэманстратыўна і знарочыста трактуе оперу «Рыгалета», напісаную паводле драмы В. Гюго «Кароль бавіцца...», насуперак устойлівым традыцыям выканання гэтай вечна трапяткой і ўражлівай партытуры. Ах, не спяшайцеся кідаць у мяне камяні! Я сам не надта пачцівы да руціны штампаў. Мне больш даспадобы па-творчы гарэзлівыя і арыгінальныя інтэрпрэтацыі даўно вядомых п'ес і партытур. Я ведаю, як с л о в а на сцэнічных падмостках можа ў вуснах акцёра набываць інтанацыйную афарбоўку, якая ставіць з ног на галаву сэнс напісанага драматургам. Але. У драматычным тэатры можна прамовіць «Я цябе кахаю» так, што глядзельная зала скаланецца ад жаху, бо пачуе пагарду ў вонкава ласкавых словах. Гэта прэрагатыва, паўтару яшчэ раз, драматычнай сцэны, дзе п'есу «Кароль бавіцца...» можна было б паставіць як вобразнае выкрыццё самога рамяства блазна, рамяства, якое робіць чалавека пачварай і духоўным злачынцам, здатным здзеклівым смехам заганяць у цемру роспачы тых, хто робіцца ахвярамі караля-гульца.

У оперным жа тэатры рэжысура, натхнёная жаданнем абавязкова па-новаму «перачытаць» музычную партытуру, вымушана спрачацца не толькі са словам, а і з музыкай. Якім чынам? Ноты ж ты не перапішаш; адваротны сэнс таму, пра што яны пяюць і што славяць (або, наадварот, ганяць), не навязаць. Таму Ю. Аляксандраў касцюмам і грымам Рыгалета ўсяляк падкрэслівае блазенскае ў гэтым персанажы, блазенскае — як роднаснае пачварнаму. У паводзінах героя і ягоных хаўруснікаў ёсць намаганні паказаць Рыгалета-зламысніка, схільнага быць неміласэрна жорсткім у адносінах да герцагавых ахвяр. Тэатр абвяшчае ў творчай праграме спектакля (і шукае магчымасці ўвасобіць сваю задуму на сцэне) не задавальненне Рыгалета як абаронцы і чулага бацькі Джыльды, а як садыцкай натуры, якая найбольш задавальняецца, калі разам і супольна са сваім маладым суверэнам герцагам Мантуанскім куражыцца і здзекуецца з няшчасных. Гэты Рыгалета — істота без гонару і без сумлення.



*Рыгалета - Юры БАСТРЫКАЎ*



*Герцаг — Іван ШУПЕНІЧ*

Артыст А. Саўчанка прытрымліваецца такога сцэнічнага малюнка сваёй опернай партыі. Ды спявак А. Саўчанка робіць нешта зусім «не тое»: ён амаль бездакорна ў вакальным гучанні выконвае... напісанае Д. Вердзі! І атрымліваецца прыкры разнабой у музычных акцэнтах і ў вонкавых паводзінах акцёра-спевака.

Не, не скажу, быццам гэты разнабой надта парушае ўспрыманне спектакля. Рацыянальна ты яшчэ як бы спрачаешся з Ю. Аляксандравым, у думках абвяргаеш ягоную трактоўку вобраза героя оперы. Затое эмацыянальна нас бярэ ў палон непадуладная пастановачным свавольствам м у з ы к а. А яна жыве і пераліваецца ўсімі адценнямі пачуццяў, што складаюць усё ж трагедыю блазна. Высокую трагедыю.

У спектаклі, пастаўленым Ю. Аляксандравым, мноства маляўнічых мізансцэн і вынаходліва размеркаваных у адзінай дэкарацыйнай канструкцыі эпізодаў. Сцэнограф спектакля Л. Ганчарова і мастак па касцюмах Э. Грыгарук знайшлі надзвычай гарманічнае па каларыце і па форме «адзенне» ўсёй сцэны і кожнага з выканаўцаў сольных партый і ў хоры, выказалі вытанчаны густ. Ім вельмі памагае дакладнае вызначэнне светлавых акцэнтаў (мастак па святле С. Мартынаў). Праход герцага Мантуанскага ў апошняй дзеі па калідоры з адкрытымі дзвярыма ў рознакаляровых светлавых квадратах — якая гэта выдатная мізансцэна! На яе фоне музычны трагізм блазна Рыгалета набывае яшчэ больш моцнае ўздзеянне на публіку.

Мне давялося аднойчы бачыць на правінцыйнай сцэне спектакль «Кароль бавіцца...» У ім апошняя сцэна Джыльды з бацькам пасля таго, як той пераконваецца, што яна... забітая, выкрэслівалася. Ды і оперныя спектаклі «Рыгалета» звычайна заканчваюцца воклічам адчаю героя: «Вось яно, старога праклянцце!», калі маецца на ўвазе помста лёсу за здзекі блазна з графа Мантэронэ (у першай дзеі оперы). Рэжысёр Ю. Аляксандраў, адмовіўшыся ад мяшка, у якім забойца хаваў забітую Джыльду, пабудаваў і сапраўды надзвычай выразны і хвалюючы эпізод, так бы мовіць, прывіднага «адыходу Джыльды» ў іншы свет, з цудоўнай замагільнай лірычнай арыяй гераіні. На прэм'еры яе партыю спявала чулая да тонкіх нюансаў музычнай характарыстыкі Н. Касценка.

Радуюць у новай пастаноўцы «Рыгалета» на нашай опернай сцэне сапраўдныя знаходкі-перлы. Спектаклю апладзіруеш. Асабліва моцна б'юць у ладкі меламаны дырыжору А. Анісімаву: аркестр у яго і спявае, і плача, і трыумфуе, уліваючы ў нас прасветлены настрой суперажывання. У поўным суладдзі з ім гучыць вакал. А вось да рэжысуры ўзнікаюць прэтэнзіі. Ці не трапляе яна пад уплыў таго «духу часу», тае «моды», калі лічыцца важным «выкрываць» і клеймаваць ганьбай чалавека за кожную хібу ці памылку, за ілюзіі і захапленні, за натуральныя парыванні і за фатальнае памкненне? А музыка ж не выносіць прысуду і не робіць выраку, яна спявае і спевам раскрывае пэўны стан чалавечай душы, пачуццёвы рух, плынь адчування...

Вядома, кампазітар у гэтым спеве выяўляе свае сімпатыі і антыпатыі. І асабістыя, і грамадзянскія. Ды што казаць, Д. Вердзі мілаваць таго ж герцага Мантуанскага не збіраўся. А савецкі тэатр зрабіў звычкай з усёй сілай вульгарнай сацыялогіі выстаўляць Рыгалета ледзь не рэвалюцыйным мсціўцам за ўсіх пакрыўджаных і прыніжаных «разбэшчанымі арыстакратамі». Адгалоскі тае вульгарызацыі адчуваюцца, як ні дзіўна, і ў трактоўцы оперы рэжысёрам Ю. Аляксандравым. Толькі ён яшчэ і галоўнага героя «перавёў» у лагер гвалтаўнікоў. Ну, а герцаг дык той даведзены сваёй саладжавай прыгажосцю, манерай паводзін у асяроддзі прыдворнай камарыллі, нават касцюмамі і парыком да адназначнага сімвала: распуснік ён, легкадумны валацуга — і годзе!

А музыка спявае «не толькі» пра гэта. У ёй адчуваецца яшчэ нешта, мабыць, не менш выразнае.

Герцаг нібы і сапраўды то спакушае, то гвалціць прыгожых маладых жанчын. А паслухайце музыку кахання, што гучыць у аркестры і ў голасе самога герцага Мантуанскага: гэта ж гімн шчыраму захапленню. Герой у арэоле такой музыкі можа выглядаць нават паэтам кахання. Нездарма ж Джыльда пасля «грахоў» і злых падказак бацькі ўсё-такі не адчувае аніякай крыўды на «спакусніка». Мо ён і яе далучыў да хараства пачуццёвай радасці жыцця. Але, грэх, ён і ёсць грэх, ды не толькі ж «грэх» — прыгоды лаўцоў асалоды і ўцехі: класічнага дон Гуана або не менш легендарнага Казановы! Прынамсі, мастацтва не абавязана выносіць ім прысуд з сацыялагічным прысмакам. Гэта правінцыйна.

Калі рэжысёр, напрыклад, ставіць у поўны рост над Маддаленай герцага і потым прымушае іх, праўда, у паўцемры... аддавацца любоўным уцехам, гэта ўжо нешта накшталт, прабачце, «тушонкі з шампанскім». Бо ў музыцы вядомы апошні акт «Рыгалета» зноў жа славіць з трагедыйнай сілай каханне як непасрэднае і жыццёвае пачуццё. І хоць Маддалена амаль пад прымусам брата сустракае на тайным начным рандэву герцага, музыка яе сэрца выдае ўзрушаную радасць жанчыны ад сустрэчы з непаўторна прыгожым перажываннем. У музыцы... А на сцэне цудоўная спявачка Н. Руднева гэтак апранута і трымаецца з той бесцырымоннасцю, што мяжуе з пошласцю, быццам перад намі спрактыкаваная юрлівая спакусніца.

Мабыць, рэжысура дэманстрацыяй такога «нагляднага» распуства спрабуе пераканаць Джыльду (і нас, слухачоў і гледачоў) у заганнасці большасці людзей. У музыцы славутага квартэта апошняй дзеі оперы, аднак, гучыць нешта іншае. Бо нават тут Джыльда зноў пераконваецца ў харастве жывога пачуцця, хай сабе і грэшнага, паводле святош і прыстойнага абывацеля, але ж... але ж... І ахвяруе сабой дзеля любові!

У музыцы ўсё па-жыццёваму складана, пераблытана і неадназначна. Блазан — і ён жа чулы да жывога пачуцця чалавек. Спакушаная прыгажуном дзяўчына — і яна ж захопленая хараством сустрэчы з мілым рыцарам. Змоўшчыца, паненка-прасцячка, пераўтвараецца ў велічна закаханую і гатовую нават на злачынства жанчыну... І калі абстрагуешся ад сцэны вокам, тую складанасць жывога жыцця ты ч у е ш. Кінеш вока на падмосткі — перад табой стракатая гісторыя прыгод помслівага гарбуна, якога сама прырода пазбавіла тых натуральных радасцей...

Я — з ліку дылетантаў у музыцы. Магчыма, у мяне няма і права выказваць уголас меркаванні пра новую пастаноўку «Рыгалета» на беларускай сцэне (раней гэтую оперу ставілі ў нас у розныя гады рэжысёры П. Златагораў, Б. Мардзвінаў, Ю. Ужанцаў, С. Сільніцкі). Ды спектакль, пастаўлены сёлета Ю. Аляксандравым, дзе царуе воля дырыжора А. Анісімава, абуджае надта гарачыя ўражанні. Супярэчлівыя — і тыя, што радуюць, і тыя, што засмучаюць. Выказваю некаторыя з іх толькі як аматар. На правах сталага наведвальніка опернага.

**Барыс БУР'ЯН**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# СТВАРЫЦЬ СВОЙ ХРАМ...

**Той канцэрт быў даўно, увесну. А водгулле не аціхае. Фрагменты праграмы запісаў на радыё Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова. Нотамі новых твораў зацікавіліся ў Лонданскім скарынаўскім цэнтры, спадар Пікарда нават ужо выдаў «кавалачак»... Зрэшты, па парадку. Памянёны канцэрт у зале на Залатой Горцы прадстаўляў дзве музычныя прэм'еры: «Усяночную» Сяргея Бельцюкова ды песняспевы паводле «Літургіі св. Іяана Златавуста» Алега Залётнева. Элітарная публіка: знаёмыя твары паэтаў, акцёраў, журналістаў, рэжысёраў тэатра і кіно і, здаецца, толькі трох (апроч саміх аўтараў) кампазітараў. Публіка ўвогуле ўражвала: калі яшчэ было, каб да кампазітараў выстройваліся чародкі людзей з добрымі, адухоўленымі ды інтэлектуальнымі тварамі — па аўтограф? Аўтографы ў прыцемках касцёла-залы, спантанныя дыялогі, абмен уражаннямі...**



**Новая беларуская музыка на кананічныя праваслаўныя тэксты — падзея. Для культуры ў цэлым. Для саміх аўтараў — таленавітых прадстаўнікоў таго, у нядаўнім часе маладога, пакалення, якому ўсяляк мкнуліся прышчапіць атэізм. Але ж мастак, музыкант, нясе ў сабе іскру Божую — што б там ні рабілася вакол.**

**Будзем гаварыць пра гэтую прэм'еру па-свецку, па-зямному, як пра дзве індывідуалізаваныя музычныя з'явы? Аналізаваць строгае, рацыянальна «вытрыманае ў традыцыі» харавое пісьмо С. Бельцюкова? Адзначаць неартадаксальную эмацыянальнасць гармоній, мадуляцый, сентыментальных храматызмаў і «арганных» акордаў у партытуры А. Залётнева? Параўноўваць, хто з аўтараў больш удала «датачаў» гучаннем ударных інструментаў не зусім завершаныя, паводле рытуальных канонаў, свае харавыя палотны? Высвятляць, ці было адэкватным увасабленне выканаўцамі кампазітарскіх намераў ды задум?**

**Многія пытанні суправаджаюць кожную выбітную падзею. Гэтую — асабліва, і не дзіўна. Калі так званая «харавая класіка» прыходзіла ў канцэртны рэпертуар з храмавых рытуалаў, дык тут кампазітарамі зроблена спроба «стварыць свой храм» адразу на сцэне. Калі мастак-іканапісец, перш чым узяць у рукі пэндзаль, мусіў рыхтаваць сябе да справы малітвай ды постам, дык тут акт стварэння «духоўнай музыкі» адбываўся на ўзроўні сумленнай прафесійнай дапытлівай працы з новым матэрыялам, над харамі на царкоўнаславянскія тэксты. Ці станецца зробленае атрыбутам рэлігійных культаў?..**

**Прадстаўнікоў царквы на прэм'еры не было: збег акалічнасцей ці дэманстрацыя пэўнай пазіцыі? Тым не менш, тэкст аднаго з літургічных хораў А. Залётнева ўжо перакладзены Г. дэ Пікардам на беларускую, музыка ўхвалена, ноты аддрукаваныя. Так што пытанні няхай застануцца пакуль рытарычнымі...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА**

*На здымку: С. БЕЛЬЦЮКОЎ, маэстра І. МАЦЮХОЎ ды А. ЗАЛЁТНЕЎ.*

# «ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ», N 4

**Змешчаны п'есы А.Махнача «Цешчыны «лекі» і А.Дыбчы «Бог дасць — і ў акно падасць». Ю.Беларуска («Вянец цярновы на чале») разважае аб нашым складаным і супярэчлівым часе і месцы культуры ў ім. А.Савіцкая («Сам-насам са спектаклем») дзеліцца ўражаннямі ад спектакляў па творах замежных аўтараў. Л.Гаробчанка («Агледзіны прэм'ер») расказвае пра абмеркаванне новых спектакляў, наладжанае ў Доме мастацтваў зімой сёлетняга года.**

**Друкуюцца таксама артыкулы і паведамленні Т.Гаробчанкі «Зінаіда Канапелька — наша беларуская Фядотава!», Т.Сабалеўскай «Бенефіс Паўла Кармуніна», І.Літвун «З валторнай праз жыццё». В.Грыбайла знаёміць з кнігай У.Глыбіннага «Беларускі тэатр і драма». У яго перакладзе з англійскай мовы змешчаны ўрыўкі «Тэатр у гады нямецкай акупацыі» і «Эміграцкі тэатр».**

**Г.Барышаў запрашае зрабіць падарожжа ў сівую даўніну — «Батлейка». Часопісам, як мы паведамлялі ўжо, падрыхтаваны першы нумар альманаха «Беларуская драматургія», зборнік «Паўлюк Багрым», якія выйшлі ў выдавецтве «Навука і тэхніка». Змешчаны прадмовы да гэтых кніг А.Сабалеўскага.**

Віншуем!

# МІХАСЮ ПАРАХНЕВІЧУ — 60

Міхась Парахневіч дэбютаваў у 1963 годзе, калі выйшаў яго зборнік для дзяцей «Мы майструем самалёт». Дарэчы, і ў далейшым Міхась Прохаравіч пісаў шмат для маленькіх, аб чым, у прыватнасці, сведчаць яго кніжкі «Толікаў гай» (1965), «Дзядзька Толя — трактарыст» (1968), «Чырвоны аўтобус» (1973)...

І ўсё ж, бадай, правільным будзе сказаць, што найбольшага поспеху М. Парахневіч дасягнуў у так званай «дарослай» прозе. Першая яго «дарослая» кніга «Грыбны дождж» (1969) засведчыла назіральнасць аўтара, яго ўменне выхопліваць з жыцця сюжэты, якія дазваляюць праўдзіва паказваць чалавечыя характары, раскрываць узаемаадносіны асобы з грамадствам і прыродай.

Наступныя кнігі «Зара-заранiца» (1975), «Абяцанне» (1976), «Прыгарадная каман-дзіроўка» (1979), «Марыніка» (1983), «Чаромхавы ранні цвет» (1984), «Белыя цені бяроз» (1989) і іншыя пацвердзілі, што аўтару найбольш удаюцца творы (апавяданні, аповесці), у якіх ён ідзе ад жыцця, адштурхоўваючыся ад перажытага, пабачанага. Прынамсі, падчас працы ў рэдакцыях газет часта сустракаючыся са сваімі будучымі героямі. Вяртаецца М. Парахневіч і ў сваё ваеннае маленства, аб чым сведчыць аповесць «Маленства тваё і маё», што дала назву аднайменнай кнізе (1978), і некаторыя апавяданні, адрасаваныя дзецям сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.

У наступным годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць кніга «Доля-долечка», якую склалі лепшыя творы пісьменніка. Дарэчы, у 1977 годзе ён выдаў зборнік гумарэсак «Модны гальштук», у 1972-м — кнігу паэзіі «Жыццё».



Віншуем Міхася Прохаравіча з юбілеем, жадаем яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!

***У «Літаратуры і мастацтве» за 10 чэрвеня г.г. была змешчана справаздача аб пасяджэнні «круглага стала», прысвечанага надзённай і надзвычай набалелай прабелеме барацьбы з п'янствам і алкагалізмам.***

***Натуральна, адна, хоць і змястоўная гаворка не магла вычарпаць усе аспекты такой складанай і шматаблічнай з'явы, як п'янства, з'явы, якая сёння набывае характар нацыянальнага бедства. Вось таму «ЛіМ» мае намер працягнуць на сваіх старонках гаворку на гэтую тэму і запрашае прыняць у ёй удзел сваіх чытачоў. Сёння мы змяшчаем цікавы, на нашу думку, артыкул члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук В. Павукова («Литературная газета» ад 15 чэрвеня г.г.), дзе праблема п'янства, алкагалізму разглядаецца з пункту гледжання вучонага-паталагаанатама.***

# ПСІХІЯТР ПРЫХОДЗІЦЬ ПОЗНА

## КАЛІ ПЕЧАНЬ УЖО НЕ ВЫРАТАВАЦЬ

Ужо шмат гадоў мой працоўны дзень пачынаецца ў секцыйнай зале морга, дзе на гранітным стале адзін за адным праходзяць памерлыя, якім, на жаль, занадта часта яшчэ б жыць ды жыць. Нават кароткае знаёмства з ускрытымі органамі паказвае, што велізарная колькасць гэтых заўчасных ахвяр не абыходзіцца без алкаголю, якім шчодра прыпраўлены многія «ўнутраныя» хваробы. Хворая печань, не здольная выконваць сваю галоўную функцыю дэзінтаксікацыі. Яе задушыў тлушч, што замінае працаваць кожнай «атлусцелай» і перароджанай клетцы. Зношанае, павялічанае сэрца з загінуўшымі мышачнымі валокнамі вакол сасудаў, жоўты тлушч на разрэзе замест тугой працаздольнай тканкі. Лёгкія са слядамі перанесеных пнеўманій, спайкамі між лістамі плеўры, што зліваюцца ў цёмныя ўчасткі хранічнага бранхіту. Ацёклы галаўны мозг, што ўклініўся разбуханнем у ствол спінна-мазгавой адтуліны і задушыў усе жыццёвыя функцыі арганізма... Усё гэта мішэні этанола, пранікальная здольнасць якога нашмат пераўзыходзіць усюдыіснасць кіслароду.

Чамусьці барацьба з алкагалізмам пайшла не па асноўнай магістралі, а, пэўна, па бакавым адгалінаванні. На наш погляд, гэта вынік таго, што яна стала задачай толькі адных псіхіятраў. А псіхіятраў хворы цікавіць толькі тады, калі ў яго паяўляецца псіхічная сімптаматыка. Гэта значыць, па сутнасці, псіхіятры, а разам з імі і ўсё грамадства займаецца запушчанай стадыяй хваробы.

Хворыя на алкагалізм пакутуюць і паміраюць не ад смагі да алкаголю, а ад тых змен у сэрцы, печані, лёгкіх, галаўным мозгу і іншых органах, што ўзнікаюць пры ўздзеянні на іх алкаголю. Усе яны спачатку становяцца пацыентамі тэрапеўтаў, бо ў іх развіваюцца цяжкія і паўторныя запаленні лёгкіх, узнікае цяжкая паталогія печані, паяўляюцца парушэнні рытму і болі ў сэрцы альбо неўралагічная сімптаматыка. Аднак ні сам хворы, ні ўрачы-тэрапеўты, неўрапатолагі, хірургі не звязваюць прычыну хваробы з хранічным атручаннем арганізма алкаголем. Так адзіны механізм развіцця хваробы падзяляецца паміж урачамі розных спецыяльнасцей, якія ідуць, па сутнасці, у розных накірунках, не дапамагаючы адзін аднаму.

Мы на кафедры паталагічнай анатоміі Маскоўскай медыцынскай акадэміі імя І. М. Сечанава разам з вучонымі Дзяржаўнага навуковага цэнтра наркалогіі рашылі прасачыць за развіццём хваробы з самага пачатку, паглядзець, якія змены і ў якіх органах выклікае алкаголь у першую чаргу. І наогул паспрабавалі падысці да праблемы алкагалізму з пазіцый агульнай медыцыны. У выніку шматгадовых даследаванняў стала відавочна, што алкагольная хвароба ў сваім развіцці праходзіць 3 стадыі: стадыю вострых паўторных алкагольных інтаксікацый; стадыю п'янства; стадыю алкагалізму і яго ўскладненняў. Было ўстаноўлена, што калі чалавек п'е некалькі разоў на працягу месяца, прытым не меней чым па 100—150 грамаў гарэлкі, дык у яго ў першую чаргу пачынаюць пашкоджвацца дробныя сасуды. Алкаголь, паступаючы ў страўнік, усмоктваецца ў кроў і па крываноснай сістэме распаўсюджваецца па ўсім арганізме. Этанол, асноўнае рэчыва алкаголю, разбурае мембраны клетак. Сасуды таксама складаюцца з клетак, і алкаголь пашкоджвае іх перш за ўсё. Але калі чалавек п'е рэдка, дык гэтыя пашкоджанні ліквідуюцца, а калі ён выпівае 4—5 разоў за месяц, дык мікрасасуды не паспяваюць узнавіцца, у сасудах змены робяцца хранічнымі, і гэта аблегчвае доступ алкаголю да клетак органаў і тканак. У іх пад разбуральнае ўздзеянне этанола трапляюць перш за ўсё мітахондрыі — найдрабнейшыя энергетычныя падстанцыі клеткі. Мітахондрыі складаюцца з мембран, а менавіта іх і разбурае этанол.

Калі чалавек не перастае піць, то паступова павялічваецца доза выпітага і частата ўжывання алкаголю. Больш за ўсё дастаецца печані, якая павінна перапрацаваць увесь паступіўшы ў арганізм этанол да вады і вуглекіслаты. Але чым больш інтэнсіўна працуюць клеткі, тым больш інтэнсіўна яны разбураюцца. У клетках печані паяўляецца тлушч, які замінае разбурэнню этанола. Пашкоджваюцца клеткі міякарда, парушаецца механізм насычэння крыві кіслародам у лёгкіх. Відочныя змены адбываюцца ў сасудах галаўнога мозгу. У самім мозгу паступова гінуць нервовыя клеткі, пачынае слабець памяць, паціху зніжаецца эмацыянальнасць, пакрысе мяняецца рэакцыя на навакольнае. Паступова змены ў органах робяцца досыць цяжкімі. Выяўлена, што прычынай каля 80 працэнтаў раптоўнай смерці ў адносна маладых людзей з'яўляецца алкагольная кардыяміяпатыя, гэта значыць хвароба сэрца, звязаная з працяглым ужываннем алкаголю.

За многія гады мы пераканаліся, што ў стадыі п'янства хоць і развіваюцца цяжкія змены ў органах хворага, але яны яшчэ зваротныя. У адрозненне ад гэтага ў стадыі алкагалізму распад унутраных органаў у хворага робіцца незваротным. Змены ў печані пераходзяць у алкагольны цыроз, у сэрцы прагрэсуе цяжкая алкагольная кардыяміяпатыя, у лёгкіх паяўляецца масіўная пнеўманія, якая ўскладняецца нагнаеннем. Досыць часта развіваецца кровазліццё ў мозг. Пры гэтым хворы трапляе ў замкнёнае кола. Ягоная печань не можа перапрацаваць увесь этанол, у крыві паяўляецца так званы ацэтальдэгід — яд мацнейшы, чым этанол. Вось з ім і звязана неадольная цяга да алкаголю. Але чым больш п'е хворы, тым больш пакутуе ягоная печань, тым больш у крыві ацэтальдэгіду — і тым больш хвораму трэба алкаголю. Акрамя таго, ацэтальдэгід рэзка ўзмацняе пашкоджанні ўнутраных органаў, і яны робяцца незваротнымі, нават калі чалавек перастаў піць. Як вядома, загінуўшыя нервовыя клеткі галаўнога мозгу і скарачальныя клеткі сэрца не аднаўляюцца. Пачаты цыроз печані не спыніць. Цяжкія склератычныя змены сасудзістага рэчышча не падвяргаюцца зваротнаму развіццю. Гэта, вядома, не азначае, што на хворых у стадыі алкагалізму трэба махнуць рукой. Але, як гэта ні сумна, разлічваць на тое, што іх можна цалкам вылечыць, не даводзіцца.

Дык вось, калі на больш ранняй стадыі ўрач-тэрапеўт растлумачыць пацыенту, што частыя абвастрэнні ягоных хвароб звязаны з празмерным і працяглым ужываннем алкаголю, большасць гэтых хворых, відавочна, здольныя прыняць правільнае рашэнне. І тут ім можа дапамагчы псіхіятр, вядома, са згоды хворага, бо псіхіятры назапасілі каласальны вопыт у зносінах з тымі, хто злоўжывае алкаголем. І што вельмі важна, п'яніца ў адрозненне ад алкаголіка не павінен цалкам перастаць піць, але яму трэба разам з урачом вызначыць тую невялікую дозу спіртнога, якая не акажа істотнага ўплыву на яго не зусім здаровы арганізм. Напрыклад, чалавек ведае, што ў наступным месяцы ён будзе прысутнічаць на вяселлі альбо на дні нараджэння. Яму можна выпіць 3—4 чаркі гарэлкі, і ён не будзе вылучацца сярод іншых гасцей, нікому нічога не давядзецца тлумачыць. Але для гэтага алкаголь павінен быць выключаны да свята і на працягу 1—2 тыдняў пасля яго. Гэта зусім не тое, што вымагаецца ад алкаголіка — цалкам выключыць спіртное з жыцця.

Але для такога падыходу тэрапеўты павінны выяўляць сярод сваіх хворых людзей, якія хранічна ўжываюць алкаголь, і праводзіць зусім асаблівае лячэнне іх хвароб печані, сэрца, лёгкіх, нырак і іншых органаў. Такія метады ёсць. Гэта досыць простыя аналізы мачы і крыві, прапанаваныя Дзяржаўным наркалагічным цэнтрам, дырэктар якога А. Г. Урублеўскі намагаецца, пакуль беспаспяхова, даказаць Міністэрству аховы здароўя РФ неабходнасць фінансавання гэтай работы. Метады выяўлення людзей, якія працяглы час ужываюць алкаголь, але не з'яўляюцца алкаголікамі, апрабаваны на кафедры тэрапіі Маскоўскай медыцынскай акадэміі імя І. М. Сечанава, якая ўзначальваецца прафесарам В. Г. Ананчанкам. Вопыт яго супрацоўнікаў паказвае, што з дапамогаю гэтых аналізаў выяўляецца сярод хворых лёгачнымі захворваннямі амаль у тры разы больш людзей, чыя хвароба звязана з хранічным ужываннем алкаголю, чым гэта ўдаецца з дапамогаю метадаў анкетавання. Пры гэтым пераважная большасць з іх не звязвалі сваё захворванне са спіртным. У гэтай клініцы, а таксама ў клініках, якія ўзначальваюцца прафесарамі В. С. Маісеевым і І. М. Каханоўскім, распрацаваны спецыяльныя метады лячэння хворых захворваннямі сардэчна-сасудзістай, дыхальнай і страўнікавай сістэм, у аснове якіх ляжыць п'янства.

Такім шляхам можна хоць бы прыкладна вызначыць, колькі людзей у Маскве, ды і ў Расіі пакутуе ад п'янства. Цяпер, само сабою, гэтага не ведае ніхто, ды і не задумваецца над гэтым. А між тым, калі ўдасца вылечыць хоць бы палову п'яніц, дык будзе ў два разы менш алкаголікаў, спатрэбіцца ў два разы менш затрат на наркалагічную службу.

**Вечаслаў ПАВУКОЎ,**

**загадчык кафедры паталагічнай анатоміі Маскоўскай медыцынскай акадэміі імя Сечанава, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук**

# БЕЛАРУСКАЯ АМЕРЫКА

***У час вандроўкі па Амерыцы падрыхтаваў кнігу гутарак і інтэрв'ю — «Беларуская Амерыка». Яе героі — нашы суродзічы: грамадскія дзеячы, пісьменнікі, кампазітары і спевакі, сведкі і ўдзельнікі шматлікіх падзей у лёсе нашай Бацькаўшчыны.***

***Прапаную чытачам «ЛіМа» фрагменты будучай кнігі.***

**Аўтар.**

## «Я ЗАЎСЁДЫ ЛЮБІЛА БЕЛАРУСЬ...»

*ІНТЭРВ'Ю З НАТАЛЛЯЙ АРСЕНЬЕВАЙ*

Перад тым як наведаць Наталлю Арсеньеву, мне вельмі хацелася завітаць у кліўлендскі «Полацак». І я паехаў самым доўгім шляхам — праз Нью-Джэрсі, Пенсільванію, Агаё... Калі да Рачэстэра, дзе жыве паэтка, заставалася некалькі гадзін язды, паваліў страшэнны снег, разгулялася першая зімовая завіруха. Нічога не заставалася, як перачакаць нягоду ва ўтульнай хаце Кастуся Калошы і Сяргея Карніловіча. За акном ляжала непаглядная снежная бель, зусім такая, як і ў Пранчаках. Ад гэтага падабенства шчымела сэрца. Было светла і сумна.

З такім настроем я патэлефанаваў у Рачэстэр, каб папярэдзіць спадарыню Наталлю, што наша сустрэча адкладваецца...

Трубку зняла сама гаспадыня, уважліва выслухала мяне.

— Шкада, што не прыедзеце, хацела ўбачыцца з вамі і адказаць на вашы пытанні. Але ж завіруха не можа перашкодзіць нашай размове.

— Як вы пачуваецеся, спадарыня Арсеньева?

— Добра. У апошні час у мяне бывае шмат гасцей. І з Беларусі, і тутэйшых беларусаў. Вяду вялікае ліставанне, крыху пішу...

— Сёння раніцай я быў у царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. Служба закончылася спяваннем вашай малітвы.

— У нас заўсёды так. Кожная служба на эміграцыі так заканчваецца і ў праваслаўных, і ў каталікоў.

— На Беларусі яе называюць «Магутны Божа».

— Так? Сапраўдная назва гэтага верша — «Малітва». Пад такім тытулам ён надрукаваны і ў маім зборніку.

— Вы яго напісалі ў эміграцыі?

— Не, у Менску ў 1943 годзе. Калі стварылася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, да мяне звярнуўся архіепіскап Філафей з просьбай напісаць верш, які б мог стаць беларускай малітвай. Я напісала верш, які пачынаўся словамі: «Магутны Божа, уладар Сусветаў...» Але Сінод не зацвердзіў яго ў якасці малітвы.

— Чаму?

— Сказалі, што верш замала рэлігійны і зашмат палітычны, занадта беларускі. У кіраўніцтве Беларускай аўтакефальнай царквы тады было толькі некалькі беларусаў. Астатнія — расейцы. Ім малітва і не спадабалася.

— Цікава, а калі Мікола Равенскі паклаў яе на музыку?

— Тады ж.

— Цяпер на Беларусі гэты твор разглядаюць як адзін з варыянтаў дзяржаўнага гімна. Вы ведаеце пра гэта?

— Я чула. Але не ведаю, што там вырашылі. Да мяне даходзілі чуткі, што пры абмеркаванні «Малітвы» некаторыя дзеячы закідаюць, што яна надта рэлігійная і мала палітычная. Усё наадварот, як у 43-ім годзе.

— Спадарыня Наталля, акрамя «Малітвы», шмат вашых вершаў сталі песнямі...

— Так. Я шмат працавала калісьці ў гэтым напрамку. Любіла пісаць рамансы, лібрэта, нават тэксты на гатовую музыку. Найболей песняў на мае словы стварылі Мікола Равенскі, Мікола Куліковіч, Эльза Зубковіч. Беларуская мова вельмі песенная, музычная, напеўная.

— Цяпер на Беларусі вядуцца дыскусіі наконт норм правапісу. Якім карыстаецеся вы?

— Старым. Тым, якому навучылася яшчэ ў Віленскай гімназіі. Я за тое, каб мяккі знак у беларускай мове застаўся. Гэта недапушчальна, калі ў адной мове паралельна існуюць дзве школы правапісу. Павінна застацца адна. Тая, якая найбольш поўна і дакладна перадае беларускасць нашай мовы.

— Спадарыня Арсеньева, растлумачце мне сваю таямніцу: як вам, рускай па нацыянальнасці, удалося так глыбока пранікнуць у беларускую душу, беларускае слова?

— Я ніколі не думала над гэтым. Але я заўсёды любіла Беларусь, яе людзей, яе мову і песню. З асалодай і захапленнем некалі слухала беларускую мову на вёсцы. Асабліва мову старых людзей. Ад іх я вучылася жывой мове.

— А на эміграцыі дзе вы слухалі жывую мову?

— Толькі ва ўспамінах.

— Ці ўзнікала калі-небудзь думка пачаць пісаць па-ангельску?

— Ніколі. Не было такой духовай патрэбы.

— Думаць па-беларуску ў чужым асяроддзі, напэўна, нялёгка?

— А ў мяне не было чужога асяроддзя. Я жыла сярод беларусаў. Беларускае асяроддзе заўсёды было ў нашай сям'і.

— Амерыканцы не перакладалі вас?

— Здаецца, не. Хіба што я не ведаю.

— Затое апошнія два-тры гады вы шмат друкуецеся на Бацькаўшчыне. Гэта прыемна?

— Гэта добра. Але гэта не я друкуюся, а мяне друкуюць.

— Што б вам хацелася, каб там выйшла ў першую чаргу?

— Усё, што варта ўвагі чытача. У Менску выйшла анталогія «Сум па Радзіме». Там шмат маіх вершаў, узятых з ранейшых выданняў. Гэта, можа, пакуль што найбольш поўная мая публікацыя. Але ў той анталогіі вельмі дзіўны падбор вершаў і аўтараў...

— Спадарыня Наталля, каго, на вашу думку, з эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў пакуль зусім не ведаюць на Беларусі?

— Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. На маю думку, лепшы паэт беларускага замежжа — Алесь Салавей. Вельмі шкада, што ён ужо навечна адышоў ад нас. Больш тонкага лірыка, чым Алесь Салавей, у беларускай паэзіі няма. Хіба што Максім Багдановіч. Некалі я была ў захапленні ад творчасці маладога паэта Лявона Случчаніна. Ён прыехаў у 1944 годзе на эміграцыю і недзе прапаў...

— Ён жыве ў Беларусі, у Салігорскім раёне, здаецца...

— Што вы кажаце? Дык ён жывы!

— Так!

— Вельмі прыемна. Я шкадавала, што ён згубіўся, і думала, што ён загінуў. Перадайце яму прывітанне і мае самыя найлепшыя пажаданні.

— Спадарыня Наталля, ці былі часы, калі вы не пісалі зусім?

— Я пісала заўсёды.

— Вам, як паэтцы, патрэбен чытач?

— Так, і ён у мяне быў. У першую чаргу беларуская палітычная эміграцыя. Я духова падтрымлівала яе на чужыне.

— А масавы чытач, калі так можна казаць, — на бацькаўшчыне?

— У 50—80 гадах гэта было немагчыма і я да гэтага не імкнулася. Я проста пісала.

— Паэзія была для вас заробкам?

— Ніколі! За свае вершы ў Амерыцы я не атрымала ні цэнта. Калі выходзіў мой зборнік «Між берагамі», я сама дала на яго выданне тысячу даляраў.

— У Беларусі вашы вершы вельмі папулярныя. Іх чытаюць, імі захапляюцца. Вы чакалі, што калісьці так будзе?

— Ведаеце, я ніколі не цаніла таго, што пісала, не прыдавала сваёй паэзіі ніякага значэння, пакуль не выйшла кніга «Між берагамі». Я перачытала свае вершы і мне ўпершыню здалося, што яны нешта варты.

— Ці ўдаецца чытаць што-небудзь з сучаснай беларускай паэзіі?

— Цяпер чытаю шмат. Прысылаюць па пошце, перадаюць праз знаёмых. Чытаю з задавальненнем.

— 50 гадоў, як вы пакінулі Беларусь. Сумуеце?

— Сумую. Але не так, як раней. Я ніколі не спадзявалася, што расстанне будзе цягнуцца так доўга...

— Ніколі не збіраліся ў Менск?

— Не думаю, што ў маім веку мне ўдасца трапіць на Беларусь. Але паглядзім, што там будзе далей...

— Спадарыня Наталля, мне прыемна было пагутарыць з вамі. Шкадую, што не вочы ў вочы...

— У нас атрымалася вуха ў вуха. Тым не менш, мне таксама спадабалася наша размова. Усяго вам добрага. Будзеце ў Менску, — перадавайце прывітанне ўсім, хто варты, каб ім перадаць прывітанне.

Леанід ПРАНЧАК

## «НЕ ХАЧУ ЗАЙМАЦЦА ПАЛІТЫКАЙ...»

*УСПАМІНЫ ГАННЫ СТУКАЛІЧ ПРА ЮРКУ ВІЦЬБІЧА*

Спадарыня Ганна Стукаліч — удава вядомага ў Амерыцы беларускага пісьменніка Юркі Віцьбіча — здымае кватэру ў прыгожым двухпавярховым дамку ў Саўт-Рыверы. Ва ўтульных пакоях усё так, як было пры Віцьбічы. Хіба што зніклі кнігі: багатую бібліятэку пісьменніка яна перадала ў беларуска-амерыканскі цэнтр, пакінула толькі кнігі мужа і сямейны архіў.

Разам са Спадарыняй Ганнай гартаем пажоўклы ад часу альбом, і яна распавядае...

— Нарадзіўся Віцьбіч 2 ліпеня 1905 года ў Вяліжы, гэта 80 вёрст ад Віцебска. Бацька яго быў святаром, маці — настаўніцай. За бальшавікамі бацька сядзеў у турме. За што — дакладна не ведаю. Пэўна, за сваё святарства. Віцьбіч закончыў сярэднюю школу. Хацеў паступаць у інстытут, але туды яго не дапусцілі як сына святара. У іх сям'і акрамя яго расло яшчэ двое малодшых сыноў. Сярэдні, калі падрос, адрокся аб бацькі, каб мець магчымасць вучыцца далей. Віцьбіч вельмі перажываў з-за гэтага. Не мог зразумець, чаму той так зрабіў. Малодшы брат загінуў на фронце. Аб гэтым мы даведаліся ўжо ў Амерыцы. Іх маці займалася толькі сямейнымі справамі, хоць і мела настаўніцкую асвету. Было не прынята, каб матушка працавала. Неяк Віцьбіч ці то жартам, ці напраўду казаў, што за савецкім часам ёй напісалі ў нейкім дакуменце, што яе прафесія — пападдзя... Віцьбіч закончыў педтэхнікум, год служыў у Чырвонай Арміі. Потым падаўся ў Маскву. Працаваў там на будоўлі, на хімічным заводзе, дзе нават атруціўся. Тады ж ён напісаў свае першыя апавяданні. З Масквы ён вярнуўся ў Віцебск. Шмат пісаў, часта ездзіў у Мінск у рэдакцыі газет. З першай жонкай ён разышоўся. Яна была вельмі раўнівая. Нейкі час ён жыў у маёй сваячкі, дзе мы з ім і пазнаёміліся. Я навучыла яго гатаваць тушаную бульбу. Мы пачалі сустракацца. Я працавала сувязісткай на гарадскім тэлеграфе, звычайна ў другую змену. Дык ён спатыкаў мяне з працы вечарам. Неўзабаве мы пажаніліся... Ён пісаў не толькі мастацкую прозу, але і публіцыстычныя артыкулы, краязнаўчыя нарысы. Яго навуковым кансультантам стаў мой бацька — Іван Кандратавіч Кандрацьеў. Ён загадваў гарадскім архівам, у яго руках былі ўсе гістарычныя дакументы, і Віцьбіч з захапленнем вывучаў іх. Ён шмат ездзіў па Беларусі, браў удзел у навуковых экспедыцыях. Запісваў успаміны, сведчанні ўдзельнікаў гістарычных падзей. Ён і мяне заахвоціў да беларускасці, я пачала вывучаць беларускую мову. Гэта было патрэбна для маёй працы, бо часта з Менска прыходзілі цыркуляры па-беларуску і мы павінны былі перадаваць іх на раёны. Рабілі шмат памылак. Нас прымушалі вучыць мову. Праводзілі заняткі, выдалі кнігі... Я кансультавалася ў Віцьбіча.

Калі пачалася вайна, мы засталіся ў Віцебску. Ён пайшоў працаваць у газету. Да вайны там выходзіў «Віцебскі рабочы», а ў вайну нейкая газета па-расейску. Як называлася, не памятаю. Жылося нам цяжка. Яму, як супрацоўніку газеты, давалі абед у рэдакцыі, а я, каб пракарміцца, прадавала рэчы. Ён не любіў абедаць у рэдакцыйнай сталоўцы, і я хадзіла і забірала яго пайку. Жылі мы на Трэцяй Гутараўскай вуліцы. Аднойчы наш дом нехта падпаліў. Было гэта ўночы, і каб не немцы, якія разбудзілі нас, мы згарэлі б у агні. За горадам мы пасеялі агарод. Аднойчы летам, калі ён нешта там рабіў, у яго стралялі, але не пацэлілі. Шмат каму не падабалася, што Віцьбіч у сваіх артыкулах выступаў супраць бальшавікоў. У час акупацыі ён ездзіў у Нямеччыну і пісаў адтуль рэпартажы ў сваю газету. У 1943 годзе мы пераехалі ў Менск, Віцьбіч удзельнічаў у працы Беларускай Цэнтральнай рады...

— Спадарыня Ганна, для Віцьбіча немцы былі акупантамі?

— Вядома ж! Але мы апынуліся між двух агнёў. Трэба ж было неяк жыць. Мы жылі ў доме аднаго беларускага паэта, які быў на савецкім фронце. Яго жонка дала нам пакой. Калі падышла Чырвоная Армія, мы разам з БЦР выехалі ў Нямеччыну.

— Ці ўдалося забраць рукапісы, архіў?

— Не, амаль нічога не забралі. У Нямеччыне Віцьбіч пісаў мала. Прыйшлося працаваць фізічна, каб зарабіць на кавалак хлеба. Былі ў лагерах для перамешчаных асоб. Спачатку ў Рэгенсбургу, пасля — у Бакнангу. Віцьбіч выдаваў там часопісы «Шыпшына», «Звіняць званы святой Сафіі». З Нямеччыны мы прыехалі ў Амерыку. Я пайшла працаваць на швейную фабрыку, ён таксама знайшоў працу. Пісьменніцтва на эміграцыі нічога матэрыяльнага не прыносіла, адны выдаткі — і на паперу, і на друкаванне. Да таго ж ён дужа выпіваў, і я старалася хоць як-небудзь асцерагаць яго ад гарэлкі... Увесь свой вольны ад працы час ён аддаваў творчасці. Не мог, каб не пісаць. Супрацоўнічаў з радыё «Свабода», у яго там былі нейкія канфлікты з начальствам. Пачаў пісаць па-расейску і шмат друкаваўся ў «Новом Русском слове» — штодзённай рускамоўнай газеце, што выходзіла ў Нью-Йорку. Многія беларусы яго крытыкавалі за гэта. Але ў яго гэта была ці не адзіная магчымасць друкаваць свае творы. Публікацыі з «Нового русского слова» ўвайшлі ў яго кнігу «Мы дойдзём!», якую выдаў у Нью-Йорку фонд імя П. Крэчаўскага ў 1975 годзе, ужо пасля яго смерці, літаральна праз некалькі месяцаў.

— Кніга «Мы дойдзём» падпісана прозвішчам Стукаліч. Гэта яго псеўданім?

— Не, яго псеўданім Віцьбіч, а сапраўднае прозвішча — Шчарбакоў. Калі мы прыехалі на эміграцыю, то прозвішча змянілі і сталі Стукаліч. Бо на Беларусі і ў яго і ў мяне заставаліся родныя і мы не хацелі, каб праз нас яны мелі непрыемнасці. Дарэчы, сапраўднае імя, якое яму далі пры хрышчэнні — Серафім, а не Юрка, як яго сталі называць пазней па псеўданіме.

— А як вы яго называлі?

— Сіма.

— У вашай хаце і па сёння яго фотаздымкі, краявіды Віцебска...

— Над маім сталом дарэвалюцыйны здымак Віцебска. На ім Успенскі Сабор, гарадская ратуша. Гэтыя здымкі прывезла сюды яго мама і ён вельмі даражыў імі. Яго мама Еўдакія Іванаўна пражыла без пяці месяцаў 95 гадоў і мела добрую памяць.

— Вы, мабыць, ведаеце, што ў Беларусі пачынаюць друкавацца творы Юркі Віцьбіча, створаныя ім на эміграцыі?

— Так, я атрымала некалькі лістоў з Беларусі з просьбай дазволіць друкаваць там творы Юркі Віцьбіча. Мне прыемна, што ён вяртаецца на сваю бацькаўшчыну, якую любіў больш за ўсё на свеце. Ён ніколі не здраджваў Беларусі. Ён здрадзіў толькі камуністам. Я мару, каб у Менску выдалі ўсё, што выйшла з-пад яго пяра.

— А ён марыў пра гэта некалі?

— Не. Ён ведаў, як да яго адносяцца на Беларусі. Усе яго публікацыі там чыталі і вялі з ім палеміку. А ён адказваў праз радыё «Свабода» альбо праз «Новое русское слово». Хоць неаднойчы казаў мне: я не хачу займацца палітыкай, я хачу быць літаратарам.

— Спадарыня Ганна, ці жыве ў Амерыцы яшчэ хто-небудзь з родных Юркі Віцьбіча?

— Нікога няма. Адна я засталася. Пакуль даю сабе рады. А я ж з 1900 года, равесніца веку. Жыву ў страху ад свайго веку і ўзросту. Усіх сваіх родных я страціла ў вайну. Тры браты загінулі на фронце...

— Ці прывыклі вы да Амерыкі?

— Прывыкла. Тут спакойна. Але каб была маладзейшай, то паехала б на радзіму. Вельмі хачу ўбачыць Віцебск... Я заплюшчу вочы і бачу ўсе яго вуліцы, кожны дом...

— Сумна вам адной на свеце?

— Сумна. Ды што зробіш: дадзена жыццё — трэба жыць...

*(Працяг на стар. 14-15)*

# БЕЛАРУСКАЯ АМЕРЫКА

## МАСТАК, ШТО РОДАМ З АЗЕРБАЙДЖАНА



**Каміль Камаз скончыў бакінскае мастацкае вучылішча. Потым быў вучнем такіх розных па мастацкіх падыходах і творчых манерах, але надзвычай прафесійных майстроў — Яўсея Маісеенкі (інстытут Рэпіна) і Гаўрылы Вашчанкі (Беларуская акадэмія мастацтваў). Цяпер ён сябра Саюза мастакоў Беларусі. Каміль досыць стала прыжыўся на нашай зямлі, знайшоўшы і мажлівасць працаваць і выказвацца як мастаку-каларысту. Нядаўна яго персанальная выстава адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Колеравыя пошукі мастака разам з паўднёвымі фантазіямі і міфалогіяй зусім не адмежавалі яго ад беларускага жывапісу.**

*На здымку: Каміль Камаз. З трыпціха «Авеста».*

**Фота А. МАЦЮША**

## АРТ-ЭКСПЕРЫМЕНТЫ ВІЦЕБСКА



**Здаецца, ці не нейкая аўра творчасці ахінае Віцебск, дзе эксперыментаванне ў мастацтве становіцца ўжо звыклым. Ад неафіцыйных маленькіх экспазіцый прыйшла чарга да мастацкіх акцый. Распачаў гэту справу Васіль Васільеў «Праектам-Z» — яго выставы адначасова экспанаваліся ў пяці віцебскіх залах. Цяпер у Палацы культуры адбылася наступная акцыя «Выстава мастацтва актуальнай пазіцыі. Information-94» пры фінансавай падтрымцы беларуска-германскага СП «Белвест». Мастакі здолелі нават аддрукаваць невялічкі каталог.**

**Мікола Прусакоў, Галіна і Васіль Васільевы, Андрэй Вярэніч, а таксама запрошаныя з Мінска ганаровыя ўдзельнікі Ігар Кашкурэвіч з жонкай Людмілай Русавай стварылі кожны сваю версію канцэптуальнага мастацтва. І што важна — пошукі віцебскіх авангардыстаў не згубіліся на фоне твораў мінчан. Цікавымі падаліся эксперыменты з плямай і лініяй Міколы Прусакова, строй работ Галіны Васільевай, якая ідзе ад гармоніі беларускіх пасцілак. Праўда, спроба згарманізаваць прастору Андрэю Вярэнічу не вельмі ўдалася ў загрувашчанай мэбляй зале, а кампазіцыя Васіля Васільева патрабавала не заціснутасці паміж іншымі работамі, а вялізнай свабоднай плошчы.**

**Але ж ці не так распачынаецца новы кірунак творчасці альбо арыгінальная манера, чым ужо неаднаразова адорвала свет наша зямля?**

*На здымку: творы Міколы Прусакова*

## У «ЗРОКУ», N 7,

**апублікаваны яшчэ адзін верш М. Ермаловіча і працяг яго гутарак, што друкуюцца пад рубрыкай «Аб усім, што баліць». Змешчаны таксама вершы У. Марука, творы У. Мазго для дзетак у падборцы «Ліхтарык», нарыс А. Марціновіча «Журавы на Радзіму ляцяць» пра С. Манюшку (рубрыка «Славутыя прашчуры»), апавяданне інваліда па зроку В. Мілічэнкі «Забытая магіла» (яго прадстаўляе В. Стрыжак), гумарэска М. Корча «Выпадак ля латка», артыкул Ф. Крываноса «Полацкі храм святой Сафіі Прамудрасці Божай», успаміны У. Бараноўскага «Эх, дарогі...», чарговыя раздзелы кнігі У. Шнарэвіча «Бойня доктара Аскара»...**

## «САМАВУК, ЯКІ МАРЫЎ СТАЦЬ КАМПАЗІТАРАМ І ПАЭТАМ»...

### *ЗГАДКІ ПЁТРЫ НЯДЗВЕЦКАГА*

Пётра Нядзвецкі — беларускі паэт і кампазітар, вядомы ў беларускім замежжы пад псеўданімам Пётры Звоннага. У 1989 годзе я даслаў яму пытанні завочнага інтэрв'ю, а на XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі мы пазнаёміліся асабіста.

— Спадар Нядзвецкі, у сваім лісце да мяне вы пісалі пра свой творчы лёс. А як склалася ваша асабістае жыццё?

— Усё маё жыццё звязана з музыкай. З маленства я жыў ёю. Граў на скрыпцы, запісваў ноты... Юнаком уступіў у польскую арганізацыю, якая па-беларуску называлася «Срадкі», за што пасля праследаваўся саветамі. Калі нас заняла Чырвоная Армія ў 1939 годзе, мяне паклікалі ў НКВД. Далі гарбаты. Размаўлялі ветліва і спакойна. І раптам іх начальнік ні з таго ні з сяго пытае: «А чаму вы былі ў «стжэльцах»? — «Бо там задарма давалі шапку і боты...» Ён на мяне паглядзеў неяк дзіўна, але нічога не сказаў. Мяне не пасадзілі, але напалохалі добра. І я стаў хавацца. Працаваў у лясніцтве, у доме сацыялістычнай культуры... Перад самай вайной мяне паслалі на будаўніцтва аэрадрома. Там на нас наляцелі нямецкія самалёты і пачалі бамбіць... Ледзь ураталіся... Я вярнуўся дамоў. Трэба было з нечага жыць. Я сабраў невялікі аркестр: цымбалы, гармонік, скрыпку. Мы ігралі забавы, вяселлі, спявалі савецкія, беларускія, нямецкія песні. Хоць была вайна, жыццё не спынялася. Але нядоўга мы павесяліліся. Мяне паклікалі ў Вялейку ў лясную паліцыю. Далі абмундзіраванне, карабін. Адным словам, паставілі пад ружжо. А я гэтага так не хацеў! Стаў думаць, як мне адмазацца. Спаткаў у горадзе знаёмага настаўніка музыкі — спадара Чартарыцкага. У яго былі нейкія сувязі. Я да яго: «Ратуй! Я не хачу страляць у партызанаў!» Чартарыцкі добра мяне ведаў. Ён пайшоў да гебітскамісара і дастаў паперу, што мяне накіроўваюць на працу ў семінарыю настаўнікам музыкі. Так я ўратаваўся ад паліцыі. У семінарыі я вёў струнны аркестр. Адтуль я пайшоў на працу ў Беларускую самапомач. Тады я шмат працаваў як кампазітар, напісаў некалькі песень.

— А хто іх выконваў?

— Сам. Іграў і спяваў. Калі пачалася мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону, я напісаў для беларускіх жаўнераў марш «Ідуць жаўнеры-беларусы». Песню гэтую па сёння спяваюць на эміграцыі. З-за яе мяне часта называюць кампазітарам. Падчас II Усебеларускага кангрэса ў 1944 годзе беларускія вайскоўцы хадзілі па Менску і распявалі мой марш. А людзі глядзелі на нас вельмі непрыязна, бо яны думалі, што мы падтрымліваем немцаў. Так, мы былі з немцамі, але не за немцаў. Калі б немцы выйгралі вайну, — яны зрабілі б з нас нявольнікаў. Цяпер я гэта разумею, а тады была надзея, што яны дапамогуць нам стварыць вольную беларускую дзяржаву. Летам 1944 года я выехаў у Нямеччыну, працаваў на фабрыцы, вывучаў слясарную справу... Пасля апынуўся ў польскім лагеры для перамешчаных асоб. Іграў там у аркестры, пісаў для іх песні... А калі пачуў, што ў Ватэнштаце сабраліся беларусы, кінуў і палякаў і аркестр і падаўся да сваіх.

У беларускім лагеры я заняўся падрыхтоўкай і выпускам жывой газеткі. У нязмушанай форме распавядаў са сцэны пра лагерныя навіны. Пісаў вершы, спецыяльна для канкрэтнага выступу. Пісаў таксама гумарэскі, рэпартажы. У Нямеччыне, у Макбурзе, паступіў ва ўніверсітэт. Але была такая галадоўля, што думаць пра вучобу не выпадала. І я пакінуў універсітэт. Стаў працаваць у Беларускім тэатры эстрады «Жыве Беларусь!», які заснаваў Мікола Куліковіч. Мы ездзілі па ўсёй Нямеччыне, выступалі ў беларускіх лагерах. Я граў на гармоніку. Куліковіч пісаў для мяне п'есы. Цікавы быў час... Неўзабаве я ажаніўся на немцы і мы пераехалі з ёй жыць у Амерыку. На жыццё я зарабляў, працуючы на хімічнай фабрыцы лабарантам. А для душы ў мяне заўсёды была музыка. Я сябраваў з паэтамі Масеем Сяднёвым, Янкам Золакам, Міхасём Кавылём, Наталляй Арсенневай... Яны пісалі вершы для маіх песень. У Амерыцы нейкі час я меў свой аркестр «Эстрада». У нашым рэпертуары было шмат польскіх танга. Я папрасіў Наталлю Арсенневу, каб яна пераклала іх па-беларуску. Спадарыня Арсеннева зрабіла гэта выдатна, і мы з задавальненнем выконвалі вядомыя песні на роднай мове. Цікавая гісторыя выйшла з танга «Сумна». Я мушу расказаць яе. У «Эстрадзе» я часта выконваў гэтую песню. На адным з канцэртаў да мяне падышоў знаёмы ўкраінец і папрасіў, каб я перапісаў яму словы. Што я ахвотна зрабіў. Калі ў 1960 годзе выйшаў з друку «Беларускі песенны зборнік» Міколы Куліковіча, я вельмі здзівіўся, пабачыўшы там зусім падобную песню. Як мне падаецца, атрымалася так. Мой знаёмы пераклаў песню на ўкраінскую мову. А Наталля Арсеннева па просьбе Куліковіча і не ведаючы, што ёсць беларускі тэкст, з украінскай пераклала на беларускую. Я толькі падзівіўся, як добра быў зроблены пераклад. На сённяшні дзень існуюць тры песні, напісаныя рознымі кампазітарамі на адзін і той верш. У Саўт-Рыверы я іграў таксама ў аркестрах Жыдовіча, Бычкоўскага...

— А чаму музыка не стала вашым бізнесам?

— Для гэтага трэба мець вялікі талент альбо іграць у вядомым сімфанічным аркестры.

— У Амерыцы вы пісалі песні?

— Так. Дома я маю арган. На ім я складаю музыку. А вось скрыпку закінуў. Часцей за ўсё бяру ў рукі акардэон...

— З ім вы выступаеце на беларускіх імпрэзах?

— Правільна! Выступаю я і ў Саўт-Рыверы, і ў Нью-Брансвіку.

— Якую са сваіх песень вы лічыце лепшай?

— Тую, якую спяваюць: «Ідуць жаўнеры-беларусы».

— Ці паўплывала эміграцыя на вашу творчасць?

— Безумоўна. Каб я жыў дома, я зрабіў бы болей і, магчыма, лепш. У мяне няма творчага асяроддзя. Для кампазітара яно вельмі неабходна. Я шкадую, што жыццё так паламала мяне. Але мая душа спакойная і сумленне чыстае. Я нікога не скрыўдзіў. І ворагам свайму народу не быў. Гэта наша трагедыя, што вайна падзяліла нас, беларусаў, на два лагеры. Адзін мой сябра ў вайну быў у паліцыі і ваяваў з партызанамі, сярод якіх былі яго ж вяскоўцы і сваякі. Ён ездзіў на бацькаўшчыну і ў роднай вёсцы спаткаўся з імі. Яны выпілі чарку, абдымаліся і плакалі. Ва ўсім вінавата вайна... Я хацеў бы напісаць пра гэта песню...

— Спадзяюся, што калісьці я пачую па Беларускім радыё аб'яву: «Гучаць песні кампазітара Пётры Нядзвецкага».

— Ды не кампазітара!

— А каго?

— Самавука, які марыў стаць кампазітарам і паэтам, але так і не стаў ім...

Пошта

## САМОТНІЦА ПАПЯЛУШКА...

*Колькі гадоў таму надарылася мне прачытаць раман «Игра в бисер» Германа Гесэ. З таго часу гэты дзіўны расповяд-роздум пра ролю і лёс культуры стаўся маёй улюбёнай чытанкай. А сёлета з вялікай асалодай і гонарам за родную мову перачытаў славуты раман ужо па-беларуску — «Гульня шкляных перлаў». Вялікі дзякуй ягонаму перакладчыку Васілю Сёмуху!* Думаецца, вось дзе аргумент у абарону нашае мовы ад закідаў з боку яе нядобразычліўцаў. Калі беларуская мова здатная перадаць столькі адценняў, пачуццяў і думак, якімі насычаны гэткі складаны мастацка-філасофскі твор, то няма аніякіх падстаў трызніць аб, маўляў, яе слабай распрацаванасці. Кіньце, спадарове, спярша пачытайце!

Варта зазначыць, што В. Сёмуха смела эксперыментуе. Там-сям трапляюцца ў яго новыя словаўтварэнні, якіх, бадай, не сустрэнеш у слоўніках. Але ж гэта толькі сведчыць пра багацце нашае мовы, пра тое, што яна жывая. Яе прыдатнасць для навуковых патрэб добра бачна, прыкладам, з «Тэрміналагічнага слоўніка па вышэйшай матэматыцы для ВНУ», зробленага пад эгідай тэрміналагічнай камісіі ТБМ. Нарэшце мы пазбавімся ад калькаў з рускай мовы — адымаемае, дзялімае, першаўобразная, накрыжляжачыя і г. д. Будзем казаць навучэнцам па беларуску: адымнік, дзеліва, першаісная, накрыжлеглыя і г. д. Вось толькі каб аўтары падручнікаў часцей гарталі падобныя выданні.

На жаль, апошнія выданні падручнікаў матэматыкі зноў утрымліваюць тэрміны-калькі. Цікава, што мы пабачым у 1 томе «Матэматычнай энцыклапедыі», які мае выйсці па-беларуску ў хуткім часе? Неяк не па-гаспадарску пазычаць, калі ёсць сваё. Да таго ж некаторыя беларускамоўныя тэрміны лепш перадаюць сэнс паняццяў, чым іх рускія адпаведнікі.

Вядома ж, без інтэрнацыянальнай тэрміналогіі не абысціся, але... Гляньма ў «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага. Паводле яго трыбуна гэта моўніца, вентылятар — душнік, аэрадром — лётнішча, гардэроб — адзежня, газон — кветнік... Чым блага? Ці не пара навукоўцам парупіцца аб выданні слоўніка, дзе побач з сучаснымі набыткамі падавалася б усё лепшае, што было назапашана даўней? Годзе бясконца перавыдаваць слоўнікі, якія спрычыніліся да нашай русіфікацыі! У адным з іх можна бачыць: подснежник — падснежнік. Ці можа падобная праца прэтэндаваць на навуковасць? Згодны, хай будзе і падснежнік, але мусіць быць і іншае слова.

У нашай, нядаўна цалкам рускамоўнай школе налета ўжо пяцікласнікі будуць усе прадметы засвойваць па-беларуску. Паўсюдна набірае моц пакаленне, якое запатрабуе скора і свядома аўтэнтычнай мовы. А сённяшнія студэнты і ўсе культурна заангажаваныя людзі чакаюць беларускіх перакладаў Платона і Гегеля, Борхеса і Сартра... Дзяржава мусіць даць ім магчымасць уваходзіць у сусветную культуру, паслугоўваючыся роднай мовай. Колькі працы для перакладчыкаў і колькі ж іх саміх патрэбна! Бракуе толькі павагі да іх з боку дзяржавы.

Здаецца мне, што Борхес — духоўны спадкаемца Г. Гесэ. Ягоная творчасць мроіцца як Гульня шкляных перлаў, а сам пісьменнік — яе Майстра! У гэтым кантэксце навэлы Борхеса ўспрымаюцца, як гульня з усімі сэнсамі і каштоўнасцямі культуры. Было б вельмі лагічна, каб В. Сёмуха наважыўся на пераклад Борхеса (калі ён яшчэ гэта не зрабіў, і хай не крыўдуе той, хто, мажліва, ужо пераклаў).

Што за цудоўныя пераклады для дзетак робяць у БГКАЦ! Уяўляю, якое свята будзе ў нас з дачкой, калі мы засядзем разам за прыгожа аздоблены беларускі варыянт «Капітана Гранта».

Вось толькі б дайшоў ён да Глыбокага. Пакуль што беларуская кніга выглядае самотнай Папялушкай на паліцах нашай кнігарні. 1 том Беларускай гістарычнай энцыклапедыі таксама да нас не патрапіў...

**Іван ХРАПАВІЦКІ,**
**настаўнік**

*г. Глыбокае*

# «ПРЫЙДЗЕ ЧАС, КАЛІ Я РАСКАЖУ ЎСЁ...»

## *РАЗМОВА З ІНКОГНІТА*

Ён падышоў да мяне ў бары і прывітаўся на цудоўнай беларускай мове.

— Чуў, што вы цікавіцеся лёсамі былых жаўнераў БКА...

— Так, хацеў бы сустрэцца з кім-небудзь з іх.

— А навошта?

— Каб ведаць усю праўду пра БКА. Думаю, што ў тых, хто быў у яе шарэнгах, крыху іншая думка пра сваю ролю ў вайне. Вось яе я і хачу высветліць... Можа, вы мне дапаможаце?

— Можа, і дапамагу. Я быў у БКА і магу расказаць вам пра свой лёс. Толькі пры ўмове, што вы не будзеце пытацца, як маё прозвішча...

— Згодзен. У вас, мабыць, ёсць падставы для гэтага?...

— Асаблівых падстаў няма. Але я не зусім веру, што на Беларусі перамагла дэмакратыя і што мой аповяд не стане зачэпкай для непатрэбных разборак...

— Вы баіцеся?

— Мне няма чаго баяцца. Я не ўчыніў ніякага злачынства, я нікога не забіў. Жыву ў вольнай краіне і за сябе трывожыцца не прыходзіцца. Больш турбуюся за сваіх родных, якія засталіся ў Беларусі.

— Вам ніколі не хацелася паехаць туды?

— Хацелася ад першага дня эміграцыі. Як бы я быў рады прайсціся цяпер па сасновым бацькавым лесе. Бацька мой быў лесніком і пасадзіў мо са сто гектараў лесу.

— А дзе вы жылі?

— У Заходняй Беларусі. Бацька мой служыў у графа Паслоўскага, які меў маёнтак у Альберціне. Там у графа была таксама папяровая фабрыка, млын, тартак. Ён меў двух сыноў — Францішка і Ксаверыя і дачку. На жаль, не памятаю яе імя. Цяпер яны жывуць у Англіі, Амерыцы і Мексіцы.

— Мо даводзілася быць у графскім доме?

— І неаднойчы. Стары граф быў добрым чалавекам. Не раз прыходзіў да бацькі ў хату. Сядзе і кажа: «Костка (гэта мой бацька), пакажы сваіх дзяцей». Ён меў слабы зрок, але любіў пагаварыць з намі.

— Размаўляў па-беларуску?

— Па-польску, дзе ты бачыў — па-беларуску! Ён не прызнаваў нічога беларускага. Бацька, акрамя службы, займаўся гаспадаркай. Абрабляў зямлю, і мы жылі з гэтага, пакуль не прыйшлі саветы...

— А як людзі ўспрынялі іх прыход?

— Па-рознаму. Напрыклад, мой бацька хадзіў сустракаць іх. Не ведаю, па якой прычыне... А яны на трэці дзень прыйшлі, забралі бацьку і забілі без суда і следства... Дзед расказваў мне, што бальшавікі прывезлі ў лес тры вазы людзей і там распраўляліся з імі. Над Шчарай закопвалі за Шылавічамі. Праз тыдзень мы хацелі з дзедам адкапаць бацьку, але нам не дазволілі...

— За што забілі вашага бацьку?

— Нехта напісаў на яго данос. А яшчэ людзі казалі, што чырвонаармейцу спадабаліся яго боты... За немцамі маці хацела перахаваць бацьку на могілкі, але не рашылася. Ён і сёння там ляжыць, мусіць. Мы жылі ў страху, пакуль былі бальшавікі. І калі прыйшлі немцы... Нас у маці было трое. Сястра была малодшай за мяне, а брат — старэйшы. Каб пракарміцца, я пайшоў працаваць на чыгунку. Разгружаў вагоны разам са слонімскімі габрэямі. Летам і ўвосень хадзіў да людзей малаціць. Два разы мне прысылалі позвы на работы ў Нямеччыну. Выручаў дзядзька: даваў каму трэба адкупнога і мяне не чапалі. Неўзабаве пачалася мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону. Сабралі нас у Альберціне. Аддзялілі чалавек трыццаць і паслалі будаваць абарончы бункер. Я таксама трапіў на будаўніцтва. Астатнія пайшлі ў казармы. У палітыцы тады я нічога не разумеў. Я не ведаў, што значыць фашызм, хоць немцаў я не лічыў прыяцелямі беларусаў. Перспектыва ваяваць у БКА мяне не вельмі цешыла. Але ўбаку мяне ніхто б не пакінуў. Трэба было ісці альбо ў лес, альбо ў паліцыю ці войска. Мой дваюрадны брат меў сувязь з партызанамі і падгаворваў мяне ісці да іх. Я быў рашыўся, а пасля падумаў: саветы забілі майго бацьку, — заб'юць і мяне. Я апынуўся ў бязвыхадным становішчы. Трэба было ратавацца. Малады, я хацеў жыць... Калі немцы сталі адступаць, я рашыў ісці з імі. Далі мне падводу і я вёз амуніцыю. Нас апранулі ў нямецкую форму. У Польшчы я трапіў у беларускую дывізію пад камандаваннем палкоўніка Зіглінга.

— Там былі адны беларусы?

— Так, усе між сабой гаварылі па-беларуску.

— А Зіглінг?

— Я яго ніколі не бачыў. Камандаванне было мешанае. Большыя пасады займалі немцы, а малыя — беларусы.

— Вайсковыя каманды падавалі па-беларуску?

— Па-нямецку. На нямецкім баку было таксама некалькі дывізій украінскіх, літоўскіх, латышскіх, рускіх...

— Што сталася з беларускай дывізіяй?

— Яе разбілі. І шмат людзей трапіла ў палон. Тых, хто ўцалеў, адправілі да генерала Уласава ў «Русскую освободительную армию». Я таксама прыбыў туды. Мы пачыналі разумець, што жывымі з гэтага пекла мала каму ўдасца вырвацца. На фронце людзі гінуць штохвілінна. Чаму мы павінны класці свае галовы няведама за што? Каб вырвацца ад Уласава, мы прыкінуліся палякамі, і нас перакінулі ў польскую дывізію, якая толькі арганізоўвалася. Пакуль мы дабіраліся да яе, пакуль набралі патрэбную колькасць людзей, — пачалася капітуляцыя. Мы здаліся амерыканцам... Нейкі час я правёў у лагерах. Адтуль падаўся ў Бельгію на шахты. Быў забойшчыкам. Аддубасіў там 7 гадоў. Добра зарабляў. Цяпер бельгійскі ўрад плаціць мне пенсію за гэта... Сумаваў па доме. Напісаў туды ліст. Атрымаў ад знаёмага адказ, што мой старэйшы брат Васіль забіты ў Берліне 5 мая 1945 года. Маці пасадзілі ў турму на дзесяць гадоў. Сястра выйшла замуж і выехала з дому... Я на чужыне. Наша роднае гняздо асірацела... Цяжка было мне перажыць гэтыя навіны. Пачаў шукаць сваіх людзей. Прыехаў у Амерыку. Разам з жонкай і малой дачкой. Мову не ведаў, асветы не меў. Прыйшлося зноў ісці на самыя цяжкія работы. Да абеду працаваў на стальной фабрыцы, а пасля абеду — будаваў людзям хаты. Удвох, яшчэ з адным беларусам, мы паставілі пяць зрубаў. Сваімі рукамі змайстраваў жытло сабе... Шмат памагалі беларусы. Уцягнуўся ў грамадскае жыццё. Я чуюся больш беларусам, чым амерыканцам...

— Дзіўлюся вашаму лёсу... За вайну вы паспелі пабыць у беларускім, нямецкім, рускім, польскім войску... За што вы ваявалі?

— Я не ваяваў. Я ратаваў сваё жыццё. У мяне не было ніякага выбару, ніякага выхаду. У такіх варунках былі тысячы беларусаў. Усіх нас пасля вайны назвалі здраднікамі...

— Вы не лічыце сябе здраднікам?

— Не лічу і не лічыў, бо ніколі ім не быў. Як звычайна, у вайну найбольш пакутуюць нявінныя людзі.

— Ці задаволены вы тым, як склалася ваша жыццё?

— Цяжкае маё жыццё. Вельмі шмат у ім болю і трагічных старонак. Я зразумеў, што і бальшавізм, і фашызм вельмі блізкія па сваёй сутнасці. Бо і для першага і для другога чалавечае жыццё — нішто. І гэта няправільна.

— Цяпер вы, мабыць, ужо на пенсіі?

— Так, але пару гадзін у тыдзень працую. Не дзеля грошай, а ў сваё задавальненне. На старасць гадоў заняўся музыкай. Вельмі палюбіў гармонік і ў 60 гадоў навучыўся іграць на ім. Маю цэлую калекцыю: італьянскі, нямецкі, амерыканскі... Нядаўна набыў на маркеце гармонік з Маладзечна. Знешне ён непрыглядны, але грае вельмі добра...

— Як мне прадставіць вас?

— Амерыканскі беларус Валодзя. Мо прыйдзе час, калі я раскажу ўсё. Але не цяпер...

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Дынаміка зрухаў у роднай прыродзе: усё больш навакольнага, усё менш асяроддзя.

●

Нармальнае становішча шлагбаума — вертыкальнае, рабочае — ненармальнае. На жаль, прынцып не універсальны — карыснае не заўсёды нармальнае.

●

Сорак дзве тысячы дзвесце хвілін у дні і ўсе непаўторныя? Калі ж я прапусціў сваю? Учора, пазаўчора, год назад? Дык жа ўсё часу не хапае!

●

— Таленавітае малое, не па ўзросту развітое, не кажа «дай», а кажа «на»... І гне прыслоўе да канца.

— І мой падобнае загнуў. Во сволач, дзе ён толькі чуў?

●

Дысертанта крытыкавалі ўсе. «Нічога, — сказаў ён упэўнена, — не заваляць». І як у ваду глядзеў. Вучоную ступень прысудзілі аднагалосна: ніхто не хацеў, каб нешта значыў крытычны водгук іншага.

●

Чаго чакаю ад тэлебачання? Хай словы «рэкламная паўза» значаць тое, што павінны азначаць, — паўзу ад рэкламы.

●

Клявалі фенікса чайкі і гідліва цмокалі: усе птушкі — з яйка, а гэная — з попелу.

●

Кабінетны інтэр'ер эры аднаўлення: Матка Боская цяпер замяняе Леніна.

●

У старажытнасці «Дземянцей» значыла той, хто не ведае мовы. Можа, чыесці імёны званчэй, ды калі браць гараскоп за аснову, характарыстыкі шчэ ямчэй — рак, баран, скарпіён, вадалей. Не з народзін пачынаюцца жыцці, і ўсё ж — не скажыце.

●

Вандэйская хроніка. Рэкецірская фірма ў абласным цэнтры распачала судовую справу супраць міліцыі за няўзгодненае затрыманне сваіх супрацоўнікаў. Фірма рэгулярна ашчаджала сродкі на ўмацаванне правапарадку. У суд ад міліцыі ніхто не прыйшоў, але начальнік аддзялення перадаў, што далей канкурэнцыі цярпець не будзе. «Хай не набівае цану», — адказаў на гэта кіраўнік фірмы.

●

Байка пра архітэктара, які праектаваў выдатныя комплексы, атрымліваў за гэта дыпломы, але кінуў усё, пайшоў вучыцца нанава, стаў скульптарам, лепіць пасрэдныя надмагільныя помнікі, а грошай атрымлівае кучу. Мараль: што ты робіш з кадрамі, сціплая зарплата дойлідаў?

●

Майстар старанна рабіў заначкі. «У фонд», — тлумачыў цікаўным для інфармацыі. А цяпер, калі хочаш, рашы задачку, як на камуністычных суботніках дасягалася найвышэйшая прадукцыйнасць працы.

## КОНКУРС ПРАДОЎЖАНЫ

Конкурс на лепшы твор для дзяцей (умовы надрукаваны ў «ЛіМе» за 26 лістапада мінулага года), які праводзіць Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей, прадоўжаны да 1 лістапада 1994 г.

Чакаем вашых твораў (песні, музычныя і драматычныя п'есы, вершы) на адрас: Мінск, пр-т Скарыны, 32б. РЦЭВД.

**Журы**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне дырэктару Дома літаратара, пісьменніку Віктару Лужкоўскаму з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Ірыне Жарнасек з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

**Калектыў рэдакцыі «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы часопіса Кудравец Любові Захараўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці сястры Ірыны.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 18.08.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

